Уладзімір
СІЎЧЫКАЎ

# Альтэрнатыва

## РАЗВАГІ Ў МУЗЕЙНЫХ ЗАЛАХ



Летась на пачатку лістапада я другі раз пайшоў быў на выставу, прысвечаную 100-гадоваму юбілею Язэпа Драздовіча. Але, на вялікі жаль, спазніўся — замест твораў слыннага беларускага мастака ў галерэі Дзяржаўнага мастацкага музея БССР ужо быў выстаўлены сучасны канадскі жывапіс.

Што было рабіць? Выстава сучаснага мастацтва, ды яшчэ з іншага кантынента, таксама забаўлівала. Набыў білет, што каштаваў ледзь не ўдвая даражэй, чым звычайна. Але выстава расчаравала, чакаў большага.

Білет дазваляў паглядзець усю музейную экспазіцыю, а таму я прайшоў па анфіладзе залаў, што пазначана дзіўнаю шыльдай: «Беларускі і рускі дарэвалюцыйны жывапіс». Даўно не заходзіў сюды і ў глыбіні душы спадзяваўся, што тут адбыліся значныя змены. Але спадзяваўся я дарма. Да шэрага пытанняў, што меў здаўна, даданіся новыя. Вырашыў звярнуцца з імі да людзей кампетэнтных.

**Ю. А. КАРАЧУН, дырэктар Дзяржаўнага мастацкага музея БССР:**

— Музей наш з'яўляецца рэспубліканскім музеем выяўленчага мастацтва. Заснаваны ён у Мінску ў 1939 годзе (да 1957 года Дзяржаўная карцінная галерэя).

У Айчынную вайну музей быў разрабаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Нанова адкрыты ў 1945 годзе пасля стварэння новых фондаў. З 1957 года працуе ў спецыяльна адведзеным будынку. У экспазіцыйных залах, фондах музея і яго філіяла захоўваецца 18 калекцый, што складаюць на сённяшні дзень амаль 20 тысяч твораў мастацтва.

— Юрый Аляксандравіч, ва ўсёй краіне адбываюцца прыкметныя змены, праходзіць пераацэнка каштоўнасцей. Ці закранулі гэтыя змены ваш музей?

— Я гаварыў пра наш будынак. Дык вось, ён застаўся, лічыце, незавершаным. У нас фактычна няма дзе захоўваць фонды, няма пакояў для супрацоўнікаў. Сёлета, пасля шматлікіх узгадненняў, нарэшце вырашана распачаць прыбудову. Але, на вялікі жаль, на падрыхтаванай намі пляцоўцы будаўнікамі трэста № 7 упраўлення «Мінскбуд» дагэтуль анічога не зроблена...

— Выбачайце за каламбур, але перабудова гэта не прыбудова. Хацелася б пачуць пра карэнныя, кардынальныя перамены. Ці вы лічыце, што ў музеі ўсё добра?

— Чаму ж, не. Але на прыбудову мы ўскладаем вялікія надзеі (бо дасць нам яшчэ адзін такі самы аб'ём) і лічым, што яна шчасліва супала ў часе з перабудоваю, стала магчымай дзякуючы ёй.

Апошнія 30 гадоў у нас вельмі актыўна папаўняліся фонды. Параўнальна нядаўна мы адкрылі свае філіялы — Музей беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах, музей В. Бялыніцкага-Бірулі ў Магілёве, вясковую карцінную галерэю на Мазыршчыне, узялі на баланс Мірскі замак.

Нашымі супрацоўнікамі зроблены значны крок у каталагізацыі асноўных фондаў. Стараемся разнастаіць і актывізаваць сваю рэкламную дзейнасць. Да кожнай выстаўкі робім плакат. У друку знаходзіцца плакат-буклет, а таксама трэцяе выданне альбома «Дзяржаўны мастацкі музей БССР», у якім значна пашыраны раздзел «Прыкладное мастацтва» і ўпершыню ўведзены раздзел «Замежнае мастацтва». Але тут мушу зазначыць, што адносна тыражоў друкаванай прадукцыі даводзіцца весці гарачыя спрэчкі з Дзяржкамвыдам і з кнігагандлем, асабліва, што тычыцца набораў паштовак.

Істотна мяняецца ў нас і выставачная работа. Беларуская ікона, напрыклад, не паказвалася ў нас з 1926 года. Таму, спадзяюся, гледачам запомнілася выстаўка «Беларускі тэмперны жывапіс». Некалькі найбольш значных твораў з яе мы выставілі ў пастаяннай экспазіцыі.

— Скажыце, калі мы ўжо загаварылі пра пастаянную экспазіцыю, ці не здаецца яна вам бляклым паўторам Траццякоўкі? Сёння ж любы аматар мастацтва можа паглядзець лепшыя творы рускіх перасоўнікаў у Маскве ці Ленінградзе. А між тым нашага нацыянальнага мастацтва ніхто за нас не пакажа — ні рускія, ні палякі, ні літоўцы.



— Такая пастаноўка пытання здаецца мне крыху неправамернай. Па-першае, выстаўленыя ў нас на другім паверсе творы такога высокага класа, што мы проста не маем права іх не выставіць. Ніводная ўсесаюзная выстаўка не абыходзіцца без таго, каб у нас не прасілі экспанатаў. Па-другое, часам надзвычай цяжка вызначыць, да беларускага ці рускага, польскага ці літоўскага мастацтва належыць той ці іншы твор. Нельга штучна адрываць адно ад другога, бо ў гісторыі мастацтва шмат што занадта цесна пераплецена. Да таго ж, калі мы будзем штосьці мяняць, дык парвуцца многія экскурсійныя звязкі і пераходы. Але па магчымасці мы ўводзім у пастаянную экспазіцыю творы беларускіх мастакоў. Апошнім часам дадалі палотны І. Аляшкевіча, С. Жукоўскага, І. Хруцкага, што-нішто з выстаўкі «Партрэт з Нясвіжа і Гродна», а між тым на падрыхтоўку яе было затрачана каля 15 гадоў. Руплівай працы рэстаўратараў вымагалі таксама многія абразы, тыя ж Нікольскія вароты. Дарэчы, мы ставім пытанне аб стварэнні рэстаўрацыйнага цэнтра, маем для яго высокакваліфікаваныя кадры.

— Выбачайце, але вы спачатку сказалі, што ў экспазіцыі нельга штосьці мяняць, а потым — што дадаяце некаторыя палотны. Вынікае, што змены ўсё-такі магчымыя? На жаль, не магу я пагадзіцца і са сцвярджэннем, што ўсе творы ў сталай экспазіцыі высакакласныя. Маю на ўвазе, напрыклад, пяроўскую копію з карціны Ж. Стэвенса «Гора вандроўнага катрыншчыка», кустодзіеўскую копію з карціны І. Рэпіна «Пасяджэнне Дзяржаўнага Савета 1 мая 1901 года», рэпінскі эскіз да «Запарожцаў» або аўтарскае паўтарэнне агульнавядомага палатна В. Пукірава «Няроўны шлюб». Ці не завялікая раскоша выстаўляць копіі, эскізы і паўторы пры страшэнным дэфіцыце выставачнай плошчы?

— Безумоўна, у нечым вы маеце рацыю. Экспазіцыю мы будзем абнаўляць, хаця і можам паказаць у ёй толь-

Працяг на стар. 7

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

КРЫНІЦА

№ 5 1989

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС
ЦК ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года



Выдаецца на рускай і беларускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ём якіх не перавышае 25 старонак машынапісу праз два інтэрвалы. Рукапісы рэдакцыя па пошце аўтарам не вяртае.

ПІШЫЦЕ: 220807
г. Мінск, ГСП
вул. Кісялёва, 11
ЗВАНІЦЕ: 36-60-71, 36-61-13, 36-61-42

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 16.03.89.
Падпісана да друку 24.04.89.
АТ 05219.
Фармат 60×90 1/8. Афсетны друк. Ум.-друк. арк. 5,5. Ум. фарб.-адб. 16. Ул.-выд. арк. 7,9. Тыраж 49 650 экз. Зак. 122. Цана 25 к.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск, Ленінскі праспект, 79

Вокладка мастакоў
С. ВОЙЧАНКІ і У. ЦЕСЛЕРА



## І АНІ СЛОВА!!!

Слова — справа. Справа — слова. Слова можа даць чалавеку крылы, але можа і прынізіць, зрынуць яго з вышыні. Можа параніць больш востра і балюча за любую дзіду. Старыя, як свет, і вядомыя ўсім ісціны. Але ці заўсёды, кажучы што-небудзь, думаем мы пра тое, што робім сваімі словамі: карысць або шкоду?

Наша завуч узбегла па лесвіцы і павярнулася тварам углыб сталовай, дзе сядзелі мы, вучні старэйшых класаў, і дзе павінна было нешта адбыцца. Паступова, пакуль яна набліжалася да нас, яе вочы суровелі, бровы хмурыліся, а твар прымаў усё больш сур'ёзны выраз. Напэўна, яна думае, што настаўнік, які ўсміхаецца — выглядае вельмі несамавіта. Нарэшце цвёрдым і рашучым голасам было заяўлена: «Каб ніводнага руху і ані слова! Інакш будзеце мець справу са мною». На твары ў завуча застыла зробленае прыемнае хваляванне. Хваляваліся і дзяўчынкі, якім давалі апошнія ўказанні: пасля якіх слоў уручаць кветкі і ці трэба цалаваць у шчочку. Словам, у школу прыходзіць ветэран. Знаёмая большасці сітуацыя, ці ж не так? Тэма сустрэчы была: «Барацьба СССР за мір». Самавіта агледзеўшы публіку, ветэран дастаў з кішэні памяты і спісаны аркуш і, раз-пораз зазіраючы туды, пачаў: «Выдатныя словы былі сказаны на нядаўняй XIX партканферэнцыі Леанідам Ільічом...— паўза.— Выбачайце, Міхаілам Сяргеевічам пра тое, што...» Не буду перадаваць далей увесь сэнс сказанага, прывяду толькі характэрныя выразы: «Мы прымусілі Злучаныя Штаты прыйсці на перагаворы», «Савецкі Саюз працягвае ўпарта наступаць на ўсе ядзерныя ўзбраенні».

Тры разы было паўторана, што скарочаныя ракеты склалі толькі 4 % ядзернага арсенала, ну а колькі разоў паўтаралася слова «перабудова», я ўжо і лічыць стаміўся. Але, як кажуць, скажы сто разоў «халва», а ў роце саладзей не стане.

Пад канец сустрэчы некаторыя вучні адкрыта смяяліся, большасць, нягледзячы на строгія позіркі настаўнікаў, размаўлялі пра сваё. Але затым ветэран змяніў тэму расказу: «А зараз я хачу пагаварыць пра сучасную моладзь. Спадзяюся, вы ўсе ведаеце пра забойства ў Мінску з пісталета дваіх людзей, прычым, забойца малады чалавек, а таксама, напэўна, усе чыталі артыкул «Зграя». Гэта што ж робіцца! Як магло здарыцца такое ў нас, у нашай гуманнай дзяржаве. І я хачу сказаць, што большасць моладзі цяпер такія ці падобныя да гэтых нягоднікаў. Дзе і хто іх выхоўваў?! У мой час такога ніколі не было!..» Такога, можа, і не было. Але было тое, што з прыёмаў у Георгіеўскай зале з нагоды парадаў фізкультурнікаў везлі ў асабістую рэзідэнцыю юрлівага ката Берыі фізкультурніц, якіх ён упадабаў. І гэта «верны друг і паплечнік вялікага і геніяльнага». Вядома, пра гэта сказаць цяжэй, лягчэй абвінаваціць цэлае пакаленне ў разбэшчанасці. Калі нарэшце старэйшае пакаленне адмовіцца ад усялякіх абвінавачанняў на адрас **ўсёй** моладзі? Мы ж такія розныя. Калі зразумеем, што падобныя гутаркі нічога добрага не прыносяць. Мы альбо перастаем верыць гэтым людзям, з вуснаў якіх толькі пра перабудову і чуеш, альбо ў саму перабудову.

Ды каб толькі адзін я так думаў, а то ж давайце паслухаем астатніх, што выходзілі пасля сустрэчы:

— Ты памятаеш, што ён казаў?

— А ў іх заўсёды адно і тое ж, памятаю, праўда, заклікаў перабудоўвацца.

— Бровы чорныя, густыя, прамовы доўгія, пустыя...

— Ну, дзядзька, умудрыўся: «Леанід Ільіч». Відаць, доўга гэтае імя прамаўляў, што ніяк не забудзе.

Я ішоў побач, і мне было смешна і сорамна. Пасля такой сустрэчы не варта дзівіцца і ўпадку цімураўскага руху, і, мякка кажучы, не такому ўжо і добраму стаўленню маіх равеснікаў да ветэранаў. Гэта ўсяго толькі вынікі. Памятаю, год назад на 23 лютага наша мужчынская палова класа гутарыла з генералам у адстаўцы. Ён, вядома, расказаў нам пра гераічнае мінулае Савецкай Арміі, а на заканчэнне, моцна стукнуўшы кулаком па стале, гучна запэўніў нас: «А амерыканцаў будзем біць!» І калі ж у нас з'явіцца адказнасць за кожнае сказанае слова?

**Аляксандр ДАРОШКА,**
**дзесяцікласнік**

## ТУРЫСТЫ БУДУЦЬ ЗАДАВОЛЕНЫЯ

**Апошнім часам у друку з'яўляецца багата матэрыялаў пра тое, як па-дурному марнуюцца народныя грошы, як нерацыянальна выкарыстоўваюцца (нягледзячы на іх відавочна малую колькасць) аб'екты сацыяльнага прызначэння.**

**Некалькі месяцаў назад я быў у Кобрыне. У цэнтры горада заканчваецца будаўніцтва дома своеасаблівай архітэктуры. Памеры — для райцэнтра — грандыёзныя. У будынку мяркуюць размясціць ваенна-гістарычны музей (у які ўвойдзе аддзел айчыннай зброі). Тым часам у Кобрыне зусім няма месца, дзе магла б нармальна прабавіць вольны час моладзь дый старэйшае пакаленне таксама. Безумоўна, музей (і не адзін) Кобрыну патрэбны. Але чаму б у такім прасторным будынку не размясціць і клубы па інтарэсах, і студыі для дзяцей і дарослых, і пры тых самых музеях якія-небудзь новыя формы — для дыскусій, сустрэч і г. д. Інакш кажучы, патрэбна перапрафіліраванне, перастаноўка акцэнтаў.**

**Усе гэтыя пытанні ў раённай газеце падымаюцца жыхарамі горада. А адказ гарадскіх улад заўсёды катэгарычна адназначны — як запланавана, так і будзе! І ўвогуле, маўляў, не вам меркаваць. Тым часам ужо ідуць аддзелачныя работы. І хутка кобрынскаму кіраўніцтву ўжо будзе чым уразіць замежных турыстаў. Толькі чым яно, кіраўніцтва, апраўдаецца ў будучыні перад народам!**

Уладзімір ШЧАЎКУН,
32 гады, мастак

## ШТО ВЫ ТАК, ТАВАРЫШЫ!..

Пасля класнага навагодняга вечара ўсім класам пайшлі прагуляцца па горадзе. (За паўтара года, што мы правучыліся, ні разу не збіраліся разам, нават на вялікія святы. Цяпер раптам зразумелі, што пасля дзесятага разляцімся хто куды, а ўспомніць дык і не будзе чаго. Упершыню нам стала цікава разам.) Адзінае месца, куды можна пайсці,— парк, але там пяць ліхтароў дый тыя разбітыя. Таму вырашылі пайсці на мост. Адтуль бачная вялікая частка горада, а ўнізе ходзяць электрычкі. Стаім мы на мосце, спакойна гамонім, і раптам ззаду спыняецца машына. Мы азіраемся. З кабіны вывальваецца чалавек у міліцэйскай форме і замахваецца жазлом: «Свалата пазбіралася! Ану разыдзіся!» З фургона выбіраецца яшчэ адзін і адчыняе дзверы, дэманструючы, што гатовы каго-небудзь пасадзіць туды. Мы настолькі былі збянтэжаныя, што вырашылі не звязвацца. Дзве дзяўчынкі адсталі, я азірнулася і ўбачыла, як «слуга правасуддзя» люта пагражае жазлом і крычыць ім нешта незразумелае. Выявілася, што адна з іх задала яму адзінае пытанне: «За што?» — і той адказаў пагрозамі (!).

Вяртаючыся дамоў, мы ўсе думалі: за што, за што нас так абразілі, прынізілі, чаму не разабраліся? Хіба можна так з людзьмі? Няўжо ўся міліцыя з такіх вось грубых і неачэсаных людзей? Успомніліся падзеі 30 кастрычніка ў Мінску. Цяпер мы ні за што не паверым, што там не лупцавалі людзей дубінкамі раз'юшаныя малойчыкі, самі ж мы ледзь не трапілі пад палку ахоўніка парадку! Колькі гэта будзе працягвацца? Чаму на вакзале ўначы бушуе пяцёрка хлопцаў на добрым падпітку, а двое начных дзяжурных міліцыянераў ціха адыходзяць, робячы выгляд, што нічога не бачаць. Што, страшна? А калі перад імі пятнаццаць школьнікаў, дык іх можна і напалохаць, так? Мы потым думалі: а што б стала, каб усіх, нават няхай не ўсіх, а некалькі нашых запхнулі б у машыну? Вось было б смеху: паўкамітэта камсамола школы — у аддзяленні! Цікава, а як бы там з намі абышліся? Думаю, не казалі б: «Прайдзіце, калі ласка, сядайце, калі ласка і г. д.» Такое бывае толькі ў кіно.

Што ж нам цяпер рабіць? Як жыць далей з гэтым каменем у душы? Гэтыя ж абразы і хамства забіваюць усякую веру ў справядлівасць закону!

**Дыяна ТОЎСЦІК**
**і яшчэ 15 подпісаў**

## ЗА МЯЖОЙ ІНАКШ...

**Мне 20 гадоў, жыву і працую ў горадзе Барысаве. Вашае выданне, прызнаюся, пачала чытаць нядаўна. Павінна сказаць, што вы друкуеце шмат фальшывага, асабліва з лістоў, якія да вас прыходзяць.**

**Чатыры месяцы назад я вярнулася з Венгрыі. Хачу сказаць пра ўсе гэтыя маладзёжныя праблемы. Шмат іх было, гэтых «шукальнікаў»: панкаў, любераў, «нішцякоў» і іншых. Проста злосць разбірае, ну ніяк не зразумею — чаго ім трэба! Самавыяўлення! Свабоды! Занадта ўвагі вы ім надаяце, дый не толькі вы. Калі чытаю пра тое, што ў пятнаццаць, чатырнаццаць гадоў ёй ужо ўсё абрыдла, яна ўсё ўжо паспрабавала, ці гэтыя падонкі, інакш іх неназавеш, скардзяцца на сваё змрочнае жыццё, з сябе выходжу. А вы ім толькі патураеце: «Ах, гаротныя, не могуць сабе месца знайсці!» А за мяжой, напрыклад, у Венгрыі, усё не так. Не ведаю, можа, я і недакладна перадаю свае думкі, але ўсё роўна хачу сказаць, вы ўжо прабачце. Іх трэба біць, забіваць. Але раз гэтага нельга — саджаць. Вы ўсё пішаце пра «металістаў» — вы напішыце пра металургаў. Вядома, гэта немагчыма — ваш часопіс тады чытаць ніхто не будзе. Я ведаю, гэты мой ліст не надрукуюць, вы проста пабаіцеся. «Галоснасць». Усюды «галоснасць». А што толку!**

Таццяна ВОЛГІНА

РАЎСЯ СТАЛІНІЗМ, БЫЎ «ГАТОВЫ·ДА ПРАЦЯГЛАГА ПАНАВАННЯ». Вельмі нават гатовы і да вельмі нават працяглага. Гэта абумоўлена асаблівасцямі даволі працяглай эры расійскага царызму з яго аўтарытарнасцю.

Дык вось, ад гэтых агульных заўваг пяройдзем да больш канкрэтных меркаванняў.

. . .

Карыстаючыся ленінскім метадам «раіцца» з класікамі, паспрабуем скарыстаць яго ў выпадку з пляханаўскім вучэннем аб ролі асобы ў гісторыі. Раскладзём разважанні — для зручнасці агляду — на пункты. Прычым зараз гэта будуць не прыступкі для лагічнага ўзыходжання, а розныя сектары адзінага кола з'яў, асобныя грані, вылучаныя мною па ступені іх значнасці.

Разглядаючы шэраг прыкладаў з французскай гісторыі, Пляханаў робіць наступнае значнае абагульненне: як ні несумненнае ў мностве гістарычных падзей дзеянне некаторых асабістых уласцівасцей, але не менш несумненна і тое, што яно магло быць толькі пры дадзеных грамадскіх умовах. Рускі мысліцель, які глыбей за ўсіх прааналізаваў гэтую найскладанейшую праблему, аднолькава важную ва ўсе часы, сам прапанаваў будучаму даследчыку скарыстацца ходам яго ўважлівай думкі і зрабіць адпаведныя замены: «У гэтых развагах трэба толькі ЗМЯНІЦЬ ТОЕ, ШТО ПАВІННА БЫЦЬ ЗМЕНЕНА, напрыклад, замест Францыі — паставіць Расію, замест Субіза — Бутурліна і г. д.»

Скарыстаем жа такую велікадушную паслугу выдатнага тэарэтычнага розуму і дэдуцыруем, дзе гэта дарэчы, з яго высноў і абагульненняў нашыя думкі на тым матэрыяле, які нас цікавіць непасрэдна.

Асобы дзякуючы наяўным асаблівасцям свайго характару могуць уплываць на лёс грамадства. Часам уплыў бывае даволі значны, але як і сама МАГЧЫМАСЦЬ ТАКОГА ЎПЛЫВУ, так і ПАМЕРЫ ЯГО ВЫЗНАЧАЮЦЦА АРГАНІЗАЦЫЯЙ ГРАМАДСТВА, СУАДНОСІНАМІ ЯГО СІЛ. Характар асобы з'яўляецца «фактарам» грамадскага развіцця толькі там, толькі тады і толькі настолькі, дзе, калі і наколькі ёй дазваляюць гэтыя грамадскія адносіны.

Акрамя таго, маштабы асабістага ўплыву залежаць, вядома, і ад таленту і стратэгічнага розуму дзяржаўнай асобы; праўда, і ў гэтым выпадку чалавек можа выявіць свой дзяржаўны талент ТОЛЬКІ ТАДЫ, калі ён зойме адпаведнае становішча ў дадзенай грамадскай сістэме.

Чаму лёс сацыялізму ў СССР у канцы 20-х і пачатку 50-х гадоў мог апынуцца ў руках чалавека грубага, капрызнага, гранічна свавольнага і ўладарнага, да таго ж недастаткова адукаванага дагматыка!

Таму што, кажучы пляханаўскімі словамі, такая была «грамадская арганізацыя» нашай краіны. Гэтай арганізацыяй і вызначаюцца ў кожны пэўны час тыя ролі, а, значыцца, і тое грамадскае значэнне, якія могуць прыпасці на долю таленавітых альбо бяздарных асоб. Ды і сам жа заснавальнік марксізму лічыў, як вядома, што кожны народ (трэба думаць, на кожны перыяд) мае той урад, якога ён заслугоўвае. Альбо, згодна з народнай мудрасцю, за што змагаліся, на тым і спатыкаліся...

Інакш кажучы, гістарычна прыгнечанаи, прывучанай да маўклівай пакоры масе, да таго ж некультурнай, нецывілізаванай, найбольш падыходзіў менавіта сталінскі варыянт «дзяржаўнага» сацыялізму, да іншага, дэмакратычнага, нават да нэпаўскага варыянта яна была яшчэ не гатовая. Інтуітыўна ўлавіўшы гатоўнасць масы да паслушэнства і зрабіўшыся яе правадыром, выкарыстаўшы пры гэтым пакорлівасць масы, Сталін насуперак нават, здавалася б, непарушнаму ленінскаму аўтарытэту, пачаў з таго, што «адкінуў НЭП к чорту!»[1]. Удумайцеся ў гэта сёння — амаль як у трагедыі Шэкспіра: «Два месяцы, як памёр... яшчэ і чаравікаў не знасіла, у якіх ішла за дамавінай...» Толькі што каля ленінскаи труны даваў усенародную клятву «з гонарам выканаць» усе яго запаветы, і тут жа пачаў з таго, што «адкінуў к чорту» самую першую, самую важную ленінскую і бухарынскую праграму гаспадарчага сацыялізму (гэта значыць, калі кожнаму паводле яго працы).

Такое не магло б здарыцца, калі б творца сістэмы аўтарытарнага сацыялізму не быў упэўнены ў тым, што народ пад яго кіраўніцтвам пойдзе на поўнае асабістае самаадрачэнне дзеля абяцаных яму даброт у будучыні.

Расія марксізм выпакутавала, казаў Ленін. На гэтай — рускай — глебе ўсё вялікае ўсяму народу і ўсім народам нашым трэба абавязкова ВЫПАКУТАВАЦЬ («на тым стаім і не можам інакш»). Патрэбны былі доўгія дзесяцігоддзі самаадрачэння і пакут, КАБ ВЫПАКУТАВАЦЬ І ПЛЕН МАРКСІЗМУ — САЦЫЯЛІЗМ, АЛЕ НЕ АЎТАРЫТАРНЫ (вось ён і аказаўся спачатку бліжэй за ўсё, таму што Расія стагоддзямі абвыкалася з аўтарытарнасцю царызму), а дэмакратычны, г. зн. чалавечы і чалавечны. Але для гэтага народ, які стагоддзі «безмолвствовал», павінен быў набыць свой «ГОЛАС БОЖЫ»— ГАЛОСНАСЦЬ. У сённяшняй галоснасці ён упершыню ў сваёй нацыянальнай гісторыі набывае «чалавечую годнасць свабоднага слова» (Герцэн).

Ці былі неабходнасцю або проста трагічнай выпадковасцю тыя дзікія, варварскія, сапраўды сярэдневяковыя «працэсы ведзьмаў», якія наладжваліся над «апазіцыяй» і справаздачы пра якія сёння немагчыма чытаць без дрыжыкаў!

Тагачаснае грамадства не мела магчымасці прымусіць яжоўшчыну альбо берыеўшчыну пайсці на «ўступкі» чалавечнасці або хоць бы проста законнасці: гэтаму перашкаджала яго ўласная таталітарная арганізацыя, якая ў сваю чаргу залежала ад суадносін грамадскіх сіл у СССР 30-х г. Значыцца, суадносінамі гэтых сіл і тлумачыцца ў канчатковым выніку тая, здавалася б, выпадковая акалічнасць, што змрочны параноідальны характар Сталіна і мярзотныя прыхамаці пастаўленых ім крыважэрных інквізітараў маглі мець такія трагічныя вынікі для лёсу савецкага народа, мільёнаў сумленных і бязвінных людзей. Так што аднаго толькі чыста псіхалагічнага тлумачэння тут недастаткова. Бо «прагу крыві» мог мець любы іншы чалавек — напрыклад, прафесійны забойца-рэцыдывіст (якіх колькі хочаш у свеце гэтага часу),— але гэта не мае гістарычнага значэння. ТАК ШТО СПРАВА НЕ Ў САМОЙ «ПРАЗЕ КРЫВІ», а ў грамадскім становішчы асобы, ёю заражанай, і, нарэшце, у грамадскай патрэбе на такую ўсёмагутную асобу.

Ягода, альбо яго наступнік Яжоў, ці Берыя, які змяніў у сваю чаргу Яжова, былі моцныя, вядома, не сваёй асабістаю сілаю, а ўладаю ўсемагутнага Правадыра. Да таго ж, падкрэслім яшчэ раз, ролі функцыянераў улады былі паслядоўна зменныя. Адных крывасмокаў змянялі другія, каб зноў пасля саступіць месца новым забойцам. Замест ЗАКОННАСЦІ, якая адпавядае духу ЦЫВІЛІЗАЦЫІ і з'яўляецца яе абаронцай, тут царавала СВАВОЛЯ — нязменны спадарожнік дзікунства і варварства.

Тады, у 30—40-х гг., не змагло ўзнікнуць законнае пытанне: калі сацыялізм — такі, дык навошта ён!

Заканчэнне будзе

---

[1] Больш падрабязна пра гэта гл. мой артыкул «От какого наследства мы отказываемся!» // «Октябрь». 1988, №№ 4—5.

У канцы сакавіка закончыўся працэс, а 5 красавіка 1938 г. здаецца ў набор і ў чэрвені выходзіць у свет брашура Пляханава тыражом 300 000 экз.— на той час велізарным, калі самога Іосіфа тыражы былі ненашмат большыя. У 1948 г. брашура была перавыдадзена.

Падрабязней пра гэта гл. у маіх артыкулах. // «Октябрь». 1988. № 5; «Советская культура», 1988. 30 ліп.

З прамовы на канферэнцыі аграрнікаў-маркістаў у снежні 1929 г. (И. Сталин. Соч. Т. 12. С. 381).

Гл. пра гэта мой артыкул «Гибель и возрождение Николая Бухарина» // «Советская культура». 1988. 6 кастрыч.



# Альтэрнатыва

Працяг.
Пачатак на 2-й стар.
вокладкі

кі 5—6 працэнтаў з таго, што маем. Агульны ж зварот музейных фондаў, як і ў цэлым па краіне, таксама вельмі невысокі — каля 15 працэнтаў. Нядаўна мы былі вымушаны закрыць на захаванне фондаў увесь першы паверх...

— Гэта значыць, што ў музеі цяпер наогул адсутнічае экспазіцыя сучаснага беларускага мастацтва?! Ці не катастрофа гэта ў культурным жыцці рэспублікі?

— Скажу больш, мы знаходзімся ў нейкім трагладыцкім стане. Такі горад, як Мінск, павінен быў бы мець як мінімум 3—4 мастацкія музеі: 1) беларускага мастацтва, 2) савецкага мастацтва, 3) рускага мастацтва, 4) замежнага мастацтва. А пакуль атрымліваецца, што мы ці не самыя неахайныя ў адносінах да сваёй спадчыны. Для параўнання скажу, што ў Таліне, калі не памыляюся, 4 мастацкія музеі, у Кіеве — 5, у Рызе — 3. А ў Вільні пад гарою Гедыміна нядаўна адкрыты вялікі музей прыкладнога мастацтва.

Што тычыць сучаснага беларускага мастацтва, то паказваць яго ў пастаяннай экспазіцыі мы зможам толькі з адкрыццём прыбудовы, недзе ў 1991—1992 гадах. А пакуль што выстаўляем яго на галерэі, і кожная другая выстаўка ў нас прысвечана мастацтву Беларусі. Шмат робіць для яго прапаганды рэспубліканскі Палац мастацтва, з'явілася магчымасць праводзіць сціплыя выстаўкі ў зале на праспекце Машэрава.

— У той зале найчасцей выстаўляюцца маладыя мастакі. Музей набывае іх творы?

— Абавязкова. Гэта, так сказаць, самы хадавы тавар. Напрыклад, у Іспаніі цяпер праходзіць выстаўка «Сучасны беларускі жывапіс», у Нарвегіі — «Графіка сучасных беларускіх мастакоў», у Югаславіі — «Сучаснае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі». Якраз творы маладых мастакоў увесь час ездзяць. Бывае, што выстаўку няма з чаго рабіць. Наогул жа, музейныя фонды штогод удзельнічаюць у 50—60 выстаўках у нашай краіне і за мяжою.

— Лічбы, вядома, унушальныя, але зноў жа даводзіцца канстатаваць пэўны нонсенс: лепшыя творы маладых вандруюць за мяжою, а вашы наведвальнікі іх не бачаць наогул. А цікавасць да іх вялікая. Можа, таму, што яны не баяцца парушыць каноны, імкнуцца ісці наперадзе? У нашы дні прыкметна расце цікавасць і да авангарднага мастацтва. Што робіць музей, каб задаволіць яе?

— На вялікі жаль, творы першай трэці нашага стагоддзя страчаны ў час вайны. Некаторыя з іх загінулі, частка захоўваецца на Захадзе ў прыватных калекцыях. Наша бяда ў тым, што не маем на іх юрыдычных дакументаў (тагачасных каталогаў, фотарэпрадукцый і г. д.), а таму не можам прад'явіць санкцый. Мала тут дапамогуць работнікі Фонду культуры і нават прагрэсіўныя заходнегерманскія журналісты: не можам даць ім дакументаў, на падставе якіх можна было б весці пошукі страчаных шэдэўраў.

Таму на сённяшні дзень няма ў музеі ні В. Кандзінскага, ні К. Малевіча, ні М. Шагала... А пасля вайны нашы папярэднікі, як вы ведаеце, мелі пэўную ідэалагічную ўстаноўку. За дзяржаўныя грошы нельга было набыць аніякі авангард — гэта абумоўлівалі і склад экспертных фарміраванняў, і арыентацыя на сацыяльны заказ.

Але і за тыя фонды, якія маем сёння, трэба падзякаваць найперш дырэктару музея ў 1944—1977 гадах А. Аладавай. Таму ў хуткім часе мы зможам правесці выстаўку «Беларускае мастацтва 20—30 гадоў XX стагоддзя», на якой пакажам палотны Р. Семашкевіча, М. Сляпяна, М. Станюты, М. Філіповіча і іншых самабытных мастакоў.

— Што ж, будзем спадзявацца, што яе належна ацэняць аматары мастацтва.

Я падзякаваў Юрыю Аляксандравічу за гутарку і папрасіў выказаць свае меркаванні пра Дзяржаўны мастацкі музей **кандыдата мастацтвазнаўства, загадчыцу аддзела і Музея старажытнабеларускай культуры пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР В. В. ЦЕРАШЧАТАВУ.**

— Дзяржаўны мастацкі музей, на маю думку, раней не ставіў выразна акрэсленай мэты збіраць старажытнае і дарэвалюцыйнае беларускае мастацтва. Гэта, відаць, і паўплывала на яго экспазіцыю. Хаця апошнім часам музейныя фонды значна папоўніліся творамі беларускага мастацтва, у тым ліку і старажытнага.

З 1974 года там знаходзіцца больш за 100 твораў жывапісу, скульптуры і разьбы XVI—XVIII стагоддзяў, якія былі перададзены музею на часовае карыстанне Акадэміяй навук БССР. Мы былі б вельмі ўдзячныя музею, калі ён урэшце вярнуў бы гэтую калекцыю законнаму ўладальніку — Акадэміі...

— Вольга Васільеўна, я разумею, што мастацкі музей у нейкай ступені ваш канкурэнт і ўзаемныя крыўды, відаць, непазбежныя. Але паспрабуйма аб'ектыўна ахарактарызаваць яго экспазіцыю, яе слабыя і моцныя бакі.

— Мусіць, атрымаецца ўсё-такі даволі суб'ектыўна. Несумненна тое, што музей мае выключна багатую калекцыю. Гонар яго — калекцыя жывапісных палотнаў рускага рэалістычнага мастацтва другой паловы XIX стагоддзя, у асноўным палотны мастакоў-перасоўнікаў. Але, на вялікі жаль, некаторыя супрацоўнікі музея, што прыйшлі туды ў пасляваенны перыяд, не ведалі ці не хацелі ведаць беларускае мастацтва. Думаю, што гэта адна з прычын таго, што гісторыя беларускага мастацтва, асабліва дарэвалюцыйнага, не прадстаўлена там у гістарычнай паслядоўнасці, цэльна і ўсебакова.

— Дырэкцыя сцвярджае, што ў экспазіцыю дадаюцца творы беларускіх мастакоў.

— Калі ўжо прэтэндаваць на ролю галоўнага мастацкага музея рэспублікі, то трэба найперш паказаць нацыянальнае мастацтва, а пасля ўжо рускае, замежнае, мастацтва народаў СССР. Музейная ж экспазіцыя, на маю думку, маральна састарэла. Настаў іншы час, і трэба было б пераадолець інерцыю, карэнным чынам перапрацаваць экспазіцыю, а не паднаўляць яе тым ці іншым экспанатам. Больш прыдзірлівы адбор твораў дазволіў бы вызваліць і дадатковыя плошчы, размежаваць рускае і беларускае мастацтва ў асобныя залы.

— А па якіх крытэрыях вы вызначалі б прыналежнасць твораў?

Заканчэнне на стар. 24

Кацярына БЛАГАДАРАВА

# Шукаю сястру

Прыязджаю ў Брэст з пунсовымі гваздзікамі. Для сястры Мані. Цяпер яна была б ужо бабуляю, і былі б у яе ўнукі. Але я не магу ўявіць яе бабуляю. І колькі б гадоў ні прайшло, будзе жыць боль за блізкіх, якія згарэлі ў страшнай вайне.

У старым куфры ў бацькоўскім доме знайшла стос пажаўцелых лістоў, якія запомніла слова ў слова. Сярод іх — дарожнае пасведчанне: «**Выдана Удовінай Марыі Канстанцінаўне ў тым, што яна з'яўляецца жонкаю палітрука 125 стр. палка Тараканава П. С. і накіроўваецца да месца службы мужа ад ст. Масква да ст. Брэст**». І дата — 25 красавіка 1940 года.

Разам нахлынулі радасныя і горкія згадкі. Да вайны Маня працавала на заводзе «Электравугаль» у Падмаскоўі. Памятаю, як праводзілі яе родныя, сябры, таварышы па працы. У той дзень нават уцякла з урокаў, каб правесці сястру. Асабліва сумна было развітвацца з яе сыночкам. Валерык нарадзіўся ўлетку 1939 года, і назвалі яго ў гонар Чкалава. Ён быў самы маленькі ў нашай радні, самы любімы. Самы, самы... Запомніла белую пуховую шапачку і ямачкі на ягоных ручках. Павел Сямёнавіч, муж сястры, трымаў сына на руках і ўсміхаўся. Як пасавала яму новенькая ваенная форма з зіхоткімі кубікамі на пятліцах! Ён супакойваў маці, Домну Мікалаеўну Тараканаву, якая не хацела ехаць гэтак далёка, на самую граніцу.

З якім нецярпеннем чакалі яны лістоў!

«...Спяшаемся паведаміць вам, што даехалі шчасліва. За нас не турбуйцеся, у нас усё добра...» І адрас: г. Брэст, вул. Каштанавая, 3, кв. 12.

«...Мама, я вельмі турбуюся за тваё здароўе. Беражы сябе. Бо нас жа ў цябе шмат, а ты ў нас адна. І тваё здароўе для мяне даражэйшае за ўсё. Як хочацца ўбачыцца з вамі...»

Да вайны ў нас была вялікая сям'я, бацькі працавалі ў калгасе і выхоўвалі дзевяць дзяцей. Маня была старэйшая. Мы ўсе яе вельмі любілі. Яна была жыццярадасная, добра спявала, танцавала цыганачку. Жылі мы сціпла, але дружна, дапамагалі адно аднаму. Маня пісала вельмі часта, таму што сумавала па родных.

«...Павел цяпер у штабе дывізіі, яго перавялі з палка. Яму прыходзіцца шмат займацца...»

«...Вучуся друкаваць на машынцы. Праз некалькі месяцаў буду мець новую кваліфікацыю. Вельмі зацікавілася гэтай справаю. Буду ўладкоўвацца на працу. Атрымалі пасылку і валёнкі Валерыка. Мы вельмі смяяліся, калі адзелі іх. Ён тупае, а хадзіць не можа... Хлопчык расце забаўны, стаў добра гаварыць...»

«...Мама, не сумуйце, мы ж недалёка, убачыцца заўсёды можна. Вельмі чакаем вашых лістоў. Калі атрымліваеш ліст, нібыта нагаворышся. Нават Валерык уважліва слухае, калі мы чытаем вашы лісты... Толькі вельмі сумуем. Пішыце часцей. Нам цікава даведацца, якія навіны ў вас, як жывяце, як працуе тата. Павел цяпер вельмі заняты, шмат працуе. Часта сталі займацца ў полі, у лесе. Адчуваецца напружанасць...»

«19.5.41. ...Мы жывыя і здаровыя. Жывём добра. Валерык стаў усё гаварыць. Купілі яму шарсцяны матроскі касцюмчык. Наконт адпачынку пакуль нічога не ведаем. Я хацела б прыехаць у канцы лета, калі Міша вернецца дамоў пасля службы. Ён піша нам часта і вельмі хоча сустрэцца з намі. Прыслаў фатаграфію. Як ён памужнеў! Хутка тры гады, як на граніцы... Перадавайце усім родным, сябрам і знаёмым прывітанне. Усіх моцна цалую. Вашая дачка Марыя».

Пра вайну пачулі па радыё. Калі дыктар сказаў, што зараз перададуць важнае ўрадавае паведамленне, прадчуванне было імгненнае: вайна! Уражаныя, не адыходзілі ад рэпрадуктара, слухалі і слухалі. Не хацелася верыць...

Пацягнуліся пакутлівыя дні трывог і чакання. Памятаю, з якою нудою і смуткам глядзелі жанчыны ўслед мужам, братам, сынам, якія ішлі на фронт. А потым — паветраныя трывогі, начныя налёты варожых самалётаў, пражэктары ў небе...

Ад старэйшых братоў вестак не было. Але больш ўсё непакоіліся за Мішу. Асабліва маці. Яна ўзіралася ў твары бежанцаў, хадзіла на станцыю, праводзячы цягнікі, якія ўсё ішлі і ішлі бясконцым патокам. Уначы прыслухоўвалася да кожнага шолаху, да кожнага стуку. Яна чакала ўсю вайну. Чакала і пасля вайны. Усё сваё жыццё. Маня з сынам і свякрухаю не вярнуліся.

Ніколі не забудуся на просьбу маці прывезці зямлі з Брэста на яе магілу. І вочы. Не забудуся, пакуль жывая. Калі маці не стала, яе боль перайшоў да мяне. Чытаю і перачытваю лісты, гляджу на фатаграфіі. Спрабую ўявіць Маню бабуляю. Але запомніла яе маладою. І другою, як ні стараюся, не магу ўявіць.

І вось я ў Брэсце. Іду па адрасах. Паказваю фатаграфіі сястры.

— Не, вашую сястру не ведаю,— кажа **Шымко Марыя Васільеўна**.— Да вайны я працавала ў шпіталі санітаркаю. Вайна заспела на дзяжурстве. У чатыры гадзіны на крэпасць абваліўся шквал агню. Ад выбухаў бомбаў і снарадаў зямля дрыжэла... Калі фашысты ўварваліся ў шпіталь, сталі прыкладамі забіваць хворых...

— Ну, што я вам раскажу!— усклікнула ўсхваляваная **Марыя Іванаўна Алісейка**.— Іх усіх расстралялі. У вёсцы Сцяброва... Да вайны мы жылі ў адным доме з Тараканавымі, нават у адным пад'ездзе. Яны на другім паверсе, мы — на першым. Добра памятаю Марыю. Яе нельга было не ведаць. «Грамадская» жанчына. Усіх на ногі паставіць. Вясёлая, энергічная, заўсёды ў добрым гуморы. І свякруху яе памятаю, хлопчыка Валерку. Такі жвавы быў, усё бегаў. Забаўны, проста дзіва... і мужа памятаю. Ён часта выступаў па радыё. Пра міжнароднае становішча, пра фінскую вайну, перад байцамі выступаў. Вельмі добра гаварыў. На майскае свята мы збіраліся разам. Марыя добра спявала і танцавала цыганачку. Апраналася яна добра. У яе была прыгожая белая сукенка і белыя чаравікі...

Мы разам беглі. Спыніліся непадалёк ад Сцяброва, у вёсцы Сакі. Нас узялі да сябе жыхары вёскі... Калі вызвалілі Брэст, сустрэла адну знаёмую жанчыну. Аняй яе завуць. Яна і расказала пра расстрэл. Лену Базараву з двума хлопчыкамі расстралялі, Хрысціну Рубцову з двума хлопчыкамі, Люсю Чысцякову... Усе яны жылі ў нашым доме. Пазней сустрэла знаёмую з вёскі Сакі, дзе жылі нашы жанчыны да расстрэлу. Яе таксама завуць Аня, а прозвішча не памятаю. Яна пацвердзіла, што ўсіх расстралялі ў Сцяброве. Там яшчэ абеліск стаіць...

Абеліск!.. Захацелася неадкладна ўбачыць тое месца. Лаўлю таксі. Па дарозе купляю некалькі букетаў кветак. І радасць, і боль перамяшаліся разам. Няўжо знайшла?!

Вось і абеліск на ўскраіне вёскі Сцяброва, у зацішным месцы, усё вакол патанае ў зелені. Надпіс: **«Тут 27 кастрычніка 1942 года нямецкія фашысты расстралялі 73 мірных савецкіх грамадзян».** Падышлі жыхары вёскі. Сталі расказваць пра расстрэл. Гаварылі хутка, перапыняючы адно аднаго. Перахапіла дыханне, калі пачула фразу: «Тут тры дні пасля расстрэлу варушылася зямля». У вушах стаяў такі гвалт, нібыта прысутнічала пры гэтым расстрэле. Страляніна і крыкі чуліся.

Не памятаю, як звалі таксіста, Слава ці Леанід. Як ён падтрымліваў мяне тады! «Вы можаце стаяць тут колькі захочаце, я пачакаю». І выключыў лічыльнік. Хацелася пабыць адной. Калі ўжо выехалі на дарогу, усярэдзіне штосьці абарвалася. Папрасіла прыпыніць машыну: хачу яшчэ раз зірнуць... І пабегла назад, да абеліска. Упала на магілу, разграбаю зямлю рукамі. А сэрца разрываецца на часткі.

Па дарозе ненадоўга заехалі ў школу № 2 у Жабінку. Збіваючыся, тлумачу ў перапынку настаўнікам і вучням, навошта прыехала. Прашу напісаць мне на хатні адрас, што яны ведаюць пра расстрэл. Але, жах які, адрас свой у той момант не магла згадаць, забылася...

**Галіна Мартыс**, піянерважатая школы, прыслала ліст і нават фатаграфію абеліска... «Разам з вучнямі мы хадзілі ў вёску Сакі, дзе жылі жонкі камсаставу да 27 кастрычніка 1942 года. Там жыве Цютчык Аляксандр Давыдавіч. Па фатаграфіі ён не пазнаў вашую сястру. Усё-такі стары чалавек і прайшло шмат гадоў. Ён расказваў, што перад расстрэлам усіх жанчын з дзецьмі сагналі ў Жабінку нібыта на рэгістрацыю, а адтуль павялі ў Сцяброва. Людскі плач, стрэлы чуліся ў навакольных вёсках... Страшны быў дзень. Пасля расстрэлу людзі баяліся падыходзіць да таго месца...» Яна таксама паведаміла, што ў Брэсце жыве Ганна Клыпа. Магчыма, яна ведае пра сястру...

Доўга не магла супакоіцца спачатку ў гасцініцы, затым дома. А потым зноў паездкі ў Брэст.

— Калі атрымалі фатаграфіі,— успамінае **Ганна Антонаўна Клыпа**,— Марыю пазнала. Так, яна жыла з намі ў вёсцы Сакі. З бабуляю. А вось хлопчыка не памятую... На фатаграфіі ваша сястра цікавая, прыгожа апранутая, з прычосачкай. Нічога агульнага з тым, што было тады. Самі разумееце, мы былі адзетыя ў чым уцяклі. Не, не ў Сцяброве — у Жабінцы яе расстралялі. Расказвалі, дзяцей кідалі жывых у яму. Падалі жанчыны — каторая параненая, каторая забітая. Аўтаматы страчылі. Потым фашысты танкам трамбавалі зямлю...

Пасля размовы з вамі па тэлефоне ўсё ўспамінаю, успамінаю. І не магу прыпомніць. Ваша сястра жыла ў Цютчыкаў. А мы цераз дом жылі. Вось гадоў дзесяць таму прыехалі б, можна было б успомніць. І Цютчыкава жонка жыла яшчэ, яна пэўна ўжо ведала. Памятаю, Хрысціна была, у яе два хлопчыкі, Лена Базарава — два хлопчыкі, ва ўсіх былі хлопчыкі. А вось Аня Муліна з дачкою расстраляная... Не ведаю, можа, таксама ў Сцяброве расстралялі... А можа, у Жабінцы, там таксама многіх забілі...

Еду ў Жабінку. Знаходжу помнік: **«Вечная памяць савецкім грамадзянам, расстраляным у гады акупацыі».** Непадалёк — другі помнік: **«Каханай жоначцы, цудоўнаму сябру... па-зверску забітай фашысцкімі катамі ў ліку 75 савецкіх грамадзян 27 кастрычніка 1942 года, Соф'і Фёдараўне Чубук, і дзецям Рэні і Светачцы ад мужа і бацькі падпалкоўніка Чубука Івана Фёдаравіча».**

А потым — вёска Сакі, у якой неадменна хацелася пабываць. Паказваю фатаграфіі сястры жыхарам вёскі, прашу ўспомніць.

— Калі пачалася вайна,— расказвае **Чыжэвіч Аляксандр Барысавіч**,— мне было адзінаццаць гадоў. Не памятаю вашае сястры. У нас у вёсцы багата было жанчын. Памятаю, побач з Цётчыкавою хатаю жыла бабуля з хлапчуком...

Жылі мы трывожна. Бясконцыя аблавы. Асабліва калі спалілі вёску Драмлёва з жыхарамі. Страху было... Расстрэл быў у Сцяброве. Забівалі жанчын і дзяцей. Пальба, крыкі, гвалт чуліся за некалькі кіламетраў. Усе баяліся выходзіць з хат. Назаўтра на тым месцы, дзе расстрэльвалі, зямля варушылася і кроў выступала наверх... Шмат людзей пабілі...



— Ваша сястра,— сказаў **Цютчык Аляксандр Давыдавіч**,— жыла ў Мікіты і Агаты Баран. Яны памёрлі. Гэтыя маглі расказаць падрабязна. Я дрэнна бачу. Па фатаграфіі не магу ўспомніць...

Аляксандр Давыдавіч запрашае ў святліцу. Паказвае грубку, у якой жанчыны гатавалі просты свой абед і ля якой адаграваліся. Расказвае далей:

— Не дай бог, каб паўтарылася тое, што было. Мы хаваліся хто куды. Спалі адзетыя, баяліся. Палілі вёскі з людзьмі, гналі ў Германію...

— У нас жылі жанчыны з дзецьмі,— уступае ў размову **Пракапчук Іван Астапавіч**.— Калі іх расстрэльвалі ў Сцяброве, мы з таварышам каля чыгункі залеглі, метраў за сто пяцьдзесят. Баяліся нават галаву падняць. Машына фарамі свяціла на яму. Увечары ўсё было. Цёмна. Дзяцей пакідалі ў яму. Страчылі аўтаматы. Крыкі, плач... Ніхто не падыходзіў. Баяліся. Увогуле жыццё было на валаску...

Вяртаюся ў горад. Іду ў гасцініцу. Не магу супакоіцца і сабрацца з думкамі. Зноў выходжу на вуліцу. З вялікай цяжкасцю знайшла адрас **Ганны Ільінічны Назарук**, пра якую згадвала Марыя Іванаўна Алісейка. Цяпер яна жыве ў Брэсце, але родам з вёскі Сакі. Там і жыла ў вайну.

— Я памятаю прозвішча Тараканавы,— пачала Ганна Ільінічна.— А вось у твар не магу ўспомніць вашу сястру. Столькі гадоў прайшло. Мы ж тады баяліся людзей, хаваліся. Памятаю, загадалі жанчынам з дзецьмі з'явіцца нібыта на рэгістрацыю ў Жабінку. А потым павялі на расстрэл. Выкапалі яму, паклалі дошку. Загадалі распрануцца. Вопратку кідалі асобна: дзіцячую ў адзін бок, дарослую — у другі. Хто паранены, хто жывы, хто забіты — больш жывых было — усіх звалілі ў адну яму... Мой бацька, Ілья Мікітавіч, бачыў тыя страшныя могілкі. Калі ён вярнуўся дамоў з дзяжурства, мы думалі, што ён звар'яцеў. Я бачыў, кажа, усё гэта. З усіх вёсак сагналі на расстрэл... Незадоўга да смерці бацька прасіў пахаваць яго каля тых пакутнікаў. Хіба пра гэта можна забыцца? Няхай ніхто ніколі не зведае праклятае вайны!

Ганна Ільінічна тэлефануе земляку, просіць успомніць Тараканаву Марыю.

— Я вам вось што скажу,— пачаў **Іван Гаўрылавіч Баран**.— Жанчын, што жылі ў нашай вёсцы, у Сцяброве расстралялі. А ў Жабінку іх выгналі на праверку. Грыша Чыжэвіч мог бы расказаць падрабязнасці. Ён памёр. Дык яму было загадана адвезці жанчын з маленькімі дзецьмі. Падводу далі. Калі ён вярнуўся, дык расказваў, што ўгаворваў жанчын па дарозе схавацца ў чароце ды кустоўі, а я, маўляў, старасту скажу, што даставіў вас на месца. Не, не згадзіліся яны. Аня Муліна з васьмігадовай дзяўчынкаю прыгаворвала: «Не, нікуды не пойдзем, дачцэ трэба спаць...»

— Гэта ж Маруся Тараканава,— усклікнула **Надзея Міхайлаўна Баран**, зірнуўшы на фатаграфію, калі я прыехала да іх дамоў.— Яна да нас вечарамі заходзіла. Мой брат яшчэ пажартуе, запросіць да стала павячэраць разам. Хоць якое там частаванне тады было! Маруся саромелася. Пыталася, ці трэба чым дапамагчы ў гаспадарцы. Больш гаманіла з нашаю нявесткаю. Я ж не замужам была, часта хадзіла да сясцёр у другую вёску. З галавы не выходзіць песня, якую яна спявала: «Час да по часу день проходит. В этот день куда скрылся мой хороший, с кем расстадась я вчера...» І плакала. А мы яе суцяшалі. Вельмі ўжо яна сумавала. Мы іх шкадавалі. Я часта згадваю вашую сястру. Хлопчыка памятаю. Як цяпер чую яе голас. Сядзіць з братавай жонкаю, пер'е перабірае і песню напявае. Смутак свой хоць на якую гадзіну прагнаць прыходзіла. Калі Грыша Чыжэвіч вярнуўся дамоў, братава жонка сказала: «Не вярнулася Маруся, не зойдзе больш да нас».

Калі Надзея Міхайлаўна сказала пра песню «Час да по часу», я нават уздрыгнула. У нас дома быў патэфон і пласцінка з гэтай песняю. Мы часта яе ставілі... У нашым доме часта збіралася ўся радня. Маня спявала, іграла на гітары і танцавала. Яна ўдзельнічала ў заводскай самадзейнасці, выступала ў Доме культуры, на аглядах у раёне і вобласці. Усе яе ведалі і любілі.

Муж сястры ўцалеў у той вайне. Дайшоў да Берліна. Заслужыў ордэны. Ён памёр у тысяча дзевяцьсот шэсцьдзесят другім годзе. Часта прыходзіў да маці. Я чула аднаго разу, як ён прызнаўся маці: «Увесь час шукаю Маню і не магу знайсці...» Ён ведаў, што Маня загінула. Відаць, шукаў у іншым чалавеку Маню... Не знайшоў. Вельмі кахалі яны адно аднаго.

Калі да нас дамоў прыходзілі сябры, родныя ці проста знаёмыя, маці абавязкова падводзіла да фатаграфій, якіх у рамках і рамачках на сценах было шмат. Уся радня. І казала: «А гэта Манечка... Дачка мая. Муж ваенны, павёз сям'ю ў Брэст на пагібель...» Яна часта стаяла ля фатаграфій, моўчкі разглядвала іх. Я і цяпер нібыта чую яе голас: «А гэта Манечка...» І не дае ён мне спакою.

Уладзімір БАРАВІКОЎ,
студэнт V курса БДУ імя У. І. Леніна

# РАЗ'ЯДНАНАЯ ДЗЯРЖАВА

## ДА 420-годдзя ЛЮБЛІНСКАЙ УНІІ

Першае збліжэнне Вялікага княства Літоўскага і Польскай дзяржавы адбылося яшчэ да Люблінскай уніі 1659 года — у 1386 годзе, калі яны аб'ядналіся на аснове асабістай уніі. Тады за вялікага князя Ягайлу была аддадзена наследніца польскага пасада Ядвіга. Стаўшы каралём польскім, Ягайла праводзіў палітыку, якая не задавальняла літоўскіх і беларускіх феадалаў. Спачатку супраць яго паўстаў старэйшы брат Андрэй Альгердавіч Полацкі (гл. пра яго: «Крыніца», 1988, № 10), а потым — стрыечны брат Вітаўт Кейстутавіч. Ягайла быў пазбаўлены вялікакняскай кароны. Вялікае княства тым не менш заставалася ў саюзе з Польшчай. Супольнае змаганне супраць нямецкіх крыжакоў (успомнім хоць бы Грунвальдскую бітву 1410 года), падобная сацыяльна-палітычная і гаспадарчая структура спрыялі іх далейшаму збліжэнню. Тым больш што польскі трон належаў Гедымінавічам. Пасля смерці Ягайлы, які цараваў у Польшчы пад імем Уладзіслава ІІ, каралём стаў яго сын Уладзіслаў ІІІ (1434—1444). Пасля смерці Вітаўта вялікім князем у 1430—1431 гадах быў родны Ягайлаў брат Свідрыгайла, а потым малодшы брат Вітаўта Жыгімонт Кейстутавіч (1432—1440). Сыны Кейстута не пакінулі спадкаемцаў, і на віленскі пасад у 1440 годзе быў запрошаны сын Ягайлы Казімір. Калі стаў вакантны кракаўскі трон, у 1447 годзе Казіміра выбралі каралём польскім. Гэтак зноў адзін Гедымінавіч атрымаў дзве кароны.

Пасля смерці Казіміра ў 1492 годзе вялікім князем літоўскім стаў яго сын Аляксандр, а каралём польскім — другі яго сын Ян Альбрэхт. І гэта нягледзячы на тое, што на Вялікае княства Літоўскае ў той час напала войска вялікага князя маскоўскага і Польшча прапаноўвала аднавіць асабістую унію ў абмен на ваенную дапамогу.

Вялікае княства Літоўскае было ў той час яшчэ моцнае. Яно здолела даць адпор маскоўскаму войску самастойна.

Трэці раз асабістая унія была адноўлена ў 1501 годзе, калі, не пакінуўшы спадкаемца, памёр кароль Ян Альбрэхт. На польскі пасад быў выбраны вялікі князь Аляксандр Казіміравіч. Пасля смерці Аляксандра, які таксама не пакінуў спадкаемцаў, вялікім князем у 1505 г. стаў ягоны брат Жыгімонт Казіміравіч. У 1506 г. яго выбралі на польскі трон. Жыгімонт Казіміравіч увайшоў у беларускую і літоўскую гісторыю як Жыгімонт Стары, а ў польскую — як Зыгмунт І Стары. Пасля яго смерці ў 1548 г. кароны вялікага князя літоўскага і караля польскага перайшлі да ягонага сына Жыгімонта Аўгуста (у Польшчы — Зыгмунт ІІ Аўгуст).

Амаль няспынныя войны з Масковіяй і крымскімі татарамі аслабілі Вялікае княства Літоўскае. У 1558 г. пачалася Лівонская вайна. Руская дзяржава хацела атрымаць выхад да Балтыйскага мора, рускія дваране — новыя памесці. Вялікае княства Літоўскае і Польшча перашкаджалі выхаду Масковіі да мора. Літоўскія і беларускія магнаты і шляхта не хацелі губляць свае ўладанні. Але іх сілы былі ўжо не тыя.

Страта Полацка ў 1563 годзе (15 лютага 1563 года полацкі ваявода вымушаны быў капітуляваць перад маскоўскім войскам) была моцным палітычным і ваенным паражэннем Княства за ўсю гісторыю войнаў з Маскоўскай дзяржавай на працягу XIV—XVI стагоддзяў. Быў адкрыты шлях на сталіцу дзяржавы — Вільню. Узяцце войскам Івана Грознага Прыбалтыкі і Полацка прывяло да таго, што ўсходняя і цэнтральная часткі Беларусі былі адсечаны ад мора, а гэта быў грозны ўдар па яе гандлі сельскагаспадарчымі прадуктамі.

КАРУНКІ ЧАСУ

Тое, што набліжаецца ваенная катастрофа, разумелі і раней. У сучаснай польскай і ў дарэвалюцыйнай рускай гістарыяграфіі высветлена пераломнае значэнне, якое меў лагерны сойм 1562 года, што праходзіў пад Віцебскам (яшчэ да страты Полацка). Ужо тады шляхта Вялікага княства хацела ўвайсці ў цесны дзяржаўны саюз з Польшчай. Яна рашуча запатрабавала заключыць унію з Каралеўствам Польскім. У лагеры пад Віцебскам была прынята «Просьба Каралю Яго Міласці, міласціваму пану ад усіх грамадзян і ўсяго рыцарства球 рознага стану Вялікага княства Літоўскага». Выстаўленыя тут пажаданні былі адмысловымі патрабаваннямі шляхты: «Першае: каб Кароль Яго Міласць хутчэй сабраў агульны сойм з палякамі і каб унія была адзіная... гэта значыць выбіраць аднаго пана, адзінае і агульнае войска, каб у нас быў агульны сойм, правы і вольнасці нашы, якімі карысталіся, па гэтай мірнай просьбе хочам сваіх паслоў абіраць і пры неабходнасці да паноў палякаў пасылаць, з паведамленнем Яго Каралеўскай Міласці і паноў Рады Іх Міласці».

Супраць дзяржаўнай уніі выступілі беларускія і літоўскія магнаты, якія баяліся за сваё становішча ў будучай аб'яднанай дзяржаве і хацелі захаваць сваю ўладу ў Вялікім княстве Літоўскім. Яны жадалі толькі ваеннай дапамогі ад польскіх феадалаў. Ды літоўска-беларуская шляхта настойвала на сваіх патрабаваннях. Каля 1563 года шляхціцы, якія былі тады ў паходзе супраць маскоўскага войска, заключылі асобнае пагадненне з мэтай дабіцца уніі любой цаной, нават насуперак панам радзе Вялікага княства, якая складалася з магнатаў і выказвала іх інтарэсы. Той, хто адступаў ад гэтага пагаднення, павінен быў лічыцца здраднікам, а ў выпадку перамогі прыхільнікаў уніі падлягаў выгнанню. А калі б паны рада надумалі чыніць пераследы ў дачыненні да каго-небудзь з удзельнікаў пагаднення, усе астатнія павінны былі заступіцца за яго як адзін чалавек.

Пытанне аб заключэнні дзяржаўнай уніі разглядалася і на каронным (польскім) сейме 1566 года ў Любліне. Невядомы ўдзельнік запісаў свае думкі і паасобныя ўрыўкі з прамоў шляхецкіх паслоў, якія выступалі на сейме. Мы знаходзім тут і выказванні аб адносінах да уніі прадстаўнікоў Вялікага княства Літоўскага. 27 чэрвеня 1566 года быў зроблены такі запіс: «Што датычыць уніі, дык Літва жадае яе». Жаданне гэтае, трэба думаць, вельмі ўзмацнілася пасля таго, як у Маскоўскай дзяржаве была ўстаноўлена апрычніна і шмат якія відныя дзеячы гэтай дзяржавы вымушаны былі ўцякаць ад смерці ў Вялікае княства Літоўскае.

Праз тры гады ў тым самым горадзе, у Любліне, на сейме 1569 года была заключана унія дзвюх дзяржаў, была створана «Рэч Паспалітая (г. зн. рэч агульная) абодвух народаў».

Барацьба розных груповак магнатаў і шляхты ў пытанні аб уніі прывяла да таго, што саюз быў заключаны на прынцыпах, якія не задавальнялі цалкам ні адзін з бакоў. Шляхта спадзявалася на поўнае аб'яднанне дзвюх дзяржаў, стварэнне агульнага сойма, агульнага войска, адзінага ўрада і на дасягненне адзіных з польскай шляхтай прывілеяў, якіх у шляхты Вялікага княства Літоўскага не было. Супраць гэтага выступалі магнаты і перш за ўсё паны рада, якія баяліся страціць свой уплыў у Вялікім княстве. Аднак пад націскам шляхты магнаты вымушаны былі пайсці на перамовы з каралём і польскім сеймам аб умовах уніі.

Прадстаўнікі Вялікага княства Літоўскага, магнаты, 10 студзеня 1569 года пачалі перамовы на агульным сойме ў Любліне. Яны выступілі супраць аб'яднання на прапанаваных умовах і ўначы з 28 лютага на 1 сакавіка 1569 года ўпотай выехалі з Любліна. Тады былі выкарыстаны супярэчнасці паміж літоўска-беларускімі магнатамі і ўкраінскай шляхтай (Украіна таксама ўваходзіла ў Вялікае княства Літоўскае). Украінская шляхта цярпела ад татарскіх і турэцкіх набегаў і не магла атрымліваць дастатковую дапамогу з далёкай Вільні, якая амаль увесь час была занята вайной з Маскоўскай дзяржавай. Таму ўкраінская шляхта ўпарта выступала за унію з Каронай Польскай, спадзеючыся з яе дапамогаю ўмацаваць паўднёвыя межы і аслабіць набегі з Крыма. Яе саюзнікам была польская і беларуска-літоўская шляхта. Усё гэта дазволіла Жыгімонту Аўгусту 5 сакавіка 1569 года здзейсніць акт інкарпарацыі, або, як сказана ў прывілеі, «вяртання» да Кароны Польскай зямлі Падляшскай. 26 мая да Польшчы была далучана Валынь, а 5 чэрвеня — Кіеўская зямля. Падканцлер Вялікага княства Літоўскага Астафі Валовіч страціў свае маёнткі ў Падляшшы за тое, што адмовіўся прысягаць на вернасць Жыгімонту Аўгусту як каралю польскаму (раней ён прынёс яму прысягу як вялікаму князю літоўскаму). З гэтага вынікае, што Жыгімонт Аўгуст як вялікі князь літоўскі стаяў на баку шляхты і, апроч таго, выказваў польскія інтарэсы. Лёс падканцлера Валовіча чакаў і іншых літоўска-беларускіх магнатаў, якія мелі землі на Украіне. Інкарпарацыя ўкраінскіх земляў праходзіла пры дапамозе мясцовай шляхты, якая, як правільна заўважыў М. Пакроўскі, больш клапацілася не пра абарону ад захопнікаў-палякаў, а пра абарону ад мясцовых арыстакратаў. Утварэнне Рэчы Паспалітай сведчыла пра тое, што ў Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім фактычны ўплыў пачаў пераходзіць ад феадальнай знаці да сярэдніх землеўладальнікаў.

«А што было рабіць! — скажа праз 20 гадоў Хрыстафор Радзівіл.— Былі мы непрыяцелем скаваныя, з таго і другога боку аголеныя... Адно нам заставалася ў гэтым смутку нашым, што ведаем іх караля, які паходзіць ад крыві нашай». Сапраўды, была яшчэ надзея, што Жыгімонт Аўгуст, патомак Гедыміна, у чыіх жылах цякла літоўская і ўсходнеславянская кроў, не дасць у крыўду Літву і Беларусь. Але кароль і вялікі князь не пакінуў сына.

У чэрвені 1569 года дэлегацыя Вялікага княства Літоўскага вымушана была вярнуцца ў Люблін. Прывілей аб уніі Вялікага княства з Каронай Польскай ад імя духоўных і свецкіх паноў, а таксама паслоў ад шляхты быў зацверджаны 1 ліпеня 1569 года. Праз шэсць тыдняў — 11 жніўня — было выдадзена яго пацвярджэнне. Сутнасць заключанага саюзу была ці павінна была быць у тым, што «Карона Польская і Вялікае княства Літоўскае — гэта адно непадзельнае і тое ж самае цела, а таксама адзіна агульная Рэч Паспалітая, якая не ведае адрозненняў і якая з дзвюх дзяржаў і народаў у адно звязалася і з'ядналася».

Але ўсё было далёка не так. Беларуска-літоўскія магнаты не хацелі змірыцца са стратай свайго ўплыву ў новай, шляхецкай Рэчы Паспалітай, са стратай самастойнасці Вялікага княства Літоўскага. У трэцім Статуце Вялікага княства Літоўскага (1588 г.) ярка выявіліся «сепаратысцкія» імкненні літоўскіх «патэнтантаў». «Статут Літоўскі — справа Льва Сапегі»,— пісаў у XIX стагоддзі польскі гісторык Казімір Туркоўскі. Патомак полацкіх баяраў, князь Леў Іванавіч Сапега, падканцлер, а потым і канцлер вялікі літоўскі, быў рэдактарам гэтага зводу законаў — адной з першых у Еўропе канстытуцый. (Пра Статут чытайце «Крыніцу», 1988, № 7.— Рэд.) Разумны палітык, выхаванец еўрапейскіх універсітэтаў, Леў Сапега пастараўся ўлічыць і памірыць інтарэсы як магнатаў, гэтак і шляхты Літвы і Беларусі. Гэта зрабіла Статут стабільным кодэксам, які дзейнічаў аж да яго адмены царом Мікалаем І у 1840 годзе.

Беручы пад увагу тое, што пасля смерці Жыгімонта Аўгуста спынілася дынастыя Гедымінавічаў і на троны ў Кракаве і Вільні сталі запрашаць чужаземцаў, складальнікі Статута пастараліся гарантаваць Вялікае княства Літоўскае ад магчымай небяспекі. Вось чаму ў гэтым дакуменце нідзе не згадваецца пра ўтварэнне адзінай дзяржавы. Акрамя таго, Статут забараняў палякам набываць зямлю і займаць дзяржаўныя пасады ў Вялікім княстве. Такое права мелі толькі старыя роды і тыя, хто нарадзіўся ў Вялікім княстве Літоўскім, добра вядомы і сапраўды жыве ў пэўным ваяводстве ці павеце. Гэтае палажэнне Статута пярэчыла акту уніі, у якім абвяшчалася права палякаў набываць землі ў Вялікім княстве Літоўскім.

У процілегласць акту Люблінскай уніі Статут замацоўваў значную дзяржаўна-палітычную самастойнасць Вялікага княства, якое на роўных правах з Каралеўствам Польскім уваходзіла ў склад федэратыўнай дзяржавы — Рэчы Паспалітай. Статут 1588 года замацаваў за Вялікім княствам Літоўскім права мець асобныя ад Польшчы дзяржаўныя ўстановы, войска, заканадаўства, эканоміку і фінансы. У кожнай дзяржавы былі свае межы. Гэтак, напрыклад, Збігнеў Асалінскі (жыхар Каралеўства Польскага) запісаў у сваіх мемуарах у 1612 годзе, што кароль загадаў яму, «каб каралеву правёў да літоўскай мяжы, а да таго часу каб быў пры ёй... у Варшаве, і працягвалася гэта да 12 ліпеня, калі выехаў з каралевай і суправаджаў яе да Васількова Літоўскага (цяпер у ваяводстве Бельска-Падляскім, ПНР.— У. Б.), куды прыбылі некалькі літоўскіх паноў, якія суправаджалі яе да Вільні».

Вышэйшым дзяржаўным органам пасля Люблінскай уніі быў сойм. Колькасць прадстаўнікоў ад Кароны і Княства на ім павінна была быць аднолькавая. Нягледзячы на гэта, соймы збіраліся і асобна. Першы раз пасля уніі сойм Вялікага княства Літоўскага быў склікaны ў 1623 годзе, апошні — у 1771 годзе. Усяго ў XVII—XVIII стст. соймаў Вялікага княства Літоўскага было 33, з іх 27 — у XVII ст.

Такім чынам, пасля Люблінскай уніі Рэч Паспалітая была вялікаю, але не з'яднанаю дзяржавай. Слаба змацаваная знутры, яна не была дужым і здаровым арганізмам, што і стала адной з прычын упадку федэрацыі і падзелаў яе ў канцы XVIII ст. паміж царскай Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй.

Антаніна ХАТЭНКА

# ВЫЙДУ КВЕТКІ ЗБІРАЦІ

Беларусы мала дзе праводзілі зіму — ладзілі масленіцу, як і нашы суседзі рускія ды ўкраінцы. Самым распаўсюджаным абрадам было гуканне вясны. З першага сакавіка чародкамі выходзілі дзяўчаты, жанкі на ўзгоркі, узбярэжжы рэк (а часта ўзлазілі на стрэхі хат ці гумнаў) і вясну гукалі. Клікалі-спявалі толькі жанчыны. Поўны чакання свежы дзявочы голас, што мякчэе, лагаднее ад прадчування шчасця, мацярынства, павінен выклікаць гэткую ж цягу пладаноснасці, завязі ў Зямлі. І лунаалі жыватворныя мелодыі ў наваколлі, пераклікаліся між сабой вёскі. Кожны радок загукальнай песні завяршаўся доўгім працяглым уздыхам-воклічам «Гу-у-у-у». З гары бліжэй было рэху чалавечай любові даструменіць да неба, да сонца, што лашчыць высокія мясціны першым цяплом.



Лясны дождж.

Фота Паўла ЦІШКОЎСКАГА
г. Магілёў

Гара ўзвышала чалавека да разумення злітнасці, узаемазалежнасці зямлі і нябёс, набліжала яго голас да яркага сонца, заклiканага аберагаць, асвятляць, зычыць або караць. Так-так, мы пакланяліся сілам прыроды, і свяцейшага бога не было. Вера ў супольнасць сугучча жывых істот і таемных з'яў навакольнага свету ратавала ад знішчэння і збуцвення. Можа, таму мы багатыя яшчэ на светлыя лясы, азёры, лугавіны... Перадалі нам дзяды-прадзеды неастылую моц малітвы да зямлі, да прыроды.

Песня-запытанне «Блаславі, маці, вясну заклікаці» адзывалася здалёку просьбай-замовай:

Жаваронаачкі, прыляціце,
Цёпла лецейка прынясіце.
Бо зімачка надаела.
Усе хлебушкі пераела.

Увесь сакавік не змаўкалі заклікальныя галасы. А 9-га, на саракі, сустракалі спеўнай грамадой 40 выраяў птушак, што неслі на крылах цяпло. Дзеткі падкідвалі ўгору печаных жаўранкаў, тулілі да грудзей птушанят мучных — зазывалі вестуноў вясны. З чыстай верай, што карагоды, гульні, танцы забяспечаць гармонію прыроды і людзей, нашы продкі не паўтаралі рухі ды гікі за дырыжорам — яны дыхалі песняй гэтак жа натуральна, як працавалі і кахалі.

Разгойдвала моладзь арэлі: на добрае здароўе, на даўгія сцяблiны лёну ды жыта. Шугаў веснавы агонь, спальваючы старое рыззё і атопкі,— значыць, зберагалі свой лёс ад хвароб і немачы, ад бруду і хлусні нашы дзяды. Распачыналі новы віток пад аховай агню. Бывала, тапілі ці палілі ў вогнішчы ляльку лютай зімы, адмыкаючы браму сонечным веснавым дням. І абвівалі, шчыльна атулялі агонь на ўзвышшы карагоды.

У некаторых мясцінах гукаць вясну пачыналі на звеставанне (благавешчанне), шмат дзе чакалі першага ліста, каб рэха не заблудзілася, але паўсюль у нашым краі пільна прыглядаўся селянін да змен у прыродзе — ці п'е певень з-пад страхі, як закукуе зязюлька. Гэта былі першыя прыкметы пары засявання, і яны прадвяшчалі шчодрасць ці галечу, дажджы ці сушу. На Палессі выпякалі лапку бусла, прызываючы дарагую птушку ў роднае гняздо. Каб кугакалі ў хаце дзеці, каб мірна ды хлебна было ў свеце.

Але паўсюль на Беларусі вясну клікалі з гары. Мабыць, недарэмна пазней хрысціянскія храмы сталі будаваць на ўзгор'ях.

Як толькі аціхаў апошні ўсплёск песень-вяснянак і, спавітыя вянкамі карагодаў, «пускалі» расіцу на травіцу паппавы, здалёку плыла мелодыя пастуховай дуды. На Юр'я — ахоўніка пладавітасці, раслінгасці — сяляне святкавалі дзень першага выгану скаціны на пашу. У паганскія часы, калі Ярыла яшчэ не быў перахрышчаны ў святога Юр'я, яму — боству сонца і ўраджаю — выносілі матулі 23 красавіка першую веснавую ахвяру: закопвалі пірог у жытнёвай руні, якую хадзілі з песнямі аглядаць. Каб не скупілася ніва на плён.

А якімі пахучымі травамі акурвалі кароў, коней, авечак, каб засцерагчы ад хвароб! Якія добрыя словы прамаўлялі:

Ой, выйду я, выйду кветкі
збіраці,
Юр'я, Юр'я, кветкі збіраці.
Кветкі збіраці, вяночкі віці,
Юр'я, Юр'я, вяночкі віці.
Вяночкі віці, Юр'я спяваці,
Юр'я, Юр'я, Юр'я спяваці.

І поўнілася хата водарам чароўных лекавых зёлак. І ад самага гукання да купалля вянчаў дзявочае чало вянок з беларускіх красак, галінак — узвышаў вясковую дзяўчыну да вялікасці прыгожай расквечанай зямлі. Не прыніжана хіліўся чалавек да пашанькі, а годна, гожа, па-гаспадарску, рупна даглядаючы ўсходы. І дбаючы пра дзень заўтрашні...

Можа, салодкая мроя пра дастатак ды хараство і вядзе веснавых валачобнікаў ад хаты да хаты з песняй-вітаннем, якая ўслаўляе каралеўну-гаспадыньку, яе паненак-дачушак і ўсю «ладную сямейку, багатую, у атласах, срэбры купаную»!

Ходзіць вясёлы гурт моладзі — пачынальнічак, падхватнічак, музыка, механоша (ды ці ўсіх назавеш!!),— спяваюць, зычаць шчасцейка, вітаюць сонца вялікае. І кожнаму, каго стрэне валачобная грамада на вуліцы, знойдзецца ўшанавальная песня: сталаму мужчыну, малайцу-жаніху, падлеткам, старэнькім, жанкам:

Добры вечар, пане гаспадару!
Вясна-красна на ўвесь свет.
Прыйшлі да пана як да багача.
Вясна-красна на ўвесь свет.

Залятае ў вокны шчырае слова — славіць вялікдзень. Бо гэта ў дзень вялікага сонца — вясенняга сонцастаяння — з'яўляюцца на Беларусі валачобнікі. Ніводзін народ не мае такога багацця велічальных валачобных песень, як беларусы. Ды і не дзіва, што цяжэе ад падарункаў торба механошы. Хто ж не аддзячыць за ласку?!

Прыстасавала хрысціянская царква да вялікадня пасху (уваскрэсенне Хрыстова), а свята як было ў імя зямнога працоўнага жыцця, так і засталося. Бо не парушыць глыбокую філасофію лучнасці чалавека і неабсяжнага Сусвету. Бо толькі гаючая еднасць усяго існага на зямлі не знікае, дае Працяг, у імя якога жыве трава, кветка, чалавек. Дзеля якога ўстае ясны золак.

Пасля вялікадня, поўнага сімволікі пачатку, з'яўлення пад гарачым сонцам кахання, дзяцей, светлай долі, наплываюць дні траецкія (сёмушныя). Белымі сцяжынкамі бягуць па лугах адбеленыя палотны з лёну. Раскручваецца зялёны сувой чаромхавых дзён, і захмеліць галаву салодкі пах аеру. На сёмуху ў дварах з'яўляецца шыкоўная брама з маладых бярозак. А хата прыбраная па-юнацку летуценна: пад бэлькамі бярозавыя ды кляновыя галінкі, усцілаюць падлогу аксамітныя стужкі аеру. Сёмуха — свята буйной зеляніны, маладой раскошы вецця, што ўвабрала п'яную сілу зямнога абуджэння. І зноў збіраюцца да маёвага лесу дзяўчаты, звіваюць з нахіленых бярозавых галінак вянкі — варожаць на шчасце. Праз тыдзень будуць агледзіны вянкоў: чый засох — не пайсці ёй замуж да наступнай тройцы.

А на Палессі ў гэтыя дні «водзяць куст». Адна з вясковых прыгажунь, абвітая, ахіленая веццем, ператвараецца ў «куст». Спеўная працэсія суправаджае «куст» на шляху па дварах, пытаючыся ў гаспадароў, ці можна «куста» заспяваці. Як і валачобнікаў, за песні-гімны «куста» частуюць святочным пірагом і рознымі ласункамі. Ладзяцца ля хат і карагоды-скокі: каб не абмінула сям'ю шчасце.

Праводзілі вясну нашы бабулі таксама з песнямі. Каб не пакрыўдзілася, назад вярнулася. Адбываўся архаічны абрад «ваджэння» і «пахавання стралы». Яшчэ ніхто не разгадаў старажытны сэнс гэтых магічных дзеянняў: можа, загавор супраць маланкі... Апошні раз завіваўся веснавы карагод на жытнім полі, дзе закопвалі «стралу» (пацерку, пярсцёнак, каснік) з ціхім нашэптваннем: «Закапаю цябе, каб лепшай вярнулася».

«Страла» ў кожнай з дзяўчат была свая, і закопвалі яе паасобку. Вяршылася таямнічае дзеянне. Наўрад ці ўдалося хоць аднаму хлопцу потым знайсці «стралу». Да жыта ж ішлі ўсе разам, беручыся за рукі, пеючы:

А ідзі, страла, ды ўздоўж сяла,
Охі-ой, люлі, ды ўздоўж сяла.
Ды ўздоўж сяла — упоперак
вуліцы.
Ой не бі, страла, добрага
малойца.

А ці даводзілася вам чуць залівісты смех русалак веснавой ноччу, што вось-вось пяройдзе на летнюю мяжу?! Душы тапельніц і прыдушаных немаўлят, на думку продкаў, набывалі воблік зеленакосых русалак, страшных сваёй прывіднай красой.

Так, чалавек адвеку шукаў таямніцы ў свеце, распавядаў чароўныя гісторыі і сам свята верыў ім. Бо чалавек — мастак па сваёй сутнасці, і сцвердзіць сваё высокае прызначэнне на зямлі ён павінен працай, казкай, песняй.

Так ці іначай, але прага цудадзейнага ўздымала да творчых вяршынь спасціжэння свету і сябе. Чуйна слухаючы рэха былых павер'яў, кожнае пакаленне пакідала на зямлі зіхоткія дыяменты высокай паэзіі. І калі вялі дзяўчаты ў жыта сваю прыгажуню русалку ў белай кашулі, калі разблытвалі ручаіны яе кос, а потым зрывалі з сяброўкі вопратку і ўцякалі,— верылі, што казка збылася, яна ёсць. І дзеля гэтай страшнай явы, што наскрозь працінае бояззю і неўтаймоўным жаданнем ведаць, хочацца жыць! А выбраная русалка бегла ў месячным сяйве, акропленая расой, адкрытая дзявочай красой прытоенай ночы, і плакала-смяялася-спявала. Дзе яшчэ спаткаеш гэткае дзіва:

У ядраным жыце
Там русалцы жыці,
Рана-рана,
Там русалцы жыці.

Жыта — жыццё — вось кропкі Сусвету для ратая-сейбіта. Нездарма вясёлка веснавых абрадаў, як жытнёвае перавясла, звіта з думак і песень пра жыта. Русалка, і тая на Беларусі ў жыце начуе. Бо праца, каб ўзышоў на стол бохан хлеба, каб цалавалі духмяную лусту дзеткі,— аснова, на якой затчэцца і свята, душы патрэбнае.

Пакуль нічога больш высакароднага за старадаўнюю талаку не прыдумваў цывілізаваны свет. А ў народзе ж захавалася традыцыя веснавой, летняй, восеньскай талакі і простай штодзённай дабрадзейнасці. А песень працоўных, лепшых за талочныя не чуваць... Толькі світальна ўзышла на гарадскім бруку мінская «Талака» — аб'яднанне моладзі, змацаванае працай, песняй, думкай пра наступнікаў. Гэта яны, няўрымслівыя талакоўцы, адраджаюць старадаўнія святы цяпер. Гарадскія хлопцы, дзяўчаты ажывілі песню дзядоў, надалі ёй моц. Парадокс часу! Не! Зямля счарсцвела б, калі б адданыя рукі яе дзяцей не ратавалі чалавечае.

Штогод калядуюць, гукаюць вясну, валачобнічаюць, ладзяць купалле заўзятыя талакоўцы. І як ні абураецца тэхнакрат, маўляў, навошта гораду аграрныя святы, людзі вылузваюцца з духоўнай галечы, як з дзіравых апранах. Ідуць слухаць мелодыю вечнай талакі. Каб далучыцца і разам засеяць зерне дабра, як адвеку рабілі беларусы.

# МІТЫНГ У ПАДТРЫМКУ ПЕРАБУДОВЫ

**Мінск. 19 лютага 1989 года. Стадыён «Дынама». Ужо ветрана, але яшчэ пахмурна. 35 тысяч гледачоў.**




**...І зямля не расступілася, і нябёсы не абрынуліся. Сабраліся, памітынгавалі, разышліся. Ні дубінак, ні газу, ні вадамётаў дзеля навядзення страху. У разумных межах разумная ахова грамадскага парадку. Вольныя людзі ў вольнай краіне, якія ўсведамляюць неабходнасць падпарадкоўвацца закону. З непрывычкі нават нецікава...**

**Нефармалы разыходзіліся, ідучы па вуліцах з транспарантамі і сцягамі. Спявалі, абдымаліся. Святкавалі перамогу.**

**Не было сумятні і ў процілеглым стане — сярод, так сказаць, фармалаў. Тут вырашылі, што нефармалы — дэмагогі і фразёры — цалкам абанкроціліся пасля «чатырохгадзіннай балбатні», выявіўшы сваю палітычную блізарукасць і бездапаможнасць. Інакш кажучы, і тут святкавалі перамогу, водгукі якой магутным рэхам пракаціліся па старонках газет.**

**Такім чынам, у адной сустрэчы мы маем дзве перамогі адразу. Беспрэцэдэнты выпадак у гісторыі сустрэч на стадыёне «Дынама».**

**Няхай не ўвядзе нікога ў зман танальнасць на пачатку нашага каментарыя! Мы ўсведамляем, што падзея адбылася сур'ёзная. І вельмі няпроста па гарачых слядах ацаніць, як яна спрацавала на перабудову, задачы якой, нягледзячы на рознагалоссе ў поглядах, прыйдзецца рашаць усё-такі ўсім нам разам. Бо для ўсіх яны аднолькава жыццёва важныя.**

**Думка гэтая нельга сказаць, каб новая, але мы, на жаль, упарта не жадаем яе рэальна прыняць. Кожнаму пакуль толькі асабісты погляд, толькі асабісты лад думак і дзеянняў уяўляюцца адзіна правільнымі. Але такога не бывае. Адзіна правільнае — у адзінстве мностваў.**

**Адно з такіх мностваў — погляд на праблемы перабудовы доктара тэхнічных навук, прафесара А. Саламонава. Мы публікуем ягонае выступленне не таму, што ён не паспеў узяць слова на мітынгу, і не таму, што яно ўяўляецца нам самым правільным. Проста ў адзінстве павінны ўлічвацца ўсе мноствы. Плюралізм ёсць плюралізм, і свабода слова ёсць свабода слова. І час ужо да гэтага паступова прывыкаць. Як тым, каму гэта дужа падабаецца, да спазмаў анархічнага захаплення, так і тым, каму гэта не надта падабаецца.**

**АДДЗЕЛ ПУБЛІЦЫСТЫКІ**



# ТОЕ, ШТО Я ХАЦЕЎ СКАЗАЦЬ НА МІТЫНГУ...

## СЛОВА

Я ўпэўнены, што перабудове патрэбна ўсенародная абарона. Змест і тэмпы перабудовы залежаць перш за ўсё ад выбару яе мэтавага накірунку, метадаў рэалізацыі і, галоўнае,— ад якасных паказчыкаў удзелу ў ёй усяго грамадства. Гэта неабходнейшая ўмова, без якой партыі, нават пры адсутнасці ў ёй ценявых бакоў мінулага і істотных недахопаў цяперашняга, з задачамі карэннага абнаўлення ўсіх аспектаў нашага жыцця не справіцца.

Правядзенне такога маштабнага мітынгу ў падтрымку перабудовы — безумоўнае сведчанне змены сітуацыі ў рэспубліцы, доказ нашага руху па шляху дэмакратызацыі. Замінаць гэтаму руху неразумна, спыніць яго немагчыма. Значыцца, важна, каб яго накіраванасць была ўсебакова карысная. Спрыяць гэтаму павінны не ўзаемныя абвінавачанні ў крыклівасці, у адсутнасці культуры дыскусій, а цвярозы роздум з канкрэтнымі ўзважанымі прапановамі, заснаванымі на тым, што цяперашняе — каранямі ў мінулым, будучае — на плячах у цяперашняга. Гэта вымагае глыбокага выкрыцця заган мінулага, іх самага аб'ектыўнага асэнсавання, каб закрыць назаўжды шляхі да іх адраджэння ў любым абноўленым выглядзе. Гэта ў першую чаргу датычыцца праяў сталінізму, брэжнеўскага «важдзізму» і іх заканамернага выніку — адхілення народа ад удзелу ў рашэнні ўласнага лёсу.

Рашэнню асноўных задач перабудовы істотна можа дапамагчы карэкціроўка некаторых тэарэтычных фармуліровак. Напрыклад, само жыццё настойліва патрабуе ўдакладніць зыходны пастулат: «Быццё вызначае свядомасць». Хаця б таму, што менавіта на ягонай аснове ўзнікла знакамітае: «Калі вораг не здаецца (маецца на ўвазе класавы), дык яго знішчаюць». І таму яшчэ, што на дадзеным гістарычным этапе, як ніколі, вялікую ролю іграе чалавечая духоўнасць. «Свядомасць, заснаваная на ўліку ўсіх рэальнасцей быцця і мэтавых установак жыцця, вызначае ўчынкі і дзеянні людзей». Такую я мог бы прапанаваць фармуліроўку.

Аўтарытэт партыі адно ўзрасце, калі канкрэтызаваць змест лозунга: «Планы партыі — планы народа». Цяпер ён успрымаецца так: народ павінен і абавязан выконваць рашэнні партыі. Аднак партыя створана дзеля служэння інтарэсам народа. Значыцца, ацэнку гэтаму служэнню можа даваць толькі народ. Таму правільна была б такая канкрэтызацыя лозунга: «Партыя прапануе, народ аналізуе і прымае рашэнні». Гэта павінна датычыць усіх найгалоўнейшых пытанняў жыцця краіны, уключаючы міждзяржаўныя, на любым узроўні. Тады знікне магчымасць паўтарэння такіх трагедый, як, скажам, амаль дзесяцігадовая вайна ў Афганістане.

Зацвярджэнне дэмакратычных асноў жыцця грамадства немагчымае без істотнай змены парадку абмеркавання праектаў законаў. Цяпер гэтае абмеркаванне толькі фармальна можна назваць усенародным. Усе рашэнні па дасланых прапановах прымаюць цэнтральныя камісіі, якія стварылі гэтыя праекты, і таму праекты амаль без змен пераўтвараюцца ў законы. Змяніць такое становішча можна толькі шляхам больш шырокага абмеркавання прапанаваных праектаў у друку з мэтаю адбору цэнтральных пытанняў для ўсенародных рэферэндумаў. Рацыянальную форму іх правядзення неабходна распрацаваць, прадугледзеўшы прамое выяўленне волі народа як па найважнейшых асноватворных законах, так і ягоную волю, выяўленую праз народныя прадстаўнічыя з'езды па рэгіёнах пры разглядзе спецыфічных праблем. З іх сёння першачарговымі з'яўляюцца праблемы ўнутрынацыянальнага характару.

Наспела неабходнасць у тым, каб удакладніць паняцце «партыйнасць» у дачыненні да ўсіх сфер навукі, культуры, літаратуры, мастацтва і грамадскіх зносін. У тлумачэнні і ўжыванні названага паняцця маюцца відавочныя перагібы. Так, мне сустракалася патрабаванне партыйнасці нават у дачыненні да геаметрыі на той падставе, што ў перакладзе з грэчаскай гэтае слова азначае «землевымярэнне», а зямля, маўляў,— багацце ўсенароднае. У аснове ўсіх чалавечых дзеянняў і памкненняў павінны прэваліраваць маральныя каштоўнасці.

Найпершымі — пасля задачы захавання міру на Зямлі — з'яўляюцца цяпер экалагічныя праблемы. Заклікамі многае тут не зробіш. Часта патрабаванні аб закрыцці АЭС і прамысловых прадпрыемстваў гучаць залішне катэгарычна. Людзям патрэбныя энергія і прадукты жыццезабеспячэння. Магчымасці замяніць АЭС цеплавымі станцыямі змяншаюцца ў выніку збяднення рэсурсаў нафты, газу, вугалю. Няма куды высяляць экалагічна шкодныя прадпрыемствы з гарадоў. Няма жадаючых іх прымаць. Значыцца, паўстае найсур'ёзнейшая задача выхаваць у кожным чалавеку ўнутраную патрэбу ў абароне прыроды ўсюды,





ва ўсім і заўсёды. Рабіць гэта трэба з дзіцячага ўзросту. Праекты энергетычных і прамысловых аб'ектаў павінны выконвацца на ўзроўні самых перадавых тэхналогій і праходзіць экалагічную экспертызу.

Грамадства невымерна выйграе ад змякчэння празмернага кантролю над сродкамі масавай інфармацыі. Па-мойму, своечасовая і плённая ідэя, якая прагучала на XIX партканферэнцыі: партыйныя газеты павінны быць органамі партыі, а не ЦК. Натуральна, гэта трансфармуецца і на камсамольскія, маладзёжныя выданні. Патрэбная не цэнзура — неабходны закон аб друку.

Развіццё галоснасці, пашырэнне правоў чалавека і яго свабод, ураўніванне ўсіх у гэтых правах часова мае і негатыўныя бакі. Ідэі Свабоды, Роўнасці і Братэрства, праклемаваныя Вялікай французскай рэвалюцыяй, атрымліваюць часам прымітыўнае тлумачэнне. Свабода часта ўспрымаецца як усёдазволенасць. Роўнасць — як ураўнілаўка і размеркаванне грамадскага багацця не па працы. Братэрства — як панібратства і ўсёдаравальнасць. Свабода ж на самай справе — адказнасць перад бліжнімі і грамадствам. Роўнасць устанаўліваецца без прымусовай ураўнілаўкі, без звядзення вышэйшага да ніжэйшага, таго, хто працуе, да гультая. Братэрства грунтуецца на маральных прынцыпах павагі гонару і годнасці як асобнага чалавека, так і груп, класаў, народаў.

Нядаўнія выбары ў Вярхоўны Савет краіны паказалі, што ў некаторых акругах нашай краіны, у тым ліку і ў нас на Беларусі, быў выстаўлены адзін кандыдат. Думаецца, трэба вярнуцца да становішча, якое было зафіксавана ў праекце закону аб выбарах народных дэпутатаў, а затым выпала з самога закону: у выбарчым бюлетэні, дзе стаіць прозвішча аднаго-адзінага кандыдата, абавязкова павінны стаяць словы «за» і «супраць». Выбаршчык павінен задумвацца над тым, каму давярае лёс айчыны. Думаю, такі артыкул трэба ўвесці ў закон аб выбарах народных дэпутатаў БССР.

Вялікую шкоду партыі і народу прынеслі людзі, якія атрымалі вучоныя ступені на апяванні ўсяго, што звязана са сталінізмам, брэжнеўскім разлажэннем, з нізкапаклонствам, падхалімажам, скажэннем гістарычнае ісціны, падманам народа і алілуйшчынай. Многія з іх кіруюць навуковымі падраздзяленнямі, кафедрамі, калектывамі. З пазіцый маральнасці разумна было б сёння правесці атэстацыю на адпаведнасць іх вучоных ступеняў патрабаванням ісціны і навукі.

Названыя задачы надзвычай складаныя. Максімальнае далучэнне ўсяго народа да іх вырашэння вымагае адпаведнай арганізацыйнай формы. У цяперашніх умовах гэтай формаю і з'яўляецца якраз рух у падтрымку перабудовы. У нетрах сваіх гэты рух вельмі няпросты. Ад ягонай арганізацыйнай структуры, праграмных палажэнняў, метадаў уплыву на перабудову залежыць вельмі многае. Можна ж будаваць усё гэта на дзелавой аснове, якая вядзе да прагрэсу. А можна распальваць страсці дэкларацыямі, якія зусім немагчыма здзейсніць або здзейсніць вельмі цяжка. Па-мойму, гэтыя пытанні заслугоўваюць самага сур'ёзнага абмеркавання на старонках рэспубліканскага друку.

**ПАСЛЯСЛОЎЕ**

Мітынг не даў адказаў на пералічаныя пытанні. Па-рознаму ацэньваюцца і будуць ацэньвацца ягоныя вынікі. Вядома, свіст і гул лепшым яго не зрабілі. Бо і ў выступленні сакратара ЦК камсамола Беларусі М. Падгайнага, і ў выступленні старшыні Ленінскага райсавета гучала такая ж трывога за лёс перабудовы, як і ў палымяных прамовах нефармалаў. І ўвогуле, стаўленне ўдзельнікаў мітынгу да прадстаўнікоў афіцыйных арганізацый насцярожвае. Тут ёсць над чым задумацца. Ужо само запрашэнне афіцыйнай асобы да выступлення выклікала адмоўныя эмоцыі. Магу канстатаваць, што іх носьбітамі была абсалютна большая частка ўдзельнікаў мітынгу, а не спецыяльна падабраныя людзі. Усё гэта гаворыць пра існаванне найсур'ёзнейшай праблемы: напружанасці ў адносінах улад і народа. Хоць мне, вядома, можна запярэчыць у тым сэнсе, што 35 тысяч грамадзян — гэта яшчэ не народ.

Выступленні прадстаўнікоў аргкамітэта Народнага Фронту ў большасці сваёй былі канструктыўныя. Аднак не абышлося тут і без элементаў самаўпэўненасці, катэгарычнасці, што наўрад ці апраўдана пры прэтэнзіях на высокае прадстаўніцтва. Неабгрунтаванай была большасць абвінавачванняў у адрас улад за іх прывілеі — дый прыеліся ўжо тыя абвінавачванні. Называлася і тое, чаго відавочна няма. Да таго ж, любое разумнае грамадства стварае сваім кіраўнікам пэўныя прывілеі. Інакш у кіраўнікоў не будзе часу на кіраўніцтва. Іншая справа, што народ павінен ведаць і праз сваіх дэпутатаў вырашаць, якімі павінны быць колькасць і якасць гэтых прывілеяў.

Па маім перакананні, мітынг, у прынцыпе, быў карысны. Перш за ўсё тым, што выявіў волю народа самому вырашаць свой лёс, ягонае імкненне да галоснасці і дэмакратызацыі.

**Аляксей САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук,**
**прафесар**







**Таццяна САВІЦКАЯ,**
**член клуба «Карчагінец»,**
**клуба эсперантыстаў**
**«Канкорда»**
**і цэнтральнай рэвізійнай**
**камісіі БелТІ**

# НЕКАЛЬКІ ДЗЁН З СЯБРАМІ

## «КАБ НЕ ПРАПАСЦІ Ў АДЗІНОЦЕ...»

Я хачу падзяліцца сваімі ўражаннямі аб нядаўняй паездцы ў Чэхаславакію на міжнародную сустрэчу інвалідаў, якія вывучаюць міжнародную мову эсперанта. Гэтыя сустрэчы арганізуюцца за мяжою сістэматычна, але толькі ў 1988 годзе такая паездка стала магчымай і для невялікай групы савецкіх эсперантыстаў дзякуючы, у першую чаргу, дэмакратызацыі ўсяго жыцця грамадства, актывізацыі дзейнасці, жыцця і свядомасці інвалідаў, стварэнню адпаведных таварыстваў.

Паколькі я прымала пасільны ўдзел у стварэнні Беларускага таварыства інвалідаў, было цікава пабываць менавіта ў Чэхаславакіі, бо я даўно ведала, што там імкнуцца вырашаць праблемы не на ўзроўні простай дабрачыннасці, а на ўзроўні дзяржаўным.

Група наша была невялікая, усяго сем чалавек, з Беларусі — я адна. Праграма была досыць насычаная і разнастайная. Але пра яе пасля. Спачатку хацелася б сказаць пра дзейнасць саюза інвалідаў Чэхаславакіі, ён заслугоўвае таго. Трыццаць сем гадоў актыўнай дзейнасці, і вынікі яе адчувальныя: літаральна па ўсёй краіне сутыкаешся з клопатам аб людзях з фізічнымі недахопамі. Перш за ўсё — гэта так званае «безбар'ернае будаўніцтва».

Што мы бачым у нас! Прыступкі, прыступкі, прыступкі... Прыступкі ля ўвахода ў магазіны, грамадскія будынкі, кінатэатры, паліклінікі і бальніцы, і нават у сабесы і пратэзныя ўстановы, якія, здавалася б, разлічаныя на людзей з парушэннямі апорнай сістэмы. Для нашага будаўніцтва гэта стала нормаю. Нормаю чаго! Прыгажосці, вытанчанасці, зручнасці, трываласці! На жаль, нас прывучылі ставіцца да гэтага, як да нормы. Ну што рабіць, калі інваліды не ўпісваюцца ў такую архітэктуру! Яны ўвогуле шмат куды не ўпісваюцца і ўжо скарыліся з гэтым. І каго клапоціць тое, што прыступка робіцца непераадольная для інваліда, прымушае яго вастрэй адчуваць сваю непаўнацэннасць і яшчэ больш замыкацца ў сваіх сценах! Часам пачынаеш думаць, што гэта пэўная сацыяльная палітыка: няма такіх людзей на вуліцах ці як мага меней іх — значыцца, і няма іхніх праблем, і нічога не трэба вырашаць.

А будаваць, выяўляецца, можна проста, утульна і элегантна. Як у Чэхаславакіі. Пад'езды дамоў і грамадскіх будынкаў без «бар'ера», інакш кажучы, без абавязковага ў нас шматпрыступкавага ганка; ліфт у пад'ездах пачынаецца адразу, без «нашых» 5—6 прыступак да першага паверха. Зручна ўсім. Гэта могуць ацаніць і людзі пажылыя, і жанчыны з дзіцячымі каляскамі. А паўпрацэнта ўсіх кватэр будуецца з поўным улікам асаблівасцей інвалідаў, перш за ўсё калясачнікаў. На вуліцах, на тратуарах бачыш шматлікія пандусы, акуратна выкладзеныя каменем. Асабліва наглядна гэта выяўляецца ў новых раёнах. У Апаве, напрыклад, пэўная частка горада з усімі магазінамі і іншымі ўстановамі спецыяльна прызначана для калясачнікаў.

Аднак зусім не ўсё яшчэ задавальняе ў такім будаўніцтве, ёсць свае праблемы, не ўсе будынкі і вуліцы даступныя інвалідам. Але праблемы гэтыя рашаюцца, і перш за ўсё таму, што ёсць саюз інвалідаў. Ён уваходзіць у Народны фронт, які аб'ядноўвае ўсе грамадскія арганізацыі краіны і можа такім чынам уплываць на работу дзяржаўных органаў. Вось і дамогся ён у заканадаўчым парадку прыняцця «безбар'ернага» будаўніцтва літаральна па ўсёй краіне. І цяпер, калі архітэктар захоча праектаваць будынак, упрыгожаны мноствам прыступак, ён павінен прасіць дазволу ў саюза.

У саюза інвалідаў ёсць свае вытворчыя аб'яднанні. Чатыры буйныя прадпрыемствы і шмат дробных цэхаў маюць вытворчае аб'яднанне «Мета» ў Чэхіі і «Інтэгра» ў Славакіі. Тут працуе да 80 працэнтаў інвалідаў. І ўсе гэтыя прадпрыемствы высокарэнтабельныя. Як тут такога дамагаюцца — размова асобая. Гэта нам і хацелася зразумець, а таксама пазнаёміцца з іншымі бакамі жыцця інвалідаў, бо ў нашай рэспубліцы створана і ўжо функцыяніруе некалькі месяцаў Беларускае таварыства інвалідаў (БелТІ). І любы станоўчы вопыт, мне здаецца, быў бы нам карысны.

Дзейнасць саюза інвалідаў Чэхаславакіі разнастайная: гэта і будаўніцтва рэабілітацыйных цэнтраў і цэнтраў адпачынку, і многае, многае іншае. Вось пра адзін з такіх рэабілітацыйных цэнтраў я і хачу расказаць.

Начным рэйсавым аўтобусам мы паехалі ў мястэчка Грабіні-Апавы (гэта за 300 км ад Прагі). Рэабілітацыйны цэнтр для інвалідаў. Самы вялікі ў краіне, самы вялікі ў Еўропе. Уласна, яго можна назваць гарадком для людзей з цяжкімі паражэннямі апорна-рухальнага апарату. Ён уключае ў сябе некалькі шматпавярховых будынкаў, злучаных паміж сабою шклянымі галерэямі і падземнымі тунелямі. Тут ёсць магазін, аптэка, пошта, тэлеграф, вялікая кіназала, рэстаран, шмат сталовых. Гэта ўсё роўна як гарадок пад дахам.

У цэнтр уваходзяць уласна медыка-рэабілітацыйны цэнтр, жылы дом і вытворчае аб'яднанне «Мета», дзе і працуюць інваліды, якія жывуць тут. Тое, што мы там бачылі, здавалася нам найвялікшым актам гуманнасці грамадства і дзяржавы.

Пасля траўмы, бальніцы чалавек

Заканчэнне на стар. 36



# НЕ БАЧУ БРОДУ?!

Фота Віктара ДРАЧОВА

## НАТАТКІ ПРА ГРУПУ «БРЫГАДА С»

Юрый ЦЫБІН



— Хочаш, угадаю тваё першае пытанне? — не даўшы мне і рота раскрыць, спытаўся бас-гітарыст Сяргей Галанін.

— Давай,— згадзіўся я.

— Пытанне будзе такое: што азначае «Брыгада С»?

— Якраз і не. Чытаў ужо, што «с» — «проста любімая літара алфавіта». Так?

— Мажліва,— засмяяўся Галанін.— Як адзін з верагодных варыянтаў — мажліва.

Калі б я паспрабаваў укласці ўражанні ад мінскага канцэрта «Брыгады С» у адну-адзіную фразу, яна, хутчэй за ўсё, заканчвалася б пытальнікам і гучала прыкладна так: «Як яны да ўсяго гэтага дадумаліся?» Мяркую, што і ў іншых гледачоў першае знаёмства з творчасцю Ігара Сукачова і ягоных таварышаў выклікае такую ж рэакцыю.



Праўда, падаснова ў яе пры гэтым можа быць самая розная. Напрыклад, найбольш абачлівых няйнакш палохае афармленне сцэны: велізарны, павернуты набок партрэт былога «дзяржаўнага ўладара», увесь скрэмзаны надпісамі. Дзіва што: не так даўно такі ж самы партрэт вісеў у гэтай зале зусім-зусім інакш, дапамагаючы «бурным, працяглым апладысментам» хутчэй перахадзіць «у авацыю». Вядома, час цяпер іншы, стараемся скінуць з сябе цяжкі груз зацемненых гадоў, але... да такога дадумацца?!

А назва? «Аркестр пралетарскага джаза «Брыгада С» — тут ужо і спакушаныя знаўцы сучасных рытмаў у здзіўленні разводзяць рукамі: на сцэне побач з музыкантамі традыцыйнай для рок-групы рытм-секцыяй — секцыя духавых, атрыбут даўно і безнадзейна састарэлых ВІА. Але паспрабуйце давесці, што «аркестр» іграе не рок! Рок, у якім, аднак, суіснуюць усё ж такі нейкім чынам элементы іншых музычных напрамкаў. Такое ж змяшэнне стыляў і ў вопратцы музыкантаў: легкадумныя маечкі з малюнкамі, нацягнутыя на голае цела, суседзяць са строгімі вячэрнімі касцюмамі, а сам Сукачоў з'яўляецца на сцэне апрануты ў шэры, ледзь не да пят, плашч, у кепцы з вялікім казырком.

Ды гэта яшчэ што! Паслухайце толькі, пра што ён спявае:

**Бродяга — это от слова «брод»,**
**Но я не вижу брода.**
**Со мною все наоборот —**
**Спаси меня, спаси меня,**
**Моя природа!**

Трызненне, лухта, фантасмагорыя?
А што тады, па-вашаму, вось гэта:

**Сидит сантехник на крыше.**
**Считает выручку дня.**
**Он свежим воздухом дышит.**
**Он не боится меня.**

Калі я скажу, што гэта ўжо класіка айчыннага року — паверыце? Не? Тады паслухаем яшчэ трохі. «Песня пра каханне і гармонію»,— аб'яўляе Сукачоў. Але якое, ліха на яго, каханне, якая гармонія, калі артысты, ледзь не выварочваючыся навыварат, паўтараюць і паўтараюць да немагчымага фарсіраванымі галасамі загалоўную фразу, даводзячы яе да поўнага абсурду?

Нарэшце во што гэта — здзек з салодкагалосай нашай эстрады, вось што гэта такое. Выходзіць, нас проста разыгрываюць. І ўсё, што адбываецца на сцэне,— фарс, не больш, своеасаблівы сучасны варыянт «Сіняй блузы». А гратэскавы чалавечак з шэрым, упрыгожаным рэдкімі вусікамі тварам, які прамаўляе са сцэны фразачкі накшталт «Я ненавижу хлебный квас и весь Парнас!» — ніякі і не герой, а калі і герой, дык неадменна з прыстаўкаю «анты».

Словам, перад намі нешта сярэдняе паміж рок-шоу і тэатрам абсурду. А як лічыць сам Сукачоў? Гэта і было тое самае першае пытанне, якое я збіраўся задаць лідэру «Брыгады С».

— Нашы выступленні — гэта не шоу і не тэатр,— умомант абвергнуў ён мае высновы.— У нас, дарэчы, няма ні рэжысёра, ні харэографа. Мы не імкнёмся нічога ствараць на сцэне. У мяне часта пытаюцца, пра што нашы песні, а я і сам не ведаю пра што. Гэта не якасць. Разумееш, на сцэне ў мяне ўзнікае асаблівы стан, зусім не падобны на той, напрыклад, у якім я знаходжуся цяпер, размаўляючы з табою. Музыка — гэта іншы свет, і на сцэне я жыву тым, што раблю, і стан гэты не кантралюецца — усё адбываецца нібыта само сабою. Вядома, кожны нумар пачынаецца з нейкага ўнутранага імпульсу. Але чаму ён набывае тое ці іншае ўвасабленне, чаму выглядае на сцэне так, а не інакш, не ведаю. Галоўнае для мяне — увайсці ў патрэбны стан, тады і канцэрт атрымліваецца.

— А бываюць няўдалыя канцэрты?

— Толькі калі прыходзіцца шмат выступаць і моцна стамляешся. Прыкладна адзін канцэрт з пяці.

— Як ты лічыш, гледачы, якія збіраюцца ля сцэны і захоплена скачуць пад вашу музыку, вас разумеюць?

— Разумеюць.

— Ты адказваеш адназначна, але ж напярэдадні многія з гэтых хлопцаў і дзяўчат не менш захоплена скакалі пад «Сакрэт».

— А чаму, уласна, цябе гэта здзіўляе? Калі ты, напрыклад, любіш у жывапісе, сюррэалізм, дык няўжо, прыйшоўшы ў музей, ты не зазірнеш і ў іншыя залы? Так і тут.

Вядома, гэта так, падумаў я, але ў многім парадаксальныя работы «Брыгады С» патрабуюць усё ж іншага ўзроўню ўспрыняцця, чым немудрагелістыя, хоць і прыемныя песенькі «Сакрэту». Спрачацца, аднак, не хацелася.

— Ігар, скажы, калі ласка, як ты ставішся да творчасці «Песняроў»?

— «Песняроў»? Шчыра кажучы, абыякава.

— Не дзівіся з майго пытання. Цяпер многія дыскутуюць аб праблемах захавання ў сучасных музычных плынях народных традыцый і нацыянальных асаблівасцей. У «Песняроў» традыцыя бачная, як кажуць, голым вокам. А ў рок-калектываў?

— Ведаеш, мы ўсё ж не ў вакууме раслі. І ўсю тую музыку, што гучала і гучыць па нашым радыё, праз сябе прапусцілі. Пераемнасць традыцый — не толькі ў наяўнасці прамых запазычанняў і рэмінісцэнцый. Яна — у асаблівасцях нашага светаўспрыняцця. І калі вылучаюць англійскі і амерыканскі рок, венгерскі і польскі, дык і ў савецкага року ёсць свае адметныя асаблівасці.

— Чаму ж тады да яго так халаднавата ставяцца за мяжою?

— Таму што не трэба прадстаўляць яго толькі «Акварыумам». Барыс Грабеншчыкоў — вельмі таленавіты чалавек, таленавіты паэт, але на прафесійны ўзровень ягоная група не цягне.

— А хто ж, па-твойму, «цягне»?

— «Парк Горкага», «АВІЯ», «Круіз»...

— А сябе вы на замежным слухачы не думаеце паспрабаваць?

— Чаму ж не? Паедзем, мажліва, на буйны рок-фестываль у Японію, у Хірасіму.

— Мажліва ці паедзеце?

— Мажліва. Могуць жа і не пусціць.

— Але, наколькі ведаю, водгукі ў прэсе аб вашай творчасці скрозь станоўчыя. Нават «Правда» пра вас пісала.

— І тым не менш яшчэ не так даўно нашую назву забаранялі!

— Затое цяпер яна ўпрыгожвае нават пласцінку, выпушчаную фірмаю «Мелодия». Дарэчы, чаму ў яе такая дзіўная кампаноўка: на адным баку «Брыгада С», на другім — «Навуцілус Пампілівус»?

— Гэта «ідэя» фірмы «Мелодия». Мы згоды на выпуск такога альбома не давалі. Павінна была выйсці агляд-ная пласцінка маскоўскай «Рок-панарамы» з адной-дзвюма нашымі песнямі. Ва ўсякім разе, на «Мелодии» нас запэўнівалі, што будзе менавіта так. Але, відаць, імкненне мець максімальную камерцыйную выгаду ўсё пераважыла. На жаль, тут мы нічога не маглі зрабіць — фірма мае права выдаваць канцэртныя запісы без нашай згоды.

— Як жа вы думаеце супрацоўнічаць з ёю далей?

— Ніяк. Не будзем запісваць пласцінкі, і ўсё. Пакуль не зменіцца стаўленне да нас і да нашай працы.

— Але без пласцінак, без падтрымкі радыё і тэлебачання цяжка разлічваць на шырокую вядомасць.

— А з тэлебачаннем у нас якраз кантакты складваюцца пакуль што няблага. Маладзёжная рэдакцыя здымае пра «Брыгаду С» гадзінную перадачу, дае нашы кліпы ў розных праграмах. Што ж да фанаграм — будзем рабіць іх у музычным цэнтры Стаса Наміна, які мы цяпер і прадстаўляем.



«МАРКІЗА»



«АНЦІС»

Фота Сяргея БАРЫСАВА
г. Масква

## МУЗЫЧНЫ ТЭЛЕТАЙП










Грунтуючыся на выніках продажу пласцінак у спецыялізаваных магазінах ЗША, часопіс «Білборд» апублікаваў звесткі пра найбольш папулярныя ў 1988 годзе дыскі. Першае месца заняў альбом былога ўдзельніка брытанскага дуэта «Уэм» Джорджа Майкла «Вера». Далей у першай пяцёрцы пласцінка «Танцулькі» з музыкай да аднайменнага кінафільма, дыск англійскай групы «Дэф лэпэрд» пад назваю «Істэрыя», альбом Майкла Джэксана «Фенаменальны», які выйшаў яшчэ ў 1987 годзе, а таксама пласцінка маладой негрыцянскай спявачкі Трэйсі Чэмпэн пад немудрагелістай назваю «Трэйсі». Згодна са звесткамі, апублікаванымі ў музычнай прэсе Вялікабрытаніі, найбольшы поспех выпаў летась на долю былой аўстралійскай кінаактрысы Кайлі Міноўг, пласцінка якой карысталася найбольшым попытам.

Паводле вынікаў апытання чытачоў заходнегерманскага маладзёжнага часопіса «Брава», лепшым калектывам мінулага года ў катэгорыі «хард-н-хэві» прызнана шведская група «Еўропа». Другое месца заняла амерыканская група «Бон Джоўі». У тым, што менавіта гэтыя два калектывы занялі два першыя радкі ў спісах папулярнасці, нічога дзіўнага няма — і тыя, і другія выконваюць музыку, прызначаную ў першую чаргу падлеткам. А вось трэцяе месца заходнегерманскай групы «Хэлоўін» стала досыць нечаканым, бо гэты калектыў з Гамбурга яшчэ вельмі малады, дый музыка, якую ён выконвае, пры ўсім жаданні да спрошчанай і камерцыйнай аднесена быць не можа. Першае месца сярод пласцінак гэтай катэгорыі аддадзена дыску ўсё той жа «Еўропы» — «Не з гэтага свету». Лепшым канцэртным шоу прызнаныя выступленні ветэранаў цяжкага року — заходнегерманскіх «Скарпіёнз». У катэгорыі рок-груп пераможцам стала нарвежскае трыо «А-Ха», а яго пласцінка «Затрымайся на гэтых дарогах» прызнана лепшай у гэтай катэгорыі.

У Нью-Йорку адбылася цырымонія ўручэння ўзнагарод тэлевізійнай праграмы «Эмі», якія прысуджаліся за выдатныя дасягненні ў розных галінах. Сярод адзначаных узнагародамі за 1988 год — амерыканская спартсменка Флорэнс Грыфіт-Джойнэр і англійскі музыкант, лідэр групы «Джэнесіс» Філ Колінз.

У канцы года Ціна Тэрнэр перапыніла часова свае гастрольныя выступленні ў Еўропе і вылецела ў Галівуд, дзе прыняла ўдзел у здымках фільма, які расказвае пра яе жыццё.

Лідэр групы «Ю Ту» Бона Вокс паспрабаваў сябе ў новым амплуа: ён сыграў ролю каўбоя ў адным з галівудскіх вестэрнаў.

Адбылася прэм'ера фільма «Гуляючы па Месяцы», галоўную ролю ў якім выконвае Майкл Джэксан. Адну з роляў у фільме сыграў Шон Ленан, сын Джона Ленана і Йока Она. Гледачы пачуюць у выкананні Майкла Джэксана і адну з самых знакамітых песень «Бітлз» «Хадзем разам».

Сёлета плануецца пачаць запіс новага дыска амерыканскага спевака Тэрэнса Трэнта д'Арбі, названага адным з адкрыццяў 1987 года. Ягоная пласцінка «Жорсткая лінія» карысталася летась вялікім поспехам у слухачоў. Цяпер Тэрэнс рыхтуе новую праграму ва ўласнай студыі ў Ірландыі.

Амерыканская спявачка Уітні Х'юстан у інтэрв'ю часопісу «Канэкшнз» заявіла, што лічыць сябе выканаўцам, здольным пераўзысці саміх «Бітлз».

Пасля паспяховых гастроляў па ўсім свеце адроджаная група «Дып Пёрпл» рыхтуе новы студыйны альбом. Наперадзе ў ветэранаў хард-року — удзел у буйных рок-фестывалях у Бразіліі і ў ЗША. Апроч таго, удзельнікі групы займаюцца рэалізацыяй сольных праектаў.

У снежні 1988 года ва ўзросце 52-х гадоў памёр ад сардэчнага прыступу легендарны рок-н-рольшчык Рой Орбісан.

Падрыхтаваў
Генадзь РАБЦАЎ



**Заканчэнне.**
**Пачатак на 2-й стар. вокладкі**

— Я думаю, нам трэба браць пад увагу ўсё, што мае дачыненне да Беларусі — месца нараджэння мастака, матывы яго творчасці, густы, тэхніку і г. д. Абразы ў большасці выпадкаў ананімныя, але па стылі, па тэхніцы выканання, па этнаграфічных асаблівасцях персанажаў мы даволі пэўна можам сказаць, да якой школы адносіўся майстар. Беларускія разьбяры, кафельшчыкі і ў Маскве, у Новым Іерусаліме заставаліся беларусамі. Куды аднесці Я. Дамеля, Ф. Рушчыца? Неацэнны ўклад іх не толькі ў польскую, літоўскую, але і ў беларускую культуру. І цяпер яшчэ не затухаюць спрэчкі, толькі французскі ці яшчэ і рускі мастак М. Шагал. Але ёсць падставы сцвярджаць, што ён перадусім мастак...

— ...яўрэйскі.

— Так, але менавіта з Віцебшчыны вынес ён сваю блакітную мару, тут, на Беларусі, сфарміраваўся яго каларыт, склалася вобразная сістэма твораў. Палякі, да слова, ганарацца сваімі суайчыннікамі, у якой бы краіне тыя ні праславіліся. Мяркую, што і мы, беларусы, не маем права адмаўляцца ад такіх імёнаў. Дазвольце прывесці тут адзін толькі прыклад ашчаднага, паважлівага стаўлення да мастакоўскай спадчыны Беларусі. Пазалетась супрацоўніцы Віцебскага абласнога краязнаўчага музея набылі ў маскоўскіх прыватных калекцыях 3 творы мастакоў віцебскай школы, і ў тым ліку два палатны М. Шагала. Гэта яскравы доказ таго, што калі вельмі захочаш — знойдзеш. На жаль, не стае ў рэспубліцы музейнай культуры і сапраўднай апантанасці, хоць і назіраецца так званы музейны бум.

— Я думаю, што сусветна вядомы маэстра ахвотна падараваў бы нашай рэспубліцы дзесяткі сваіх твораў, калі б, скажам, Мастацкі музей звярнуўся да яго пры жыцці, гадоў дзесяць таму.

Да нашай размовы падключыўся **Ю. В. ХАДЫКА, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, загадчык лабараторыі Інстытута фізікі АН БССР,** і я спытаўся, што трэба было б зрабіць, каб мець сапраўды унікальную экспазіцыю.

— Мая думка, мусіць, падасца крамольнаю. Я вярнуў бы мастацкаму музею яго ранейшую назву — Карцінная галерэя, і гэта адпавядала б ісціне: там не паказана графіка, надзвычай бедна прадстаўлена дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, скульптура. Калі ўжо ствараць сапраўдны Дзяржаўны мастацкі музей БССР, дык толькі на аснове Музея старажытнабеларускай культуры пры ІМЭФ. Яго фонды і прынцыпы экспанавання перадумоўліваюць гістарычна дакладны, паслядоўны паказ гісторыі беларускага мастацтва ад старажытных часоў да нашых дзён. Валодае ён выдатнымі калекцыямі археалагічных матэрыялаў, помнікаў старажытнага мастацтва, кнігадрукавання, народных музычных інструментаў, этнаграфіі і народнага мастацтва.

Мяркую, што патрабуюцца таксама проста тытанічныя намаганні, каб вярнуць у рэспубліку шматлікія творы беларускага мастацтва з музеяў і сховішчаў Масквы, Вільнюса, Львова, Варшавы, Кракава. Напрыклад, у 1977 годзе з вільнюскага Гісторыка-этнаграфічнага музея ў Музей старажытнабеларускай культуры было перададзена 960 экспанатаў. Гэта зусім невялікая частка фондаў музея братоў Луцкевічаў (які, паводле некаторых крыніц, налічваў да 50 000 экспанатаў), раскіданых па музеях Вільнюса.

Цяжка было не пагадзіцца з апошнім меркаваннем Юрыя Віктаравіча, хоць гэта, відаць, аддаленая перспектыва. Але ўжо сёння, а не праз чатыры-пяць гадоў, калі будзе ўведзена прыбудова, хацелася б убачыць у музейных залах замест шматлікіх партрэтаў напудраных графаў і князёў, імператараў і імператрыц выдатныя графічныя лісты В. Сярова і М. Урубеля. Замест угрумаўскага «Узяцця Казані войскамі Івана Грознага ў 1552 годзе» і сурыкаўскіх эцюдаў да «Пакарэння (калі мы нарэшце зразумеем, якія гэта бязлітасныя і жахлівыя словы — «узяцце», «пакарэнне»?!) Сібіры Ермаком», што ўслаўляюць заваёўніцкія паходы расійскай кароны,— жыццесцвярджальныя малюнкі і кераміку Ф. Лежэ, анікушынскі партрэт А. Чэхава або глебаўскага «Францыска Скарыну». Замест другарадных бытапісальніцкіх палотнаў некаторых перасоўнікаў — знакамітыя на ўвесь свет слуцкія паясы ці налібоцкае шкло.

Творы заходнееўрапейскіх мастакоў і майстроў з краін Усходу таксама чакаюць у запасніках, у якія не пускаюць, спасылаючыся то на пажарнікаў, то на пільныя справы, нават спецыялістаў, не тое што карэспандэнта з рэспубліканскага часопіса.

Дык ці не ад гледача, ці не ад народа, якому нібыта належыць мастацтва, хаваюцца гэтыя скарбы? Мастацтвазнаўцы-музейшчыкі па-ранейшаму кулуарна, келейна вырашаюць за наведвальніка, што яму глядзець, а што не, што можна яму паказаць, а што і прыхаваць.

Уваход у Мастацкі музей — за пампезнаю каланадаю, за масіўнымі падвоенымі дзвярыма. Але, можа, і за імі неўзабаве ўсё-такі адбудуцца перамены?

Ці прыбудова тут — альтэрнатыва перабудове?

# Альтэрнатыва





**Віктар ВАСЮКЕВІЧ,** нарадзіўся ў 1958 годзе, мастак.
**Ігар ЕРМАКОЎ,** нарадзіўся ў 1964 годзе, дызайнер.
З 1988 года працуюць разам.
Работы 1988 года: **Нараджэнне Амерыкі. Віхура. Чаканне. Імправізацыя** (першая сумесная работа).









Яўген МЯЛЕШКА






# Сон



Яўген Мялешка жыве ў пасёлку Калачы Лагойскага раёна. Апавяданне «Сон» — першая публікацыя. Уважлівы чытач скажа, што твор гэты — шмат у чым вучнёўскі. І мецьме рацыю: Яўгену семнаццаць гадоў, біяграфіі, можна сказаць, яшчэ няма. Спадзяёмся, што разам з набыццём жыццёвага вопыту Яўген выпрацуе і свой стыль.

Яркае спякотнае сонца заглядвала ў вокны вялікага шэрага дома, абнесенага высокай металічнай агароджай. Акуратныя клумбы з яркімі кветкамі, шырокія алеі, шматлікія лавачкі і альтанкі пад цяністымі старымі ракітамі, у глыбіні двара маленькі фантанчык — усё гэта радавала вока і, па задуме, павінна было выклікаць душэўны камфорт.

У вароты ўваходзілі і выходзілі людзі. Па адным, парамі і з дзецьмі. Ля варот на вялікай шыльдзе прыгожымі літарамі было напісана: «Дом престарелых».

Нядзеля — самы ажыўлены дзень. У нядзелю многія мелі шчасце ўбачыць сваіх родных. Таму ў гэты дзень усе больш напружана, чым заўсёды, чакалі, і гэтым духам напружанага чакання пранікаліся нават тыя, каму не было каго чакаць.

На лаўцы ля самых варот сядзеў стары. Ён цьмяным паглядам сустракаў кожнага, хто ўваходзіў, і праводзіў яго вачыма. Вусны старога пры гэтым нешта шапталі. Па твары нельга было нічога зразумець: ні спаласаваны маршчынамі лоб, ні шэрыя вочы, ні бляклыя вусны — нішто не выдавала яго настрою.

Стары ўздыхнуў.

Сонца абышло паўкруг і хілілася на захад. Камары маленькімі празрыстымі воблачкамі віселі ў паветры.

Пад вечар, калі спадала спякота, напружаная атмасфера чакання знікала, і зноў усё станавілася на свае месцы: дзесьці ў глыбіні двара гулялі ў даміно; бабулькі, абмахваючыся галінкамі ад камароў, праходжваліся па дарожках і, адпачываючы на лаўках, паціху абмяркоўвалі мінулы дзень. У кожнага, незалежна ад часу, дзесьці ў самых далёкіх і недаступных куточках душы, цеплілася чаканне. У кожнага яно было сваім, не падобным ні на чыё іншае. І яшчэ ва ўсякага была мара, нават не мара, а вера ў тое, што калісь яму пашанцуе, і ён больш ніколі не ўбачыць ні гэтага двара, ні гэтых ракіт, ні гэтых шэрых сцен. Ніколі!

У вароты больш ніхто не ўваходзіў. Стары ўсё сядзеў, адкінуўшыся на спінку лаўкі. Твар яго зараз быў задумлівы і сумны. Паблізу двое паціху гутарылі, і можна было падумаць, што стары спрабуе пачуць іх размову.

— Ну дык што, Фёдар,— гаварыў агрузлы стары з шырокім маршчыністым тварам,— прыязджаў сын сягоння?

Тут ён хітравата ўхмыльнуўся.

Фёдар — маленькі і ходарлявы, з ужо парадзелай сівой бародкай,— быццам спалохаўшыся басістага смяшка, увесь перасмыкнуўся.

— Быў,— суха адказаў ён.

— Ну і што ж?

— Ну што-што?! Пасядзелі... пагаварылі.

Фёдар падняў вочы ўгору, быццам прыпамінаючы размову:

— Вось сказаў, што кватэру новую атрымлівае.

— А што яшчэ сын казаў? — не сунімаўся першы.

Ён зрабіў паўзу перад словам «сын», і Фёдар паморшчыўся.

— Я прасіў, каб Машку прывёз: вельмі ж хачу ўнучку паглядзець. Абяцаў прывезці.

Вочы першага звузіліся так, што здавалася, быццам у яго замест іх толькі дзве маленькія шчылінкі.

— Дык ён жа раз сто абяцаў цябе забраць, а цяпер — што ўжо ўнучку прывязе?

Фёдар ізноў увесь перасмыкнуўся.

— Дык я ж табе і кажу, кватэру ён зараз атрымлівае, а як атрымае, дык і мяне забярэ.

І тут ён ускочыў.

— І наогул, слухай, чаго ты да мяне прычапіўся. Якая табе справа, прыехаў да мяне сын ці не прыехаў? Калі захочыць, дык і без твайго ведама забярэць!

Фёдар рэзка павярнуўся і пайшоў.

— Ён ужо паўгода захацець не жадае, ха-ха-ха,— захлёбваючыся ад смеху пракрычаў услед яму першы, а потым ужо ціха і сур'ёзна, збіраючыся ісці, дадаў: — Быў бы ў мяне сын, не тырчэў бы я тут.

Сонца ўжо схавалася за небасхілам, толькі маленькі грабеньчык яго скупа залаціў вяршаліны дрэў развітальнымі прамянямі. А на другім канцы неба з'явіўся салавей, і здавалася, што ён збіваецца ад бясконцай трэскатні конікаў. Зусім па-начному зябкі прабег па галінках дрэў вецярок.

Стары ўздрыгнуў, быццам прачнуўся ад доўгага сну, зірнуў на грабеньчык сонца і, паволі падняўшыся, пабрыў да маўклівых сцен шэрага дома.

Увесь тыдзень ліў дождж. Халодныя кроплі разбіваліся аб шкло і маленькімі слязінкамі сцякалі ўніз. Шалёны вецер выў у дроце і гойдаў дрэвы. Здавалася, прыйшла восень. На празяблых сценах дома з'явіліся мокрыя плямы, і гэтыя плямы здаваліся сінімі ў шэрым дзённым святле.

Амаль у кожным акне можна было ўбачыць чый-небудзь старэчы твар. У такое надвор'е наўрад хто адважыцца прыехаць сюды, але ўсё роўна дапытлівыя вочы шукалі ў гэтым адданым дажджу і ветру свеце знаёмыя сілуэты з мінулага жыцця.

У адзін з такіх дзён, калі вецер, здавалася, улёгся і дождж супакоіўся, стары сядзеў ля акна і глядзеў на пустую дарожку. Па лужынах, як па маленькіх азёрах, прабягалі дробныя хвалі, і ад гэтага рабілася холадна. Удалечыні паказаўся малады мужчына з дзяўчынкай. Дзяўчынка бегла ўперадзе і цягнула яго за руку. Твараў іх не было відаць, але старому здавалася, што яны смяюцца. Ён упіўся вачыма ў гэтых людзей, штосьці да болю знаёмае ён бачыў зараз. Не, не твары.

І ён успомніў... І бачыць стары ўжо не незнаёмца-мужчыну і не чужую дзяўчынку. Гэта ж ён, ён многа гадоў назад і Ліда, Лідачка, яго дачка. Яна цягне яго за руку па лужынах і крычыць: «Тата, тата, хутчэй! Ну хутчэй жа! Глядзі, як мама далёка!»

А маці бяжыць уперадзе і вабіць іх рукой. Ліда смя-

Рэкламны дадатак да «Вячэрняга Мінска» адкрыў на сваіх старонках не такі ўжо і малы пастаянны аддзел пад назваю «Даю кансультацыі». Паслугі прапаноўваюцца па ўсіх асноўных праграмных прадметах тэхнічных ВНУ, ад фізікі і супрамата да разлікова-графічных работ і дэталяў машын. Такімі ж аб'явамі заклееныя ўсе вулічныя слупы каля трамвайных і аўтобусных прыпынкаў. Што ж адбываецца! У школе нам не раз казалі, што для інстытутаў нас не рыхтуюць. А калі я аднойчы «высунуўся» і спытаўся ў сваёй класнай «кіраўнічкі»: «Навошта ж тады школа, няўжо толькі дзеля таго, каб вучыць чытаць і пісаць!» — усе мае адзнакі за сачыненні па рускай літаратуры, якую яна ў нас у класе вяла, паехалі на адзін бал уніз. А на самай справе, як здолела школа гэтак нізка ўпасці! Хіба не яна спарадзіла масавае рэпетытарства!

Цяпер ужо яно перакінулася на інстытуты. Выходзіць, тыя таксама страчваюць сваю марку, калі не могуць забяспечыць цвёрдае якасці навучання. І вось яшчэ невялікая «задача на мараль»: ці не атрымліваецца цяпер так, што многія «преподы» ўсё роўна як наўмысна не дадаюць студэнтам ведаў у ВНУ, каб затым прадаць іх на рэпетытарстве!

Стоячы ля «слупавой рэкламы», я не раз думаў: можа, і наш «препод» па матэматыцы прыклеіў дзе-небудзь сваю паперу! І таму мы гэтаму «преподу» да лямпачкі!

У мяне па матэматыцы і фізіцы былі ў школе стабільныя «пяцёркі». А ў інстытуце па той самай матэматыцы чамусьці ўсё болей «цёмнага лесу». Дый у іншых хлопцаў і дзяўчат з групы, у каго ні спытаешся, «цёмнага лесу» таксама хапае. Суцяшаем сябе тым, што тыя раздзелы, якія праходзім цяпер, потым, кажуць, больш нідзе не будуць патрэбныя.

З гуманітарных прадметаў праходзім пакуль што адну гісторыю КПСС. Чытае яе сіваватая «цётка» ў акулярах. Калі хочаш хоць што-небудзь пачуць, трэба садзіцца на першых радах, бо «на Камчатцы» займаюцца хто чым хоча. Адны гартаюць дэтэктывы, другія гуляюць у карты, трэція пацíху дастаюць з сумак навушнікі, уключаюць магнітафоны і кайфуюць, як турысты ля агню. Ёсць, праўда, і «рацыяналы»: на гэтых лекцыях яны робяць алгебру альбо перакладаюць тэксты па замежнай мове. Многія на «цётчыны» лекцыі ўвогуле не ходзяць.

У сваёй групе я трохі пасябраваў з Сярожам, з якім сядзім побач. Ён з Гомельскай вобласці, з тых якраз мясцін, дзе ёсць радыяцыя ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Аднаго разу на «цётчынай» лекцыі, калі нехта «на Камчатцы» неасцярожна ўключыў свой «маг» на поўны гук і ўся аўдыторыя спачатку ўголас зарагатала, а потым сарамліва прыціхла, я штурхнуў Сярожу ў бок і зашаптаў:

— Як будзем здаваць «цётцы» экзамен! Стары падручнік перабудова адкінула, новага яшчэ няма, а на лекцыях суцэльная адбывалаўка!

І навошта толькі шчыраваў! Сярожа прачытаў мне доўгую з'едлівую лекцыю.

— Я думаў,— са смехам прасіпеў ён мне на вуха,— што з нашай групы адзін я прыпылены чарнобыльскім пылам, а выходзіць, што памыліўся... Ты хіба не бачыш: сама наша «цётка» цудоўна разумее, што яе прадмет будучым інжынерам не патрэбны! Тапіць нас на экзамене яна не будзе, спіхнём як-небудзь.

Баюся, што так і пойдзе ў нас год за годам. «Як-небудзь спіхнём» і матэматыку, і фізіку, і спецыяльныя прадметы. «Як-небудзь» атрымаем дыпломы...

«Препод» па фізіцы на сваёй лекцыі сказаў, што якасць падрыхтоўкі спецыялістаў у амерыканскіх ВНУ парадкі на тры вышэйшая, чым у нашых, а Японія абстаўляе нават Штаты. Нашая бясплатная сістэма вышэйшай адукацыі больш таго, што дае, даць ужо не можа. Прамовіў ён сёетое і пра наш будучы лёс. Добрых спецыялістаў, як вядома са шматгадовага вопыту, выйдзе з нас усяго толькі працэнтаў 15—20. А каб зусім мы не павесілі насы, фізік суцешыў тым, што вытворчасці патрэбныя і простыя выканаўцы.

Кім жа стану!.. Хацелася б усё ж такі хоць нейкай сваёй «эўрыкі», няхай самай маленечкай...

Пра свае фантазіі ў інстытуце я нікому не кажу. Няма аднадумцаў. У нашай групе нават ніхто з мінчан не майструе нічога, не кажучы ўжо пра хлопцаў з інтэрната. Навошта, не магу зразумець, было тады паступаць у тэхнічную ВНУ! На перапынках — надакучлівае вылузванне на тэмы року, замежных шмотак і чаго хочаце, толькі не размовы пра нашую будучую спецыяльнасць. Паспрабуй камунебудзь сказаць пра сваю мару... Засмяюць, пагарджаць стануць. «Гляньце,— скажуць,— на нашага Кулібіна, у яго ад ідэй нават валасы варушацца на макаўцы...» Іншы раз пагамоніш толькі з бацькам, але і ад яго чуеш адну і тую ж цягамоціну: трэба добра вучыцца, гэта твой студэнцкі абавязак...

Добра вучыцца, не буду ўтойваць, хацелася б. І не мне, думаю, аднаму. Але паспрабуй вырвацца з гэтага вязкага палону пад назваю «як-небудзь». Гэта ўсё роўна што заспяваць самаму стараннаму хору на футбольным стадыёне ў час матча, калі з усіх бакоў нясуцца крыкі і свіст заўзятараў. Хто пачуе гэты маленькі хор, каму патрэбныя яго салісты!

Да паступлення сюды я, вядома, не думаў, што іду ў храм навукі — наіўных рамантыкаў сярод маіх равеснікаў сёння да таго мала, што хоць заводзь для іх «чырвоную кнігу». Але што ўсё ж такі інстытут будзе цікавейшы за школу — спадзяваўся. Надзеі не спраўджваюцца. Яшчэ не чуў аніводнай цікавай, яркай лекцыі.

Мяне часам папракае бацька:

— Ты ж у тэхнічнай ВНУ, а не ў інстытуце кінематаграфіі, і будзь ласкавы спажываць сваю чэрствую матэматыку з сухой фізікай моўчкі.

Я з гэтым не згодны. У школе таксама нас вучылі рашаць задачы таго ці іншага тыпу, па такіх ці іншых формулах. Адны схемы і шаблоны. (Гэтаксама ж, дарэчы, «ляпілі» мы свае сачыненні па літаратуры, якія, як я цяпер пачынаю разумець, ніякімі сачыненнямі назваць нельга). І толькі на занятках у рэпетытара да мяне стала даходзіць, якая гэта стройная і вытанчаная навука — матэматыка. У яе свая багатая, найцікавейшая гісторыя. Матэматыка поўная ўсялякіх загадак і разгадак, раскаванага палёту думкі. Калі рэпетытар — а да яго хадзіла яшчэ чацвёра дзесяцікласнікаў з іншых школ горада — бачыў, што мы ўспацелі над ураўненнямі, нам адразу ж давалася задача-жарт, задача-гульня. Рэпетытар знаходзіў нават роднасць матэматыкі з музыкай. «Няма нуднай матэматыкі,— казаў ён,— бываюць толькі нудныя выкладчыкі».

Апынуўшыся ў інстытуце, я, здаецца, трохі зразумеў і другое. Такімі, якія яны ёсць, робім «преподов» і мы, студэнты. І паспрабуй тут разбярыся: мы іх працяг, ці наадварот!

Вырашэння гэтае супярэчлівасці ў сваім студэнцкім сёння я не бачу. Таму хацелася б хутчэй напрацаваць нейкую базу ведаў для самастойных заняткаў з тэхнічнай літаратураю, а там, можа, «дастукаецца» і да нас вольнае наведванне. На першым курсе яно было б, безумоўна, заўчаснае. Але незразумела, чаму яго няма і ў цяперашніх старшакурснікаў, хоць рэформа прадугледжвае перанос акцэнту з паточных лекцый на самастойную працу студэнта. Здаецца, што рэктарат і дэканаты баяцца павальнай хвалі апусцення аўдыторый.

Неяк у нядзелю патэлефанавалі мне нашы хлопцы з інтэрната.

— Адарвіся ты ўжо,— падколвалі яны,— ад мамінай спадніцы. Паглядзі на вольных людзей...

Паглядзеў. «Вольныя людзі», расчыніўшы акно, урубілі на падаконніку магнітафон на ўсю катушку. На стале стаяла гарэлка, віно. Хлопцы балдзелі...

Не ведаю, як дзе, а ў нас інстытут называюць школаю ці нават паўшколаю. Маўляў, у тую хадзіў дзесяць гадоў, а ў гэтую прыйдзецца хадзіць напалову меней. Ды так і ёсць. Сярэднюю адукацыю ў нас абавязаны мець паводле закона кожны. Атрымліваць вышэйшую не абавязваюць, праўда, нікога. Але паколькі конкурсы ў большасці ВНУ задужа малыя, то бяруць у іх ледзь не ўсіх, хто падае дакументы. У нас у Мінску ціснуцца толькі на асобныя факультэты наргаса ды на юрфак БДУ. Адны лезуць па дыплом, каб махінатарстваваць на базах і ў магазінах, а другія — каб хапаць іх за руку. Добра, што хоць баш на баш...

Мне, напэўна, усё-такі вельмі дапамагло рэпетытарства, а магчыма, што трохі яшчэ і пашанцавала: уступныя экзамены паздаваў лёгка, на пяцёркі. Але пяцёркі, як выявілася, былі зусім неабавязковыя, пры залічэнні з лішкам хапала і чацвёрак.

У той дзень, калі павінны былі вывесіць спісы прынятых, я з адным школьным сябрам дамовіўся з'ездзіць на Мінскае мора. Надвор'е было што трэба, хацелася пазагараць.

— Няўжо ты не паедзеш з намі спісы глядзець! — здзіўлена пляснула рукамі маці.

— Хопіць, што вы з татам едзеце,— адказаў я.

— Ты толькі паглядзі на свайго сына! Ну проста алімпійскі спакой! — паклікала мама бацьку. Потым, здаецца, дадала: — Наша дзіцятка гэтак упэўнена, быццам ты ў тым інстытуце рэктар.

Бацька ў мяне з паўабарота пакуль яшчэ не заводзіцца. Ён сумнавата гмыкнуў і ўзяў нейтралітэт:

— Што ж, маці... Упэўненасць у сабе павінна быць у кожнага мужчыны...

Затое ўвечары, калі яны вярнуліся з працы, а я з пляжа, ён ажно дзве гадзіны лялякаў мне на кухні пра нейкую сваю бясконцую радасць, якая ахапіла яго самога пасля таго, як даведаўся, што залічылі ў БПІ. Гэтая бурлівая радасць не пакідала майго будучага бацьку ажно да атрымання інжынернага дыплома, і з радасцю той бязмежнай ён і пайшоў працаваць...

Яшчэ больш, як заўсёды, старалася мама. Па прафесіі яна доктар. Скончыла інстытут, як і бацька, дваццаць з лішнім гадоў таму. Яна таксама пусцілася ў згадкі пра сваю студэнцкую рамантыку. «Теперь, друзья, мы все студенты, а это слово что-нибудь да значит...» «С нашим завтрашним днем мы ведем разговор, мы берем этот день в свои крепкие руки...» У іх студэнцкага пакалення, выяўляецца, былі такія бадзёрыя песенькі...

— Ну а цяпер, мамуля, дзе твая радасць? — не сцярпеў нарэшце я.— Сама кажаш, што як папрымаеш гадзін пяць сваю бясконцую чаргу, дык апошніх хворых ад злосці ўжо не лячыць, а калашмаціць хочацца. Зарплату сваю жабрацкай называеш...

Выдаў сёе-тое і бацьку:

— Твая,— сказаў,— светлая радасць таксама, здаецца, у вентыляцыйную трубу вылецела. Ад беспрасветнасці ўцёк з НДІ



спачатку на адзін завод, потым на другі і толькі на трэцім зачапіўся. Дый тое таму, што зразумеў: усюды адно і тое ж, толькі тут на два чырвонцы больш плацяць.

Нецярпліва выслухаўшы мае з'едлівыя выпады, маці з недаўменнем на твары махнула на мяне рукою:

— Ды ну цябе!.. Яшчэ не расцвіў, а ўжо вянеш чамусьці...— Нявесела ўсміхнулася і пайшла да тэлевізара.

Бацька працягваў на ранейшы лад:

— Дзіўлюся, адкуль ужо ў цябе такія чорныя акуляры на вачах!

— Жыццё падарыла,— адказаў я.— А ты вось усё яшчэ ў ружовых ходзіш. Нават цяпер, калі галоснасць перакуліла ўсё дагары нагамі і зусім не стала ў што верыць.

— Ну, бэсцяць застой, крытыкуюць... Дык і перабудова ж ідзе. Змены будуць,— упарціўся ён.— Інстытуты, між іншым, таксама перабудова ахапіла...

— Пра ахапілаўку ты лепей на сваіх партсходах выступай, а дома не трэба! — сказануў я.

Тут ужо псіхануў і бацька. Ён абазваў мяне шчанюком і пайшоў на балкон курыць...

У нас з бацькам бываюць, як мы іх называем, «вечары пісьма». Гэта калі я атрымліваю і даю яму пачытаць лісты аднаго свайго аднакласніка, які паступіў у кіеўскае ваеннае вучылішча, а яму прыходзяць лісты ад інстытуцкага сябрука, які выседзеў кандыдата навук і цяпер працуе дэканам у адным абласным інстытуце ў нас на Беларусі.

У жыцці масавых ВНУ, нягледзячы на розніцу ў профілі падрыхтоўкі спецыялістаў, напэўна, усё-такі шмат агульнага. І таму ў лісты бацькавага сябрука быццам бы ўліваюцца праблемы і майго інстытута. Асабліва «люстраным» здаўся мне апошні ліст.

«Факультэт мой разросся, і стала цяжка ім кіраваць,— паведамляе дэкан.— Цяперашніх навучальных плошчаў відавочна недастаткова, месцаў у інтэрнаце — таксама. Аднак усе гэтыя цяжкасці нібыта аб'ектыўныя, і чым іх болей, тым больш злы і вынаходлівы робішся...»

Дэканавы лісты з нейкіх моцных, грунтоўных слоў, а галоўнае, яны сумленныя, і гэта мне вельмі падабаецца.

Не ведаю, як у нас з месцамі ў інтэрнаце, а з вучэбнымі плошчамі карціна тая ж самая. Светлых, прасторных аўдыторый зусім мала. Для інжынернай графікі ўвогуле адвялі нейкі закутак, дзе святло падае на графічныя аркушы з-за нашых спін. Пры такім асвятленні толькі дровы калоць, а не чарціць.

«...Рэктарат і партком па сем разоў на дзень слова «перабудова» згадваюць, а жывуць, як і да 85-га. Тут, вядома, і іх уласныя набытыя звычкі, і ранейшы націск таксама працягваецца: з гаркома, абкома. Месяц, як заўсёды, аддалі калгасу. Толькі пачалі займацца, каманды: 200 чалавек дай у адзін раён, 100 — у другі. На тыдзень трэба закрыць прабоіну. Мы, дэканы, усталі былі на дыбы, але рэктар адно ўзняў вочы: загад абкома, таварышы, ад самага першага».

Далей апісвалася такое: «Радасная, брат, вестка прыйшла з месяц таму на мой факультэт: вам выдзелена адно месца на прыём у партыю студэнта. Годных адабралі чалавек пяць. Але праз некалькі дзён нам кажуць: гэтае месца спецыяльна для студэнта N. Рыхтуйце яго. Сакратар факультэцкага партбюро ўзяў пад казырок. А я выступіў на сходзе супраць, і гэты N не быў прыняты. Пікантнасць сітуацыі ў тым, што N — дзіцятка аднаго чыноўніка абласнога маштабу...»

Ліст быў не на карысць татавых надзей на хуткую перабудову нашай вышэйшай адукацыі. Гэта і вожыку было зразумела...

А цяпер я сам сабе нагадваю таго адзінокага турыста з анекдота, які яшчэ не сабраў дома рэчмяшок, а ўжо заблукаў...

Так заканчваецца зялёны сшытак Стася, на дванаццаць аркушаў у клетку. І тут павінен працягваць я. Перш за ўсё трэба, відаць, сказаць, што мне прыйшлося доўга ўгаворваць Стася, каб ён аддаў свае запісы ў чужыя рукі. Хаця, зрэшты, рукі мае не зусім яму чужыя.

Са Стасевым бацькам мы самыя «кароткія» землякі, якія толькі бываюць,— аднавяскоўцы. І такая ўжо ў нас завядзёнка, што ці прыемна некаму з нас плывецца пад ветразем лёсу па гэтым мудрагелістым жыцці, ці ж, наадварот, ветразь гэты няўмольна рвуць напорыстыя халодныя вятры, стараемся трымацца побач. Стась рос на маіх вачах, часта каштаваў мае шакаладкі. На маіх вачах і вучыўся. Іншы раз нават даваў пачытаць свае школьныя сачыненні. А вось як дайшло да гэтых запісаў...

— Хочаце надрукаваць! — насцярожыўся ён.

— Паспрабую. Калі толькі дзе-небудзь прымуць.

— Тады мне трэба падумаць...

Невысокі, каржакаваценькі, з густым пухам пад даўгаватым, з ледзь прыкметнай гарбінкаю носам, ён рэзка скалануў сваёй белай кудлатай галавою — злева направа, каб пералягла з ілба на бок густая чупрына — і пайшоў са сваім сшыткам на тую самую кухню, дзе ў іх вядуцца сямейныя вечаровыя дэбаты. А мы са Стасевым бацькам, застаўшыся ў іх адзіным пакоі, гадалі напаўголаса — вырашыць аддаць ці не...

Наш бурліва-мітуслівы час вывернуў навыварат масу слоў і паняццяў. У школе Стась баяўся трапіць у «прыкладныя», а яшчэ больш — у «актывісты». Калі на ўроку задавала пытанне настаўніца і ніхто не падымаў рукі, каб адказаць, не падымаў і ён: абзавуць выскачкаю. Лепш быць «як усе». Голас уласнага «я» мацнее ў ім нашмат больш павольна, чым дадаецца юнацкіх гадоў...

Са сшытка, урэшце мне ўсё ж аддадзенага, знік нумар школы, якую ён заканчваў. Не стала назвы інстытута, дзе вучыцца цяпер; выкасаваны прозвішчы выкладчыкаў, якія упаміналіся раней. Наклаў, вядома, Стась і самую галоўную забарону: не згадваць ягонага ўласнага прозвішча. Усё астатняе засталося.

І вось, што ж рабіць нам з гэтым «астатнім»!

У адрозненне ад Стася, мне зусім не хочацца з'едліва іранізаваць з нагоды тае самае радасці студэнцкае моладзі 60-х гадоў, якая сапраўды была — гэта я ведаю сам, бо належаў менавіта да таго пакалення студэнцтва. Цяпер яна знікла некуды, як вада ў пясок. Няма больш таго сёмага неба, на якое ўзносіла нас сама прыналежнасць да інстытуцкага племені.

Сышло ў пясок і многае іншае. Нешта, напрыклад, моцна ўдарыла па самім кульце вучобы. Ён таксама некуды ўсё роўна як праваліўся.

Нашыя інстытуты, якія называюцца ў сшытку масавымі, усё ніяк не створаць сваіх чымсьці альбо кімсьці хоць трохі знакамітых выкладчыцкіх школ. Не напрацоўваюцца ў іх плённыя традыцыі. Адзін інстытут адрозніваецца ад другога толькі профілем падрыхтоўкі спецыялістаў. А дзе ж «лица необщее выраженье»! Вынік усяго гэтага — дыпломы без прэстыжу, дэвальвацыя інжынернай працы, запаўненне конкурснага вакууму абітурыентам-сераднячком.

Над «лицом», над рэпутацыяй пераважаюць план і вал. Ці палепшыць сітуацыю рэформа вышэйшай адукацыі! Ці ў век стандартызацыі і уніфікацыі ўсяго што ёсць — гэта толькі мара пра паветраныя студэнцкія замкі!

**Хведар КАШКУРЭВІЧ**

* * *

заўважыць заваёўнік знак
накаваныя знікнуць
звыкне вязень сніць агонь
успомніць таямніцу болю
назавецца сведкай цноты ноч
весткай волі
звонку стогне
полымя

* * *

ралля
алтар трывання
выратуе права ратай
браць рала і спраўляць абрад
вяртанне веры ў сутварэнне
твора й творцы
радасныя твары
у сонцы адлюструецца
трывога

* * *

да дна даткнуцца
дай
дацягнуцца і заснуць
далёкі угледзець далягляд
далоні
дзеля золата
да ўлоння складзеныя джалы
хай доўжыцца працяг
спатоліць маладзік паланне
долькай лёду
й патоне у імгле
пялёстак белы
лотасу

* * *

паўз шчыльны шэраг
шчэпленых плячэй
пчаліны плач
натоўп зацята топча
побач вочы
прэч збегчы хочацца
і легчы
у чабаровым шэпце
точыць прашчур меч
чакае веча
дзеўчына маўчыць

* * *

зыч рымсты маці
у цёмных моц адняць
намацаць
хісткі мост да помсты
адмыты потам
тых
хто меўся употай захаваць
упоцемках
пачатак ніцяў
выцвілых сцяжынак
штодзённа цвелячы надзею
помніць
мэту

* * *

з ляза
не зліжа слёзы
ваўкалак
у полі ляжа
між сляпым і злым
наўкола
попелавы жаль
зямлі
улада кленчыць
звыкла

* * *

заўтра ўранку
неба ранай скрывавіцца
слізкі камень
ахвярнай расою заплаканы
знерухомее
над палонным полымя
у паклоне
маўклівая ноч
адыходзячы

* * *

унук
пакіне човен
скончыцца пачатак
з нічыйнымі вачыма
нечае аблічча
вяшчун адчуе
немагчымы ўчынак
да вечнага спачынку дачыніцца
прычына мучае
ад зніча
спадчына

* * *

рассыплецца па каліву
вуголле
на паркалёвым тле
туліцьме цела
да камля
дзіця знямоглае
гудзе прыціхла вулей
кволае цяпельца
тлее голле

* * *

блукае
улюбёны ў боль
абылганы уладальнік
абраны бараніць былы уклад
пакуль плывуць аблокі
і чало ў блакіце
вакол пляскаты пляц
быльнёг падсцеле
для стамлёных целаў
дагэтуль
ладзіць беды рытуал
сталёвы латнік
будзе
плоцьуклаўшы ў бляск



**Уладзімір СЦЯПАН**



## ПАСЛЯ АПОЎНАЧЫ

Ёсць цішыня у восеньскім дажджы,
У шуме ветру на мікрараёне,
Калі антэн графічныя крыжы
Хістаюцца за шклом замглёным,
Калі трамвайных іскраў капяжы
Успыхваюць у рэчышчах бетонных...

І адзінота робіцца гаючай,
І забываецца бясконцы тлум падзей.
Збягае кропля рысаю бязгучнай
Яшчэ адзін закрэслівае дзень.

## СВЯТОЧНАЯ НОЧ

Зоры прапалі пад прысакам хмары.
Цокаюць звонка абцасы аб лёд.
Горад не спіць. Вандроўныя пары
Водзяць на пляцы п'яны карагод.

Ярка свіціцца неон ліхтароў,
Промні ляцяць у сутонне глухое.
Скрышанай крэйдай на спіны мастоў
Падае снег цішыні і спакою.

Ён зацярушыў азяблыя камні,
Сном і маўчаннем праспект атуліў...
Жоўты «Ікарус» — сябра мой даўні —
Дзверы насустрач мне адчыніў.

Снег за акном шурпаты і колкі.
Нехта забыўся ў аўтобусе ёлку.

## КРАЯВІД

Сад абляцелай лістоты,
Сумны, што кінуты дом.
Аголена ўсё бесклапотна
Жорсткім зімы скразняком.

Птушкі, як позняя госці,
За круглым сталом у альтанцы.
Глядзяць на калянае лісце,
Якое ўздымаецца ў танцы.

Восені велічны баль
Звініць на паркеце калюг.
Хутка мой смутак і жаль
Спаліць агонь завірух.

## РАЗВІТАННЕ

Душа ацішэла. Прапалі жаданні.
Пад крыгаю квадры таемна-цяжкой
Не вартыя словы — сэнс у маўчанні.
Дарогі разора ляжыць прада мной.

Давай памаўчым, каб словам не
схлусіць,
Давай памаўчым, каб не клікаць
бяду.
Хай вецер сляпучую крыгу адносіць
На чорнага неба нямую ваду.

Стаім на дарозе ў спрадвечным
маўчанні...
Між намі імклівa адлегласць расце.
І доўжыць вяртанне, і блізіць
расстанне,
А квадра знікае ў чорнай вадзе.

## АГОНЬ

На залаты агонь глядзім,
Штоззяе ў цішыні глыбокай
І нішчыць сам свае вытокі —
Хавае прысакам сівым.

На белы і бязважкі дым,
Што уздымаецца ў аблокі,
І там павольна і высока
Плыве над вогнішчам сваім.

Бясконцы клопат чалавечы...
Ізноў спрачаемся пра вечнасць,
Пра зменлівасць і пра спакой...

Змаўкаем. Полымя згасае.
Над намі млечнаю ракой
Дым у бязмежжы прападае.

## КАЛЯНДАР

Штотыдзень прапануе каляндар:
То краявід блакітнага ўзбярэжжа,
То прыгажуні бездакорны твар,
З рэкламнаю, прывабнаю усмешкай,

То штыўнай хваляю марской
Ён запрашае ў вандраванне
Па бухце сонна-залатой,
І выкананне ўсіх жаданняў.

То яркім глянцавым лістом
Пераканаць мяне спрабуе,
Што зараз сонца за акном
І што з надвор'ем мне шанцуе...

На жаль, туман цяжкі і шэры,
І цьмяна свецяць ліхтары,
І свята толькі на паперы,
А дзень будзённы — на двары.

## НЕДАПІСАНЫ ВЕРШ

Скамечаны паперы ліст
Разгортваецца паступова.
Ізноў з'яўляюцца на свет
Рукой знявечаныя словы.

«Я існую між розных рэчаў,
У смутку, радасці, самоце...
Я існую у слове «вечнасць»,
Як лёгкі вецер у лістоце...»

І можна зараз перайначыць
На іншы сэнс малюнак слоў,
Але рука ўжо дату ставіць
Пад сіняй сеткаю радкоў.



Мал. аўтара










# ЯНЫ СТАМІЛІСЯ...

«Веселие Руси есть питие...» Хто прыдумаў гэты пошлы афарызм і з ухмылкаю пусціў яго па свеце! Цар-бацюшка, цалавальнік, хітры міністр, эканаміст, які падлічыў, што бутэлька гарэлкі можа стаць фінансавай панацэяй! А гультаяваты і таксама хітры адміністратар бачыў у бутэльцы чароўную палачку, якая дапамагала смела здзяйсняць несумленныя справы. А што! П'яны чалавек — гэта паўчалавека, а п'яны народ — натоўп. А натоўпам пры пэўных уменнях і лішку гарэлкі кіраваць вельмі нават лёгка.

Не, не «веселие Руси есть питие», а трагедыя.

У спадчыну ад «застольнага перыяду» нам дасталіся п'яніцы — мужчыны і жанчыны, развіты алкагалізм і жудасныя лічбы дэбілізму і алігафрэніі. Што хаваць — усе мы стаялі ля тае рысы, за якою пачынаецца выраджэнне народа.

А цяпер! Ці можна лічыць,





што алкагольны туман рассеяўся! На жаль, нават самыя вялікія аптымісты з таварыства цвярозасці наўрад ці абрадуюць інфармацыяй пра кардынальныя зрухі.

Праблема існуе. Яе не вырашаць, вядома, патрабаванні неадкладнага і паўсюднага «сухога закону», альбо наіўна-бравурныя аб'явы аб стварэнні ў гарадочку Н-ск «зоны цвярозасці». Адно ўскладняюць справу фантастычныя чэргі.

А пакуль...

Паглядзіце на гэтыя здымкі, зробленыя ў адным з мінскіх так званых медвыцвярэзнікаў. Вядома, далікатнае «мед» тут зусім недарэчнае, ніякае медыцыны тут няма. Тут загубленыя лёсы, заблудныя душы, ачарсцвелыя сэрцы. Тут сканцэнтраваны нашыя страты, тут паноптыкум карыкатур на чалавека «заўтрашняга дня», пра якога мы так доўга красамоўнічалі ў юбілейных справаздачах і якога так жорстка нявечылі ў рэальным жыцці.

**Павел СТАРАДУБ,**
**Віталь БАРДЗЫКА (фота)**

# НЕКАЛЬКІ ДЗЁН З СЯБРАМІ

Заканчэнне. Пачатак на стар. 17

трапляе ў рэабілітацыйны цэнтр і там глядзяць, чым максімальна яму можна дапамагчы ў аднаўленні страчаных функцый. Нам паказалі шматлікія спартыўныя пакоі і велізарную спартзалу ўжо для максімальна фізічна рэабілітаваных. Спартыўныя пакоі абсталяваныя трэнажорамі для распрацоўкі пашкоджаных канечнасцей. І займаюцца інваліды не на падлозе, з якой цяжка падняцца (дый увогуле не ўсе могуць гэта зрабіць), а на спецыяльных тапчанах, на якія лёгка можна трапіць і з каляскі. Спецыяльныя пад'ёмнікі падымаюць на патрэбны ўзровень і апускаюць. Могуць падняць і апусціць у ванну тых, хто не можа зрабіць гэта сам.

І ўсё ж галоўная адметнасць цэнтра, на маю думку,— яго жыллёвы комплекс у спалучэнні з вытворчым прадпрыемствам. Стокватэрны дзесяціпавярховы дом. Асобныя кватэры з аднаго-двух-трох пакояў, спецыяльная мэбля, шырокія калідоры. На кожным паверсе па тры прасторныя ліфты. Начное асвятленне забяспечвае рэле часу. Жывуць тут пераважна тыя, хто перасоўваецца на калясках, інваліды з дзяцінства і з асабліва цяжкімі паражэннямі апорна-рухальнага апарату. Каляскі з электроннамеханічным кіраваннем: націскаеш на кнопку і едзеш куды табе трэба. Каляскі вельмі манеўраныя, пастаўляе іх ФРГ. Такія каляскі — пакуль што нязбытная мара для многіх нашых калясачнікаў... Жывуць інваліды ў асобных кватэрах, вельмі многія жывуць сем'ямі. Усё тут накіравана на тое, каб даць чалавеку максімальную магчымасць жыць нармальным жыццём, як мага меней адчуваць сваю непаўнацэннасць.

Многія сямейныя пары маюць здаровых дзяцей. Ёсць тут і дзіцячы садочак. Справіцца з побытам інваліду дапамагаюць спецыяльныя службы: прыбіраюць кватэры, дапамагаюць прыняць ванну. Гэтае абслугоўванне каштуе 14 рублёў у месяц.

Ёсць і асобныя пакоі для тых, хто зусім не можа абыходзіцца без чыёйсьці дапамогі, у іх наладжана селектарная сувязь з пакоямі медперсаналу. Вядома, цікавы псіхалагічны мікраклімат такога комплексу, бо ў нейкай ступені яго можна назваць рэзервацыяй (чаго так баяцца нашы псіхолагі дый некаторыя інваліды). Мы размаўлялі з многімі жыхарамі гэтага гарадка, напрыклад, з маладой жанчынаю-калясачніцаю, псіхолагам па адукацыі. Тут яна, як і многія іншыя, адчувае сябе самастойным чалавекам, мае мужа, працу, неабходнае абслугоўванне, лячэнне, мажлівасці цікава прабавіць вольны час.

Раніцай інваліды едуць у сталовыя на сняданак, але можна гатаваць і на кухні ва ўласнай кватэры. Пасля сняданку тыя інваліды, што працуюць, едуць на працу па шматлікіх галерэях і спускаюцца на ліфтах, якіх тут вельмі шмат. У вытворчым комплексе «Меты» працуюць 200 інвалідаў, з іх 150 — калясачнікі. Дырэктар гэтай вытворчасці таксама калясачнік, як і яго жонка-эсперантыстка, якая і была нашым гідам і перакладчыкам. Яны ласкава прапанавалі паказаць нам вытворчыя цэхі.

І вось мы ходзім па цэхах і назіраем, як працуюць людзі з моцнымі паражэннямі не толькі ног, але і рук. Дапамагаюць ім спецыяльныя прыстасаванні, з якімі лягчэй карыстацца рабочым інструментам. Гэта вельмі ўразіла нас, бо гэта ж не якія-небудзь ніткі тут перабіралі ці перакладвалі з месца на месца, інакш кажучы, не маларэнтабельную, нізкааплачваемую працу выконвалі: большая частка прадукцыі «Меты» — электроніка, розныя кандэнсатары для завода «Цесла».

Планавага вытворчага задання «Мета» не мае. Галоўная місія гэтай вытворчасці — забеспячэнне ўсіх інвалідаў, якія жадаюць працаваць, пасільнай работаю, стварэнне адпаведных умоў працы, змена колькасці рабочых гадзін, ажно да 2—3-х. Прадукцыйнасць павялічваецца за кошт максімальнай механізацыі, увядзення прыдатных вытворчых праграм. Комплекс гэтых мер у спалучэнні з аднаўленчымі мерапрыемствамі зрабілі прадпрыемства высокарэнтабельным.

І ўсё ж асноўную працоўную дзейнасць аб'яднанне «Мета» арыентуе на вытворчасць рознай дапаможнай тэхнікі, усяго таго, што так неабходна многім інвалідам: гэта не складаныя, але вельмі патрэбныя прыстасаванні, якія дапамагаюць чысціць абутак, зашпільваць гузікі, разнастайныя трымальнікі для побытавых прадметаў, шчотак, нажоў, тэлефонных трубак, доўгія шчыпцы, якія дапамагаюць інваліду на калясцы падняць рэчы, што ўпалі на падлогу, туалетныя падстаўкі з парэнчамі, пад'ёмнікі для ваннаў, розныя трэнажоры для распрацоўкі суставаў.

Пасля працы жыхары гарадка могуць бавіць час як пажадаюць. Некаторыя едуць у рэстаран і там п'юць піва і вельмі смачныя безалкагольныя напоі, другія едуць у кіно ці пакоі адпачынку і там глядзяць тэлеперадачы. Ва ўсіх гэтых пакоях мяккая мэбля, канапы і крэслы. Іншыя бавяць вольны час дома. Каля цэнтра, у прыгожым месцы, акружаным густым лесам, размешчаны спартыўны комплекс. Тэнісныя, валейбольныя, баскетбольныя пляцоўкі. Часам наладжваюцца спартыўныя спаборніцтвы, на якія з'язджаюцца шматлікія балельшчыкі.

Для сваіх рабочых прадпрыемства будуе лецішчы. Частку расходаў бярэ на сябе саюз. Бо 65 працэнтаў усяго прыбытку прадпрыемствы пералічваюць яму, 35 працэнтаў пакідаюць сабе.

Вось у адным з такіх цэнтраў і адбывалася міжнародная сустрэча эсперантыстаў-інвалідаў — у маляўнічым мястэчку Хаданін за 50 км ад Брно. Першы вечар быў прысвечаны савецкай дэлегацыі. Мы расказвалі пра сябе, пра тую працу, якая праводзіцца цяпер у нас у краіне па стварэнні таварыстваў, падобных да чэхаславацкага саюза інвалідаў. Мы спявалі песні рускія, беларускія і ўсе разам — на эсперанта. І было адчуванне цеплыні і блізкасці ад таго, што мы так добра разумеем адно аднаго і няма ў нас ні моўнага бар'ера, ні якіхсьці іншых непаразуменняў.

г. Віцебск







Канстанцін ТАРАСАЎ

# ЗАЛАТАЯ ГОРКА

Працяг. Пачатак у № 4

## II. КЛІМ

Я быў амаль упэўнены, што збеглы эсэр на сустрэчу не прыйдзе. Доля сумніву ўзнікала з нерэальнага дапушчэння, што Скарга ўсё прыняў за чыстую манету. Але ў падобную невідушчасць насцярожанага чалавека цяжка паверыць. Таму, хоць я і прыйшоў а трэцяй гадзіне на Нямігу і стаў каля сцяны старадаўняй брацкай школы[1], аддадзенай яўрэям пад сінагогу, я надта здзівіўся і ўзрадаваўся, калі з натоўпу ўзнік Скарга. Ішоў ён з боку моста. Я ўзрадаваўся, але імгненна і напружыўся — нелагічныя ўчынкі тояць у сабе непрыемнасці. Мае адчуванні падказвалі, што ён не верыў ні гаспадару смаленскай яўкі Клачкову, ні мне. Збеглыя скурай адчуваюць фальш, і яго спакуслівую прапанову ехаць у Мінск кур'ерам ад смаленскага камітэта асабіста я расцаніў як спробу вырвацца з пасткі. Але падпалкоўнік, які вёў гэтую справу, упэўнена запярэчыў: «Не вырвецца. Калі нават уцячэ ад вас па дарозе. Мы ведаем яго мінскіх адрасатаў». Мне назвалі тры адрасы, па якіх Скарга можа паехаць з вакзала. І сапраўды, на адну з гэтых канспіратыўных кватэр, у спісе яна стаяла другой, мы і накіраваліся. Мне было прыемна ўсведамляць, што нашы людзі валодалі дакладнай інфармацыяй, але і насцярожыла: калі Скарга не верыць мне, дык нашто тады раскрывае яўку? Увойдзеш у кватэру, так табе заткнуць рот затычкай, а ўначы баявая арганізацыя абвесціць вырак. За домам, праўда, вялося назіранне — па вуліцы ў адпаведнасці з планам цягаўся шкляр. Але самазабойцу за сталом ніхто не ўяўляў. Скарга быў моцна ўражаны гэтым страшным відовішчам, у яго розум за розум зайшоў. Ды і ў мяне ў першую хвіліну таксама. Ён аслупянеў і ўласным вачам не паверыў. Мне нават стала яго шкада: едзеш да таварыша, а дакладней, прабіраешся пасля ўцёкаў да свайго вернага чалавека, а ён узяў ды пусціў кулю сабе ў скроню. Быццам менавіта з той мэтай, каб разбурыць твае надзеі і планы; і мае, нашы — таксама. Але дзіўна выглядала гэтае самазабойства, яно мне адразу не спадабалася. На чалавеку грубыя боты, кашуля ў масляных плямах, гэта значыць падняўся па гудку, апрануўся, каб ісці на свой шкляны заводзік, дзе рабіў штампоўшчыкам, і раптам звар'яцеў, схапіў наган, сеў за стол і пазбавіў сябе жыцця. Не банкрут, не зломак, не слязлівы інтэлігент, а эсэраўскі баявік. Рослы, дужы дзяцюк гадоў пад дваццаць пяць. Але стаяць і глядзець на яго не мела сэнсу. Я вярнуў Скаргу да рэчаіснасці, мы выйшлі і паехалі па другім адрасе, у спісе ён быў трэці. Тут дом быў зачынены, а вонкавае назіранне вёў тачыльшчык. Там — шкляр, тут — тачыльшчык. Фантазія мінскіх вышукных афіцэраў мяне раззлавала. Магчыма, і Скарга звярнуў увагу на такую дзіўнасць. А магчыма, і не прыкмеціў нашай памылкі, прыбіты сваім няшчасцем. Але хутка выкарыстаў яго, каб разлучыцца са мной па цалкам уважлівых прычынах — трэба знайсці сваіх, а дзеля гэтага цягаць з сабой кур'ера неабавязкова. Варыянт, што Скарга пакіне мяне ў Мінску, быў прапрацаваны. Затрыманне ў мае абавязкі не ўваходзіла. Я — проста Клім са смаленскай баявой дружыны і павінен выказаць поўны давер да кожнага слова і дзеяння свайго мінскага калегі, таварыша па партыі. Мне сказалі, што там ёсць агент, і аб усіх кроках Скаргі, як бы ён ні хітраваў, усё роўна будзе вядома. Яго чакаюць у Мінску ўжо тры месяцы, з таго дня, як атрымалі звесткі пра ўцёкі; пастка падрыхтавана, яна зачыніцца з трэскам, як толькі ён выцягне з тайнага сховішча нарабаваныя, або — на іхняй мове — экспрапрыіраваныя ў дзяржавы грошы. Па сутнасці, мая задача зводзілася да аднаго — даставіць Скаргу ў Мінск жывога і цэлага.

Трымаючыся ягонай парады, я зайшоў у гасцініцу «Любава»[2], але там не было свабодных пакояў, не было тэлефона, і я накіраваўся на вакзал, дзе з паліцыі пазваніў у жандарскае ўпраўленне. Праз чвэрць гадзіны да майго століка ў рэстаране падсеў прыгожы брунет у шэрым гарнітуры.

— Валеры Іванавіч? — спытаў ён.

— Павел Кузьміч? — спытаў я.

Мы павіталіся. Зрэнкі ў ротмістра Жывінскага былі звужаныя да памеру кропкі, з-за чаго зеленаватыя яго вочы здаваліся жахліва пустымі. Падляцеў афіцыянт. Ротмістр заказаў каву па-варшаўску.

— Ну, што гэты прахвост? Усё ж знік?

Жывінскі ўсміхаўся. Яму прыемна, што некага абвялі вакол пальца. Грубаваты, з яхіднасцю гумар я не люблю. Мне захацелася запярэчыць. Я ведаў з дадзеных мне звестак недараваль-

ныя прамашкі Жывінскага. Я мог адказаць: «Так, знік. Але як гэта вы, Павел Кузьміч, мінулай восенню прызнання ў рабунку не дамагліся? Знаёмую яго бог ведае нашто аддалі на ганьбу, раззлавалі арыштанта. А галоўнае — дзевяноста дзве тысячы з Дзяржаўнага банка прапусцілі міма вачэй». Але спрачацца з неразумным чалавекам — дарэмна траціць сваё жыццё. Я згадзіўся з неаспрэчнай праўдай: «Так, знік!» І ўзяў рэванш паведамленнем пра самазабойства на Суражскай вуліцы. Гэтая вестка ўразіла яго не менш, чым Скаргу. Магчыма, і больш. Ён нават галавой паматаў, як ад удару ў сківіцу. Пасля чаго здзіўлена і з сумненнем сказаў: «Дазвольце...», потым грыбаедаўскай фразай «Свежае паданне» выказаў недавер. Я зразумеў, што нарэшце ў яго распачаў працу мозг. Праз некалькі хвілін роздуму ён прыняў рашэнне і пабег на тэлефон паклапаціцца аб крымінальным расследванні. Хутка ротмістр вярнуўся, і мы абмеркавалі наступныя дзеянні. Жывінскі таксама не верыў, што сустрэча прызначана Скаргам сур'ёзна. Тым не менш, калі ўжо яна прызначана, дык трэба прыйсці. Мы дамовіліся сустрэцца а палове трэцяй у гатэлі «Гарні»[3], у другім нумары. Там я атрымаю новыя звесткі, а ў акно мне будуць паказаны філёры, прызначаныя страхаваць мяне і сачыць за Скаргам, калі ён прыйдзе. Кантактаваць з філёрамі мне не трэба, яны пазнаюць мяне па вонкавых прыкметах. У канчатковай удачы ўсёй аперацыі Жывінскі не сумняваўся ні на ёту. «Кожны крок гэтага тыпа будзе вядомы,— казаў ён.— Там надзейны інфарматар».— «Дай божа!» — адрэагаваў я без асаблівай веры.

Мы расталіся, і я, паснедаўшы, адправіўся на шпацыр. Неабходна было змарнаваць колькі гадзін часу, а ў тры на Нямізе пабачым: прыйдзе баявік — добра, не прыйдзе — яшчэ лепш. Грахоў на гэтым збеглым на пяцьдзесят гадоў катаргі, у яго ў кішэнях два пісталеты, губляць яму няма чаго, а ў мяне жонка і сямігадовы сын, і чакаецца перавод з павышэннем у Маскву. Мне і не хацелася, каб ён прыйшоў: дробная роля ў чужым плане не абуджала маю прафесійную цікаўнасць.

Аднак узнік, набліжаецца: я здалёк прыкмеціў у натоўпе карычневы пінжак. Месца для сустрэчы ён абраў выдатнае: амаль на стыку дзвюх вуліц, побач рынак, таўканіна, знікнуць тут лёгка, але затое і сачыць зручна. Мала што на гэтым свеце ўдаецца ацаніць адназначна. Выгляд у майго «таварыша па баявой арганізацыі» быў невясёлы, калі не сказаць змрочны. Нешта ў яго, відаць, не ладзілася. Як натрапілі раніцай на нябожчыка, так, адпаведна прыкмеце, усё і пайшло накасяк.

— Ты што такі сумны? — спагадліва спытаўся я.

— Ды тут... складанасці,— адказаў ён без ахвоты.— Таго няма, другі ад'ехаў. Грошы зможам узяць толькі пад вечар. Так што давядзецца ехаць начным ці заўтра.

— Лепш было б начным,— сказаў я шчыра. Гасцяваць у Мінску мне не хацелася.

Думка пра начлег прымусіла яго прыгадаць ранішнюю гутарку.

— Уладкаваўся ў гасцініцу?

— Не, у «Лібаве» не было нумароў.

— Знаёміўся з горадам?

— Нашто? Сядзеў у электратэатры. Два сеансы.

Гэта была чыстая праўда. Валачыцца па цэрквах і касцёлах я не люблю, музеяў у Мінску няма, гістарычных помнікаў таксама, архітэктура — глухменная нават у параўнанні са Смаленскам.

— Уладкуемся як-небудзь,— сказаў ён.— А пакуль што занятку ў нас няма. Давай паходзім.

Я зразумеў, што ён мае намер праверыць мяне на суправаджэнне. Мы прайшлі па Нямізе і на першым скрыжаванні павярнулі налева. Тут я падумаў, што, хутчэй за ўсё, эсэр плануе паказаць мяне сваім. А філёры, выконваючы загад Жывінскага, пацягнуцца следам. Мне яны былі зусім не патрэбны. Моўчкі мы прайшлі два кварталы да скрыжавання Праабражэнскай і Богаяўленскай. Цераз дарогу за мураванай сцяной стаяла царква[4]. На рагавым доме лезла ў вочы шыльда — «Гасцініца Матчыз»[5]. Мой спадарожнік спыніўся, і вочы ў яго ажылі.

— Вось тут была добрая сутычка,— мовіў ён.— Мы загарадзілі вуліцу, а адтуль,— ён паказаў у бок Захар'еўскай,— ішлі бойлы з «Мінскага праваслаўнага брацтва» і «Акраіннага рускага саюзу».

— Стралялі?! — пацікавіўся я.

— Траіх пазначылі. Астатніх як ветрам знесла.

— Малайцы! — ухваліў я, не разумеючы, аднак, нашто ён апавядае мне пра акцыі сваёй групы.

Скарга павёў мяне на Саборную плошчу[6]. Нас абагнаў адзін з маіх філёраў. Узняты каўнер пінжака паведамляў мне, што прыкмечана эсэраўская сочка. Я гэтага чакаў і застаўся спакойны. Мы перасеклі Губернатарскую[7] і ўздоўж сквера, міма акруговага суда[8] выйшлі да Святадухаўскай царквы[9].

— Тут Пуліхаў кідаў бомбу ў Курлова,— сказаў Скарга.

— Ты ведаў яго?

— У твар. Ён быў у другой дружыне.

Я ўздыхнуў, выказваючы спачуванне трагічнаму лёсу баевіка. Ён кінуў бомбу, калі з царквы выносілі нябожчыка. Бомба трапіла губернатару Курлову ў галаву, але не выбухнула. Бог ведае чаму. Калі б яна спрацавала, дык і ад Курлова, і яд нябожчыка, і яшчэ ад дзесятка чалавек засталіся б толькі шматкі, раскіданыя выбухам па ўсёй плошчы. Пуліхаў ведаў на што ішоў. Літасці да яго я не адчуваў.

— І дзяўчына, дачка генерала Ізмайловіча, страляла тут у паліцмайстра,— казаў Скарга.

— Яе таксама павесілі?

— На катарзе,— растлумачыў Скарга.— Даравалі.

— З усімі разлічымся,— сказаў я, але, здаецца, словы мае прагучалі двухсэнсоўна — я прыкмеціў хуткі і злы позірк Скаргі. Ён, пэўна, падумаў, што я здзекуюся. Ён усміхнуўся і прыгадаў са сваіх хваравітых успамінаў, адрасуючыся, напэўна, да майго сумлення.

— Ведаеш, як Курлоў расстрэльваў нас на вакзале? Рэзалі перакрыжаваным агнём. З пераходнага моста, з вокнаў і трэцяя рота ад дэбаркадэра. На мітынг сышлося тысяч з пятнаццаць, уся плошча была запоўнена... Паўтысячы паклалі. Кроў — і ў ёй людзі.

Я змаўчаў, падумаўшы, што інакш такі натоўп не разагнаць. Цяпер пятнаццаць тысяч не хутка збяруцца зноў. А на гэтай вакзальнай плошчы, магчыма, ужо ніколі не збяруцца. Кожны хоча жыць, хоць ведае, што памрэ.

Абмінуўшы Купецкі клуб, мы зноў спусціліся на Ніжні рынак. Мусіць, Скарга чакаў тут ад сваіх баевікоў паведамлення аб філёрскай сочцы. Нейкі знак, падобна, быў яму пададзены, бо ён раптоўна, без усялякай прычыны павесялеў. Пажвавеўшы, Скарга прапанаваў зайсці ў карчму; выявілася, ён і крошкі не паспеў перахапіць. Я прызнаўся, што снедаў, але згадзіўся і паабедаць. Я дапусціў таксама, што збеглы эсэр запрашае мяне ў карчму, каб пасадзіць за стол, а самому знікнуць праз кухонныя дзверы і згубіцца ў тутэйшых трушчобах. Але і пры такім зыходзе я не збіраўся кідацца ў пагоню. Са звестак Жывінскага, пачутых мной у «Гарні», вынікала, што ў баевіка прызначана на вечар сустрэча з таварышамі. Агент ведаў і месца сустрэчы, але ці прынясе Скарга грошы туды ці адправіцца па іх пасля сустрэчы, ён не ведаў. За сінагогай на рагу Нямігі і Ракаўскай была карчма нейкага Кляйновіча. Мы занялі столік непадалёк ад дзвярэй. У далёкім ад нас куце igралі скрыпка і гармонік. Часам скрыпач працiскваўся паміж сталамі, п'яныя кідалі яму драбязу, манеты ён сыпаў у кішэню, у вачах яго тлелі непазбыўны сум і пагарда да публікі, але іграў ён нядрэнна.

— Не баішся, што цябе пазнаюць? — спытаў я.

Скарга ўсміхнуўся:

— Не, Клім. Год таму назад я быў малады, неразумны, румяны. А зараз пад вачамі зморшчыны, я пастарэў на пятнаццаць гадоў. У дадатак апоўначы, спадзяюся, мы ад'едзем. А калі хто пазнае і данясе, дык што з таго?

— Лагічна,— прызнаўся я.

Увайшоў мясцовы філёр у кепцы з гузікам. Ён павольна абвёў позіркам залу, нібы шукаючы годнае месца, угледзеў нас, прайшоўся ў бок музыкантаў, засведчыў тэатральнай грымасай, што такі прытон яму непрыемны, і пакінуў карчму. «Асёл! — падумаў я.— Аднаго такога асла дастаткова, каб сарваць любую справу». Нам прынеслі буракі і рэбры з грэчкай. Скарга разлічыўся. Еў ён хутка і прыгожа. Гэта мне спадабалася.

— У турме страшна? — спытаўся я.

Скарга ўважліва паглядзеў мне ў вочы, намагаючыся ўгадаць сэнс пытання, і, вырашыўшы, што пытанне пустое, зададзена без мэты, сказаў:

— Не па сабе. Але шмат хто памірае і спіць вечным сном у невядомых магілах. Можа, вып'ем,— прапанаваў ён,— таварыша майго памянём, якога ты раніцай бачыў?

Я адмовіўся, бо наогул не п'ю.

— Ён мне жыццё выратаваў у Маньчжурыі,— сказаў Скарга,— вынес на сабе пасля няўдалай атакі...

— Ты ваяваў там? — зацікавіўся я.— Я таксама адпоўзаў год па сопках у пластунскай роце.

Мае словы зачапілі яго, на імгненне ён пацяплеў, але адразу ж нейкім цвярозым разважаннем згасіў у сабе пачуццё вайсковай таварыскасці, і ўспаміны пра вайну не адбыліся.



Пасля карчмы мы пашвэндаліся па рынку, схадзілі да мячэці[10] і Татарскай вуліцай, а потым сцежкай уздоўж Свіслачы прыйшлі на замчышча[11]. За ракой, як растлумачыў мне Скарга, цясніліся пабудовы Траецкага прадмесця, за ім, на ўзгорку, уздымаўся корпус былога уніяцкага кляштара, перароблены пад шпіталь. Па мосце рухаўся натоўп, перастукваліся на стыках колы конкі. На саборы, дзве стройныя вежы якога ўзвышаліся над жылой забудовай, што займала спуск да ракі, ударылі званы. Мы перайшлі Нямігу і па Манастырскай[12] пачалі падымацца да сабора. Мяне ўкалола непрыемнае адчуванне, што я расслабіўся, а мой праціўнік сабраны. Наўрад я ў якасці кур'ера павінен быць задаволены падзеямі. Не для таго ж «камітэт» паслаў мяне ў Мінск, каб я цягаўся па корчмах і завулках.

— Слухай, Скарга,— сказаў я.— Блукаючы з табой па вуліцах, дзе цябе кожны сабака ведае, да дабра не даходзішся. Добра было б знайсці якую танную гасцініцу. Табе не хочацца адпачыць?

— Не зашкодзіць,— згадзіўся ён.

На Губернатарскай мы зайшлі ў гатэль «Масква»[13]. Скарга падаў пашпарт. Ён нічым не рызыкаваў. Пашпарт быў сапраўдны, украдзены ў турэмнага лекара, толькі непрыкметнае прозвішча доктара «Каваленкаў» было перароблена на вядомае пісьменніцкае «Караленка», ды замест фотакарткі доктара быў наклеены нядаўні Скаргаў здымак — плён нашай руплівасці, бо пашпарт на пераробку браў гаспадар яўкі. Звесткі з пашпатра парцье запісаў у кнігу, і Скарга атрымаў ключ ад нумара на другім паверсе. Мне далі нумар побач. Мы падняліся па лесвіцы, і Скарга не забыўся папярэдзіць: «Я па цябе зайду».

Нумар быў маленькі; відаць, вялікі пакой падзялілі надвое шчытавой сценкай; груваcткія ложак, шафа, стол, рукамыйнік не пакідалі вольнага месца, столь даўным-даўно пажаўцела, шпалеры пабляклі яшчэ ў мінулым стагоддзі. У мяне ўзнікла падазрэнне, што ўначы тут гаспадараць блашчыцы. Павесіўшы на спінку стула пінжак, я разуўся і прылёг на ложак. Матрац патрабаваў перацяжкі, спружыны застагналі і захрыпелі, быццам я прыціснуў старога. За сценкай пачуліся гэткія ж стогны. Вось, падумалася мне, ляжаць на ложках два чалавекі і думаюць, як абхітрыць адзін аднаго. Не можа ж зараз збеглы эсэр бяздумна радавацца, што адпачываюць ногі. Не, ён думае, абавязаны напружана думаць пра свае дзеянні, пра мяне, пра нашу тактыку. Напрыклад, пра такі рэальны варыянт: жандарскі ротмістр Жывінскі мяркуе, што Скарга раскрыў «Кліма». Зразумела, што раскрыў, бо пераапрануўся, а нашто было мяняць знешнасць, калі ніхто акрамя мяне не ведаў, якую вопратку мае прыбылы ў Мінск цягніком уцякач. Вынікае, пераапрануўся, каб ускладніць апазнаванне па прыкметах, якія ведалі смаленскія філёры і якія я меў мы́гчымасць даць мінскай сочцы. Ад мяне раніцай адарваўся і змяніў вопратку. Невядома, што рабіў некалькі гадзін. Праўда, гэта яму здаецца, што нам невядома, а ротмістр ведае ад агентаў, што аб'ект наведаў фотасалон, дзе прабыў немалы час. Потым яго прыкмецілі на Захар'еўскай — ён сядаў у пралётку. Следаваць за ім не было магчымасці, але пазней вознік, якога знайшлі па нумары, паведаміў, што сядок з сакваяжам сышоў каля Слабодкі. Каго наведаў ці хацеў наведаць — тут пакуль што загадка. Потым філёр прыкмеціў яго ля Аляксандраўскага сквера — аб'ект кіраваўся ў дом нумар чатыры насупраць тэатра. У доме ён прабыў восем хвілін. Потым эсэр увайшоў у кавярню і тут зноў знік. Кагосьці сустрэў? Невядома, дзе правёў наступныя сорак хвілін, але а трэцяй роўна прыйшоў на сустрэчу і паўтары гадзіны цягаў мяне па мінскіх вуліцах, даў акружыць сябе філёрамі і забраўся ў гасцініцу, дзе кожную хвіліну можа быць схоплены, а пры супраціўленні — забіты.

Логіка дзіўная; ніякай карысці ў такой логіцы не прасочваецца. А вялікая рызыка патрабуе разлічваць хады. Ён вяртае экспрапрыіраваныя сродкі краёвай арганізацыі П-С-Р. Можна не сумнявацца, ён разумее, што жандарская служба чакае, калі пацяжэе сакваяж. Тады я падаю знак, і агенты павісаюць у Скаргі на руках. Гэтую радасць эсэр паабяцаў нам на вечар. Не трэба мець сем пядзяў у лбе, каб зразумець яго немудрагелістую хітрасць: дачакацца прыцемкаў і ў начной цемры пакінуць нас з носам. Але чым мы гарантаваны, што баявік не знікне раней? Сочкай? Няма такой сочкі, ад якой нельга ўцячы. Вось у гэтую хвіліну можа падняцца і знікнуць. Гэта ў яго атрымліваецца выдатна. Затрымаць яго, вядома, можна і тут, і ў карчме няцяжка было затрымаць. Але які сэнс, калі невядома, дзе грошы. Таму ён быццам і вольны, і як бы не апазнаны, хоць, хутчэй за ўсё, ведае пра эскорт з філёраў. Жывінскі лічыць надзейнай гарантыяй паведамленне свайго агента пра вячэрнюю сходку. Пэўна, ён мае рацыю, калі агент стаіць блізка да Скаргавых таварышаў. Але і сам Скарга абавязаны дзівіцца, што яго не бяруць. Як легальна гуляе па горадзе, памясціўся ў гасцініцу, і ніхто не грукае ў дзверы, не крычыць: «Скарга, здавайся!» Ды ўжо адзін гэты няшчасны Пан, забіты, як сведчыў паліцэйскі доктар, стрэлам у скронь каля шасці гадзін раніцы перад выхадам на працу, ужо адзін выгляд гэтай беднай ахвяры павінен быў прымусіць Скаргу да лісінай насцярожанасці. Цяжка зразумець гэтага збеглага. Магчыма, ён зусім не думае, плыве на хвалі ўдачы. Што ўдачлівы— дык гэтага не адняць, адны ўцёкі з харкаўскай турмы чаго вартыя...

За сцяной пачуліся стогны спружыны і крокі. Я зразумеў, што эсэр падышоў да акна. Я таксама падняўся і падышоў да акна. Даволі густы натоўп рухаўся па вузкім тратуары. Сярод такога мноства людзей Скарга філёраў не адшукае. Але я аднаго ўбачыў — ён весела размаўляў з дамай. Магчыма, што і дама была нашым агентам. Праваруч мне адкрывалася частка Саборнай плошчы са званіцамі езуіцкага касцёла[14] і вежай ратушы, ля двухпавярховага губернатарскага дома[15] праходжваліся гарадавыя. Паўтара года назад з высокіх дзвярэй гэтага былога езуіцкага калегіума павінны былі вынесці нагамі наперад губернатара Курлова. Ва ўсялякім разе так мроілася баевікам. Але Курлоў жывы, яго ўзялі ў Пецярбург, прызначылі шэфам нашага корпуса, а эсэр Пуліхаў ляжыць у зямлі. І карысці ад ягонай акцыі нікому і ніякай. Наіўныя людзі, падумаў я, зачараваныя марай сляпцы. Я адчуваў да іх шчыры жаль. Ды ведалі б яны, што дзесяткі чыноўнікаў і афіцэраў глыбока ўдзячныя ім за забойства якога-не-



будзь губернатара ці палкавога камандзіра, прystава ці звычайнага гарадавога. Адразу адчыняецца вакансія, рыўком ідзе кар'ера. За кожным фатэлем і месцам даўно выстраіўся шыхт прэтэндэнтаў. Уголас яны гнюснае палітычнае забойства, зразумела, асудзяць і будуць патрабаваць найстражэйшых мер помсты, але ў душы, але дома перад абразамі памоляцца за прасцякабаевіка, які коштам уласнага жыцця падштрухнуў іх наверх. Наўрад ці трапіў бы Курлоў у шэфы жандараў, не кінь Пуліхаў яму ў галаву самаробную бомбу. Пашчасціла — не выбухнула гэтая бомба, але ўсё роўна Курлоў — як бы ахвяра тэрору. Ну няхай у адзін дзень усе міністры і генерал-губернатары загінуць ад эсэраўскіх куль, усё роўна назаўтра сядуць у апусцелыя крэслы іх наступнікі. Ну нехта загінуў — асабістае нешанцаванне. Цароў забівалі — і нічога не змянілася. Цэзара закалолі кінжалам. На месца забітага сядае жывы, а дзяржава застаецца, яе ніхто не разваліць. Няма такіх куль. Усе ў яе павуцінні заблытаны — і тыя, хто супраць сённяшняй улады, і тыя, хто за яе. Божа, хрысціянства зрабілі дзяржаўным, папы, як чыноўнікі, працуюць, паліцмайстар усе таямніцы споведзяў ведае раней за бога... Дык што ж казаць пра палітычныя партыі, якія не тоячыся прэтэндуюць на ўладу? Але калі ўлада, дык як быць з брацтвам, роўнасцю, свабодай? Улада — спрадвечная няроўнасць. Узялі ўладу, селі ў крэслы, пачалі камандаваць, прымушаць «вызвалены народ» да спакою і працы. Цікава, як эсэры з эсдэкамі збіраюцца гэты вузел развязаць? Усе — браты, але адны камандуюць, другія —аруць...

У суседнім пакоі стукнуў клапан рукамыйніка і пачала плюхаць вада. Хутка Скарга выйшаў з нумара. Мне хацелася пайсці за ім, але я не наважыўся. Адчыніш дзверы — а ён стаіць насупраць цябе, усміхаецца: маўляў, не хвалюйся, не ўцёк. Ды і ці мала куды ён можа выйсці? Да ветру — таксама прычына. Не, падумаў я, трэба трымацца прынятай ролі. Сказаў Скарга, што зойдзе,— дык ляжы і чакай. А ўцячэ — гэта Жывінскага бяда, ён трымае казырны туз — данясенне агента. Я зноў прылёг на ложак і пастараўся думаць пра сына, каб не ламаць галаву над не залежнымі ад маёй волі ўчынкамі збеглага эсэра.

Ён вярнуўся праз чвэрць гадзіны. І не адзін. Я ператварыўся ў слых. Праклятыя спружыны не дазвалялі мне ўскочыць і прыкласціся вухам да сцяны. Потым Скарга сказаў свайму наведніку доўгую фразу моцна. Я распазнаў толькі тры словы: «...дзесяць хвілін... ціха...» У іх грукнулі дзверы, і адразу да мяне ўвайшоў Скарга. Свой карычневы пінжак, складзены падшэўкай наверх, ён трымаў на сагнутай руцэ.

— Што, ідзём? — спытаў я, прыўздымаючыся.

— Ляжы, ляжы,— супакойліва адказаў ён, кінуў пінжак на стол, і на мяне нацэлілася руля нікеляванага пісталета. Я ведаў са справы, што гэты пісталет Скарга забраў у доктара разам з пашпартам, гадзіннікам, гарнітурам, капелюшом і сакваяжам, што ў абойме восем патронаў, і ні адзін з іх яшчэ не зрасходаваны.

— Ты што! — толькі і знайшоўся я запярэчыць. У сваім голасе я сам пачуў здрадніцкі хрып ад страху.

— Хопіць хлусіць,— сказаў Скарга.— Там у мяне прывязаны да стула філёр. Той, у кепачцы, што сачыў за намі ў карчме...

«Асёл! — падумаў я з нянавісцю.— Адчуваў жа, што гэты асёл усё загубіць».

— Ён сёе-тое мне даверліва паведаміў,— працягваў баявік.— Так што, не будзем марнаваць час. Тым больш, што я і сам не сляпы.

— Ну і што ты жадаеш даведацца ад мяне? — спытаў я, намагаючыся сабраць волю. Чорная дзірачка ў нікеляваным ствале мяне заварожвала.

— Чаму мяне не бяруць? Тваё заданне? Калі плануюць узяць?

— Наколькі я ведаю, Скарга,— адказаў я, шукаючы ратунку ад здрадніцтва,— цябе пасля арышту катавалі, але ты нічога не выдаў. Чаму ж ты хочаш з мяне зрабіць нягодніка?

— Катаваць цябе я не маю часу,— сказаў ён ледзяным тонам.— Ды і не навучаны. Я проста ўганю табе кулю ў лоб. І ты разумееш, што іншага выйсця ў мяне няма.

Нічога я не разумеў, хоць і разумеў, што ўсё, што бачу і чую,— рэальнасць. Спіна мая налілася чыгунным цяжарам, мне хацелася закрыць вочы і заснуць. Памяць адрадзіла карціну, як я поўз з трыма пластунамі па сопцы да японскага акопа да «языка» і падаў з нажом на скаванага жахам японца; потым мне ўзгадалася, як я адбіваўся шабляй ад штыха, і яшчэ я ўбачыў сябе наперадзе сваёй роты з запаленай папяроскай у руцэ — я вёў роту ў атаку і курыў з той жа павольнасцю, як паляць у салонах. Але зараз я баяўся, па целе расцякаўся страх і гасіў маю волю. Гэты збеглы эсэр не запалохваў мяне, ён не блефаваў, бясстрасны скамянелы твар даказваў, што гэты чалавек стрымае слова. Баявік прапанаваў выбар, і я падпарадкаваўся.

— Ну што,— сказаў я,— пройгрыш прыходзіцца аддаваць.— Кроў стукала ў скронях, я ліхаманкава абдумаў прымальную ступень прызнання.— Мая задача абмяжоўвалася кур'ерскімі абавязкамі — прыняць грошы. Калі дадуць. З гэтай прычыны цябе не хапаюць. Але калі і як будуць браць — я не ведаю. Гэта справа мінскага ўпраўлення...

Такі адказ, хоць і праўдзівы, не мог задаволіць баевіка; усё гэта ён ведаў ці разумеў. Я адчуваў, як нарастае ягонае раздражненне і фармуецца жорсткая рашучасць абвясціць прысуд. Расказваць усё пад страхам смерці не дазваляла мая годнасць, але моўчкі чакаць стрэлу было мне таксама не пад сілу; панічна, як мыш, шукаў я выратавальную шчылінку. Калі б я сам не ламаў волю людзям, не патрабаваў здрадніцтва ў абмен на жыццё ці свабоду, дык, напэўна, працягваў бы адстайваць дурны тэзіс пра сваю недасведчанасць, падштурхоўваць канфлікт да трагічнай для сябе развязкі. Але я ведаў стан розуму пры такіх хуткіх допытах. Кожнае маё слова Скарга ўзважваў на вагах праўды, суадносіў з мноствам абставін, з мінулым, з невядомай мне інфармацыяй. Скарга чакаў якой-небудзь следчай таямніцы, якая б дапамагла яму ўбачыць нябачнае і рассакрэчванне якой было б службовым злачынствам.

— Мне вядома другое,— сказаў я, адчуваючы шчасце смертніка, абнадзеянага адменай прысуду.— Вы лічыце нас падлюгамі. Ты ўпэўнены, што твой таварыш Пан застрэліўся. Сам сябе. Дык вось,— я памарудзіў, бачачы, што трапляю ў дзесятку,— ён забіты сёння раніцай. Але нашыя людзі адносін да гэтага не маюць. Гэта дакладна, Скарга. Забіты! — паўтарыў я, чытаючы ў ягоных вачах разгубленасць і недавер.— Нашы ўпэўнены, што Пан стаў ахвярай вашых унутраных сварак. І яшчэ, Скарга,— спакусы жыцця туманілі мне мозг, я хацеў выратавацца і даказваў сваю шчырасць.— Год таму назад цябе ўзялі з адозвамі. Дык ведай: цябе ўзялі па даносу. Нехта даў вестку праз тэлефон, што вечарам, каля васьмі гадзін, чалавек з прозвішчам Булевіч прынясе ў дэпо пракламацыі...

Я бачыў, што мае словы трапілі ў балючую кропку. Уваткнуліся ў яе, як нож. Гэтая нечаканая для яго навіна была цалкам праўдзівая: пра існаванне таямнічага даносчыка я даведаўся яшчэ ў Смаленску, калі мяне знаёмілі са справай Скаргі, з акалічнасцямі арышту і ўцёкаў... Я пацэліў у яблычка, баявік страціў да мяне цікавасць; я адчуў, што ягоныя думкі віхурацца вакол асобы даносчыка. Было неабходна замацаваць нечаканую перамогу, і я сказаў:

— Выпусці ў мяне хоць усю абойму, але больш што сказаць не маю. І ўсё ж, няхай ты зараз чуешся пераможцам, даю табе параду: бяры рамізніка — і гані чым далей ад Мінска. Ты ўдачлівы, можа, табе і пашанцуе...

— Лепш бы ты памаліўся,— адказаў Скарга,— бо і табе зараз пашанцавала.

Ён узяў пінжак, ключ, выйшаў з нумара, ключ двойчы павярнуўся ў замку, а я, знясілены перажытым, некалькі хвілін не меў моцы ўзняцца. Думкі мае былі нікчэмныя. Я думаў, што кожнага чала-

90 руб. въ мѣсяцъ

ОБУЧАЮ РЕМЕСЛАМЪ

ПЛЮШЕВОЕ ПАЛЬТО за 10 р. 90 к.






ROBERT-KOCH-PLATZ

















HANNOVER
WILH
SCHUMANN STR.
HERMANN-MATERN-STR.
REINHARDSTR.
SCHIFFBAUERDAMM
BEHRENSTR
OTTO-GROTEWOHL-STR.
DDR

## У АБ'ЕКТЫВЕ — DDR

Фота Льва ТЭУША